ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

11 сакавіка 1994 г. № 10 (3732) Кошт 50 руб.

## ТАЛЕРАНТНАСЦЬ: ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

***Генадзь ПРАНЕВІЧ: «На жаль, састарэлыя перажыткі нявольніцкай беларускай ментальнасці адгукаюцца і ў сённяшняй Беларусі, што ступіла на шлях будаўніцтва ўласнай, суверэннай дзяржавы».***

**5, 12**

## КОНІ

***Апавяданне Марыі ВАЙЦЯШОНАК***

**8-9**

## КРЫК АДЧАЮ І БОЛЮ

***Аляксей САЛАМОНАЎ: «Любы народ, у тым ліку, вядома, і беларускі, павінен ведаць сваю гісторыю, сваё мінулае. Каб ведаць, хто ён такі, і планаваць будучыню з улікам свайго менталітэту».***

**12**

## КАРСКІ — ДЗЯДЗЬКА КАРСКАГА

***Апанас ЦЫХУН: «Імя Івана Ануфрыевіча Карскага павінна быць увекавечана так, як і імя яго пляменніка, заснавальніка беларускага мовазнаўства і філалогіі Яўхіма Фёдаравіча Карскага... Але імя яго забыта, яно не значыцца ні ў БелСЭ, ні ў ЭЛіМБеле...»***

**13**



## FAMILIA

**Калі ў дачыненні да творцаў гавораць «сям'я», дык часцей за ўсё маецца на ўвазе пераемнасць традыцый і стылёвае адзінства. Сапраўды, у работах Арлена, Ігара і Тодара Кашкурэвічаў ёсць нешта агульнае, ды, разам з тым, кожны з названых мастакоў — асоба арыгінальная, на іншых не падобная.**

**Прадстаўляць старэйшага з сям'і, Арлена Міхайлавіча, вялікай патрэбы няма. Больш за трыццаць год ніводзін сур'ёзны дослед, ніводзін аналітычны артыкул па беларускай графіцы не абыходзіцца без згадкі пра гэтага знанага майстра. Адна з вяршыняў ягонай творчасці — ілюстрацыі да «Фаўста» атрымалі прызнанне на радзіме Гётэ, у Германіі. Нямецкія крытыкі і мастацтвазнаўцы называюць іх у ліку лепшых сучасных інтэрпрэтацый вобразаў свайго нацыянальнага генія. Еўрапейскі кантэкст, нацыянальная адметнасць /без этнаграфічнай просталінейнасці» — вось што і сёння вызначае творчае аблічча Арлена Кашкурэвіча.**

**Метафарычнасць і містыцызм старэйшага Кашкурэвіча своеасабліва трансфармаваны ў работах ягоных сыноў. Тодар яшчэ прытрымліваецца фігуратыўнасці, а Ігар знайшоў сябе ў абстрагаваных формах. Знайшоў — можа, і не зусім дакладна. Абодва маладыя мастакі сёння шмат эксперыментуюць — з тэхнікай, з фармальнай пабудовай аркуша і палатна, з выразнымі сродкамі. Выстава жывапісу і графікі «Familia», якая адбылася на пачатку года, дазваляе сцвярджаць: ёсць выяўленчая культура, ёсць жаданне ісці сваім шляхам.**

**Сёння ўжо няма «адзіна правільнага» погляду на свет. Для кагосьці са старэйшага пакалення — гэта трагедыя. Але толькі не для таго, хто слухаўся сэрца, а не начальства. Хацелася б, каб унутраная свабода і пачуццё адказнасці перад гледачом, заўжды ўласцівыя Арлену Міхайлавічу, сталі б вызначальнымі і для Ігара і Тодара Кашкурэвічаў. А ўжо ў якіх стылёвых формах мастак сябе рэалізуе — асабістая справа майстра.**

**В. БОГУШ**



# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

*Прэзідэнцкая кампанія на Беларусі пачалася задоўга да таго, як Вярхоўны Савет зацвердзіў сам інстытут прэзідэнцтва. З прыцэлам на будучыя выбары прэм'ер-міністр дэманстраваў напярэдадні 23 лютага сваю прыязнасць да ветэранаў Узброеных Сіл СССР і прамаскоўскі настроеных афіцэраў Узброеных Сіл Беларусі, хадзіў напярэдадні Дня міліцыі на ўрачысты сход да міліцыянтаў, сустракаўся напярэдадні 8 сакавіка са спецыяльна адабранымі для гэтай імпрэзы жанчынамі. Аналагічную сустрэчу з жанчынамі меў і сп. Грыб.*

*Натхнёныя абяцаннямі прэм'ера і Старшыні ВС аб светлай будучыні ў прэзідэнцкай рэспубліцы Беларусі ў складзе расійскай рублёвай зоны, жанчыны выйшлі 8 сакавіка на мітынг ля Дома ўрада патрабаваць хутчэйшага «аб'яднання» грашовых сістэм, далучэння Беларусі да Расійскай Федэрацыі, аднаўлення СССР. Выйшлі пад чырвонымі савецкімі і чырвона-зялёнымі БССРаўскімі сцягамі. Мабыць, праўду кажуць, што жаночая памяць кароткая. Забыліся цёткі, як праводзілі сыноў на афганскую вайну? А мо на плошчы былі тыя, каго «интернациональный долг» не датычыў, хто і цяпер спадзяецца, што расплачвацца за расійскую нафту будуць чужыя дзеці?*

## ГЖЭЧНАСЦЬ ТЫДНЯ

Міністэрства інфармацыі РБ на чале з А. Бутэвічам наладзіла святочны прыём у гонар жанчын — прадстаўніц сродкаў масавай інфармацыі. Журналісткі былі прыемна ўражаны, а некаторыя нават расчулены праяваю такой увагі. Падараваныя ружы і сувеніры, а таксама гжэчнасць гаспадароў канчаткова пакарылі жаночыя сэрцы. Відавочна, што крытыкі ў адрас вышэйзгаданага міністэрства ў друку будзе яшчэ меней...

## ЗАЯВА ТЫДНЯ

Апошнім часам некаторыя народныя суддзі Беларусі пачалі скарыстоўваць у судовай практыцы міжнародныя нормы, не адаптаваныя ў наша нацыянальнае заканадаўства. Па скаргах абвінавачаных і іх адвакатаў адмяняецца такая мера стрымання, як арышт. Пратэсты пракурораў ігнаруюцца.
У сувязі з гэтым калегія Пракуратуры РБ выступіла з заявай, адзначыўшы, што такая практыка апераджае нарматворчы працэс.
Тое, што Беларусь далучылася да міжнародных пагадненняў, у прыватнасці, да Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах /ратыфікаваны Беларуссю яшчэ ў 1973 годзе/, справа добрая. Але чаму дагэтуль нацыянальнае заканадаўства не прыведзена ў адпаведнасць з міжнароднымі нормамі? Прызвычаіліся за савецкім часам да двайной маралі і двайной бухгалтэрыі і маем тую ж практыку ў суверэннай Беларусі. У дадзеным выпадку пракуратура — крайняя.

## ВЫКРЫЦЦЁ ТЫДНЯ

Пасля адклікання з пасады Станіслава Шушкевіча старшыня «антымафіёзнай» камісіі Аляксандр Лукашэнка ўзяў на сябе павышаныя абавязацельствы і паабяцаў выкрыць яшчэ не меней двух дзесяткаў высокапастаўленых асоб. Днямі ён заявіў, што план перавыкананы. 15 сакавіка ён мае намер выступіць на сесіі і абнародаваць спіс з прыкладна 50 асоб, па якіх быццам бы плача турма. Не разумее сп. Лукашэнка намёкаў. Сказалі ж яму старэйшыя таварышы, што з мафіяй на Беларусі пакончана, а ён ўсё пра сваё... Ці не на сваю галаву ўзгадавала наменклатура Лукашэнку?

## ЗДЗЕЛКА ТЫДНЯ

Урад Беларусі ўнёс на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет пагадненне аб перадачы «Белтрансгаза» расійскаму акцыянернаму таварыству «Газпром». Зямля пад аб'ектамі «Белтрансгаза» перадаецца Расіі ў арэнду на 99 гадоў... Рэспубліка Беларусь гарантуе, што маёмасць, якая перадаецца ў выніку пагаднення, інвестыцыі РАТ «Газпром», якія будуць ажыццяўляцца на тэрыторыі рэспублікі, не падлягаюць канфіскацыі, нацыяналізацыі і рэквізіцыі. Рэспубліка Беларусь гарантуе таксама свабодны транзіт расійскага прыроднага газу на экспарт.
Па падліках старшыні Камісіі ВС па эканамічнай рэформе дэпутата Леаніда Козіка, Беларусь у выніку гэтага пагаднення /калі яно будзе ратыфікавана/ атрымае толькі 0,5 працэнта акцый «Газпрома». Кошт усіх газаправодаў і перапампоўваючых станцый «Белтрансгазу» саўмінаўскімі і маскоўскімі экспертамі ацэнены ў 1,2 мільярды рублёў. У той час як больш каштуе метал, з якога выраблены трубы. На думку Л. Козіка, усё гэта можа скончыцца тым, што Беларусь будзе вымушана прадаць Расіі сваю частку акцый, і тады ўжо Расія будзе гнаць свой газ на Захад бясплатна.

## БЕСТСЕЛЕР ТЫДНЯ

У час сесіі Вярхоўнага Савета ў парламенцкім фае працуе перасоўная кнігарня. Найбольшым попытам сярод дэпутатаў карыстаецца кніжка з «карцінкамі» пад назвай «Сексология. Энциклопедический справочник». Кошт — 25 тысяч рублёў.

## ПЕРАВЫТВОРЧАСЦЬ ТЫДНЯ

За апошнія два-тры гады падвоілася колькасць генералаў у расійскім войску. Толькі пры Генштабе і Міністэрстве абароны Расіі цяпер налічваецца на забеспячэнні 1700 генеральскіх чыноў. А нам якая справа? А такая, што пры шчыльных ваенна-палітычных стасунках Расіі і Беларусі іхніх генералаў хутка пачнуць камандзіраваць «на ўзмацненне» Беларускага войска. А прасцей кажучы, у Беларусь «на кормление». Адначасова з краін Садружнасці ў Расійскае войска перацягваюцца больш высокай зарплатай высакакласныя вайсковыя спецыялісты. У тым ліку і з Беларусі.

## «НЕПАРАЗУМЕННЕ» ТЫДНЯ

Насуперак папярэднім дамоўленасцям і заявам, Міністэрства замежных спраў Расіі заявіла: Расія не брала на сябе абавязкаў вывесці войскі з Эстоніі да 31 жніўня. МЗС Эстоніі тут жа папярэдзіла: калі Расія адмовіцца выконваць узгоднены раней тэрмін, Эстонія разгледзіць пытанне аб мэтазгоднасці далейшых перамоваў /а значыць, і добрасуседскіх стасункаў/ з Расіяй. Расія ўвязвае пытанне аб вывадзе войскаў з пытаннем правоў чалавека /рускамоўнага/ у Эстоніі і трактуе прысутнасць сваіх вайсковых кантынгентаў як гаранта рэалізацыі гэтых правоў. Эстонія ж лічыць такі стыль паводзін расійскай дыпламатыі ўмяшаннем у свае ўнутраныя справы. Ёсць над чым задумацца і нам у гэтай сітуацыі.

## ВЫЛУЧЭННЕ ТЫДНЯ

7 сакавіка па запрашэнні мясцовай філіі БСДГ Станіслаў Шушкевіч наведаў Гародню. У Доме культуры хімікаў адбылася сустрэча з гарадзенцамі. Па выніках сустрэчы была прынята рэзалюцыя, адзін з пунктаў якой — прасіць Шушкевіча даць згоду на вылучэнне сваёй кандыдатуры на мяркуемых прэзідэнцкіх выбарах.

З нагоды

# СПАЧАТКУ — ПАРЛАМЕНТ, ПОТЫМ — ПРЭЗІДЭНТ

***Вернецца беларускі парламент з чарговых вакацыяў і прыме Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь. Гэты дзень будзе абвешчаны нацыянальным святам, а мы з вамі /дзякуй Вярхоўнаму Савету і ўраду/ атрымаем у дадатак да існуючых яшчэ адзін выхадны дзень.***

Тое, што Канстытуцыя будзе прынята менавіта гэтым Вярхоўным Саветам, — рэч, на першы погляд, амаль неверагодная. Бо мы ўжо забыліся, калі ў авальнай зале быў кворум. Народныя дэпутаты, здаецца, дагэтуль /прынамсі, большасць з іх/ не ўцямілі, што азначае замежнае слова «рэгламент». І ўвогуле, усе гады, што прайшлі з часу абрання гэтага ВС мы былі сведкамі не працы парламента, а ягонай вучобы. Кожнае пасяджэнне ператваралася ў палітычны «ликбез» для дарослых дзядзькоў і пакуты для журналістаў, якія былі вымушаны на гэта глядзець і пра гэта пісаць.

Ці то Беларусь — краіна парадоксаў, ці то час такі «смешны». Выканаўчая ўлада /Саўмін/, якая, здавалася б, кроку не можа ступіць, не зверыўшы яго з існуючым заканадаўствам, робіць што хоча. А заканадаўчая ўлада /Вярхоўны Савет/, які нібыта і валодае адноснай палітычнай воляй, досыць часта вымушаны рабіць тое, што ніяк не стасуецца ні з ягоным менталітэтам, ні з ягонымі памкненнямі.

Не хацелі прымаць Дэкларацыю аб суверэнітэце — прынялі. Не хацелі надаваць ёй статус канстытуцыйнага закона — галасавалі «за». Марылі застацца ў Савецкім Саюзе — ратыфікавалі Віскулёўскія пагадненні. Не хочуць яны ніякай канстытуцыі, акрамя БССРаўскай, — а вось-вось прымуць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.

Што прымушае іх дзейнічаць так? У тым і парадокс, што яны не маюць іншай магчымасці забяспечыць свае асабістыя інтарэсы. У свой час юрыдычнай незалежнасцю Беларусі яны абараняліся ад непрадказальнасці і ваяўнічага антыкамунізму расійскага лідэра Барыса Ельцына. Улюбёныя ў СССР, яны, тым не менш, надалі сілу закона факту дэмантажу СССР, бо асноўную ролю ў гэтай акцыі выконвала Расія, і яны спадзяваліся, што Расія ў асобе Ельцына не забудзе гэтай паслугі ВС Беларусі, а значыць, і іх асабіста.

Як у Савецкім Саюзе прынялі новую канстытуцыю дзеля аднаго новага артыкула — аб кіруючай ролі КПСС, так і зараз у незалежнай Беларусі ўсё гэта робіцца дзеля адной мэты — падвядзення заканадаўчай базы пад інстытут прэзідэнцтва. Прэзідэнт ад наменклатуры дасць ім тое, што яны яшчэ не паспелі альбо не здолелі ўзяць самі за час свайго дэпутацтва. Абараніць іхнія эканамічныя і палітычныя інтарэсы — сёння і ў перспектыве. Толькі прэзідэнт павінен быць «свой». Кебіч ці які-небудзь Лукашэнка. А калі Шушкевіч? А калі Пазняк? Перамога на выбарах дэмакрата альбо проста прыстойнага чалавека створыць для сённяшняй наменклатуры шмат праблем. Не выключаны і «разбор палётаў» /выраз Пазняка/, а значыць, і азнаямленне ў прысутнасці следчага з пэўнымі артыкуламі Крымінальнага кодэкса. Бо сённяшняя ўлада жыве па прынцыпе «пасля нас — хоць патоп!» А хто захоча мяняць камфартабельны катэдж на пакой з закратаванымі акенцамі?

Таму, мяркую, у выпадку паразы на прэзідэнцкіх выбарах, наменклатура проста абвесціць вынікі выбараў несапраўднымі. Вопыт ёсць: прыгадаем, як улады праігнаравалі волевыяўленне амаль паўмільёна грамадзян Беларусі, якія выказаліся за правядзенне рэферэндуму аб недаверы Вярхоўнаму Савету і датэрміновых выбарах. Спадар Булахаў /яму звыкла/ падвядзе пад чарговы «произвол» юрыдычную базу, а «дзяржсакратар» спадар Данілаў, беручы да ўвагі наш удзел у «коллективной безопасности», пакліча на Беларусь «войскі Садружнасці» пад выглядам «абароны сацыяльнай стабільнасці і прадухілення магчымых правакацый з боку нацыянал-экстрэмістаў». Фармулёўка, можа, будзе крыху іншай, але змест той жа — акупацыя Беларусі расійскімі войскамі.

Так што выбары прэзідэнта пры гэтым урадзе і гэтым Вярхоўным Савеце могуць наблізіць нас не да дэмакратыі, а падвесці да дыктатуры і да страты незалежнасці. Пакуль ва ўладзе сённяшні Саўмін і ВС, гэтыя выбары — акцыя для нашай дзяржаўнасці небяспечная. Дбаючы пра дзяржаву і народ, выбары прэзідэнта можна ладзіць толькі пасля абрання новага парламента і, у сваю чаргу, фарміравання новага ўрада. Жылі мы без прэзідэнта колькі год, пражывём і колькі месяцаў.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**



# ПЕРАКЛАДЗЕНА Ў ВІЛЬНІ, ВЫДАДЗЕНА Ў ІЗРАІЛІ


The Five Biblical Scrolls
in a Sixteenth-Century
Jewish Translation into
Belorussian
(Vilnius Codex 262)
with Introduction and Notes by
MOSHÉ ALTBAUER

Прыемная падзея адбылася нядаўна ў Скарынаўскім цэнтры. Падарунак, які зрабіў Цэнтру пасол Рэспублікі Ізраіль у Беларусі Эліяху Валк, мае значную навуковую і культурную каштоўнасць. Гэта — пераклад пяці кніг Бібліі на старажытнабеларускую мову, ажыццёўлены ў Вільні ў першай палавіне XVI стагоддзя. А выдаў яго ў Ізраілі гісторык-славіст Мошэ Альтбаўэр, які даўно цікавіцца беларуска-яўрэйскімі культурнымі сувязямі і марыць наведаць Беларусь. Магчыма, ягонае жаданне спраўдзіцца падчас канферэнцыі «Яўрэйская культура Беларусі і яе ўзаемадзеянне з іншымі культурамі», якая запланавана на май.

— Віленскі пераклад сведчыць, што ў сваім падзвіжніцтве Скарына быў не адзінокі. Наблізіць Святое пісанне да жывой беларускай мовы было імкненнем часу, а самі адраджэнскія працэсы ў XVI стагоддзі былі распаўсюджаны больш, чым нам сёння ўяўляецца, — так пракаменціраваў гэтую падзею кіраўнік Цэнтра спадар Адам Мальдзіс.

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Адгалоскі

# НЕДАРЭЧНАСЦЬ!

Няўменне ці нежаданне пільна ўгледзецца ў падзеі гісторыі, ачысціць іх ад ідэалагічных наліпаў вядзе да цэлага шэрагу недарэчных праяў, якія маюць больш чым дастаткова шанцаў стаць перашкодай у пабудове сапраўды дэмакратычнага грамадства. Год з лішкам назад Міністэрства абароны Беларусі выказала прапанову прызначыць Днём беларускага войска 31 снежня. Штучнасць прывязкі свята да апошняга дня года была да такой ступені відавочнай, што ва ўладных структурах гэта тэма нават і не дыскутавалася.

Але ж сёлета неяк раптоўна Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, улічыўшы «хадайніцтва ветэранаў, ваеннаслужачых, працоўных і Савета Міністраў Беларусі», сваім рашэннем вызначыў 23 лютага як Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. У беларускай гісторыі невядома нават і нязначнай падзеі вызваленчага характару, звязанай менавіта з гэтым зімовым днём. Гэтак жа не прасочваецца сувязь 23 лютага і з Узброенымі Сіламі краіны. Асабліва доўга гадаць тут не выпадае. Нашы заканадаўцы, доўга не думаючы, перанеслі адзін з міфаў нядаўняе мінуўшчыны на сённяшні дзень Беларусі.

Гістарычныя ж рэаліі сведчаць /і пра гэта гаворана было не раз/, што лакальныя баі пад Нарвай і Псковам не былі колькі-небудзь вызначальнымі на заключным этапе Першай сусветнай вайны. Больш таго, нямецкія войскі працягвалі наступальныя дзеянні ва ўсходнім накірунку і праз некаторы час Расія — менавіта Расія — вымушана была заключыць дастаткова кабальнае Брэсцкае мірнае пагадненне з Германіяй. Менавіта з тае пары Беларусь зведала немалы шэраг падзелаў, «разукрупнений» ды «укрупнений» сваёй тэрыторыі.

Разважаць адносна неадпаведнасці Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь, прызначанага на 23 лютага, з гістарычнымі падзеямі на нашых землях сёння проста бессэнсоўна. Адзначым хіба колькі недарэчнасцей, якія ўзнікаюць па прычыне нежадання ўладных структур успрымаць гісторыю народа як неперарыўны ланцуг узаемаўплывовых і ад гэтага аднолькава значных большых і меншых падзей і фактаў.

І справа нават не ў тым, што 23 лютага роўна пяцьдзесят гадоў таму назад гаўляйтэрам Беларусі Куртам фон Готбергам быў падпісаны загад аб стварэнні Беларускай краёвай абароны, якая мела быць скіравана супраць Чырвонай Арміі і партызанскіх фарміраванняў рознага кшталту. У гэтай сувязі, праўда, неабходна сказаць, што заканадаўцы, прымаючы рашэнні, павінны былі б сувымяраць іх не толькі з уласным ідэалагічным імпэтам, але і айчыннымі гістарычнымі рэаліямі.

Ці з-за нязвычнасці суаднясення 23 лютага з беларускай мінуўшчынай, ці па нейкай іншай прычыне ідэю Дня абароны Айчыны і Узброеных Сіл Беларусі пры першым жа святкаванні падпсавала Беларускае радыё. Пасля віншавальных слоў рэдактара Міхася Вяргейчыка аператар, здаецца, сп. Антонава «крутанула» ці не на ўсю дзяржаву песеньку пра «господ офицеров», у якой раз за разам паўтараліся фразы «за Россию и свободу до конца», «офицеры-россияне, пусть свобода воссияет», «позвала их Россия». Каментарыі тут, думаецца, будуць залішнімі.

Нельга не адчуць і недарэчнасць віншавання, якое было адрасавана 23 лютага праз радыёэфір шэрагу ветэранаў апошняй вайны, ваеннаслужачых, увогуле мужчынскай палове насельніцтва Беларусі і воінам-інтэрнацыяналістам. Як ні паварочвай, а прывязаць вайсковыя дзеянні ў далёкіх пясках Бліжняга Усходу, джунглях В'етнама або гарах Афганістана да ідэі абароны Айчыны, калі такой, зразумела ж, лічыць Беларусь, як і да яе Узброеных Сіл можна толькі дарэшты забыўшыся на існаванне ў свеце хаця б каліва логікі.

Нават гэтыя акалічнасці, звязаныя з упершыню праведзеным нядаўна афіцыйна прызначаным святам, дазваляюць выказацца пра штучнасць прывязкі яго да канкрэтнага лютаўскага дня. Хто і якую Айчыну абараняў у любы з гістарычных перыядаў 23 лютага? Ці прынясуць карысць маладому Беларускаму войску палітызаваныя святы Савецкай дзяржавы? Пакуль жа застаецца толькі шкадаваць адносна адмысловага гістарычнага досведу беларускіх заканадаўцаў. Іх памяць, падобна, не ў стане пранікнуць у сівую мінуўшчыну, багата насычаную праявамі патрыятызму нашых продкаў, якія, баронячы ад ворагаў сябе, усцерагалі тым самым ад нябыту сваіх нашчадкаў — нас сённяшніх.

Ды што там гісторыя далёкая, калі няўспомненым застаўся і святы для кожнага грамадзяніна краіны пяцідзесяцігадовай даўнасці Дзень вызвалення Беларусі 3 ліпеня. Ці ж не гэта дата як нельга лепш увасабляе ідэю абароны Айчыны? Менавіта ў ліпені 1944 года ў вызваленым Мінску адбыўся знакаміты парад беларускіх партызанаў. І ці не гэты дзень мог бы стацца сімвалам яднання патрыятычных сіл дзяржавы дзеля яе будучыні, што мела б значэнне і ў справе выхавання беларускіх вайскоўцаў, сённяшніх гарантаў незалежнасці Беларусі?

**Ігар ЧАРНЯЎСКІ,**
**народны дэпутат Мінгарсавета**

Надзённае

Вольга ІПАТАВА

# ТРЫ ВЕРШЫ

•

**Вецер вухам трэцца аб страху**
**І гудзіць, як ракавіна, гмах.**
**Мне здаецца, што бягу, бягу**
**І спыніцца не магу ніяк,**

**Аж пакуль варожая страла**
**Не прапаліць сэрца назаўжды.**
**Беларусь! Усё, што я магла,**
**Я ўкладала ў гэтыя гады.**

**Ты ж ізноў атрутнае віно**
**Хочаш піць — а сэрца б'ецца ледзь...**
**...Бог заслону апусціў — даўно**
**Гэткіх драм не хоча ён глядзець...**

## ЧАРНОБЫЛЬ

**Хата. Стогадовы дуб. Крыніца.**
**І буслы, зляцелыя здаля.**
**«Чалавек, дазволь нам пасяліцца.**
**Наймілей нам гэтая зямля».**

**Расчынялі дзюбкі бусляняты.**
**Адпаўзалі гады у лаўжы.**
**І кружылі радасна над хатай**
**Як заслон, два белыя крыжы.**

**...Моц набрала лета сакаўное.**
**Сонца, як расплаўленая ртуць.**
**Толькі дзеці хворыя абое,**
**Ад гнязда ніяк не адлятуць.**

**«Я знарок вам не сказаў пра пашу,**
**Дзе атручанае ўсё навек.**
**Як і я, загінуць дзеці вашы».**
**І смяецца злосна Чалавек.**

**І буслісе пасівелай сніцца**
**Вешчы сон — ахоўні позні знак:**
**Мёртваю вадой бруіць крыніца,**
**І стаіць ля хаты Ваўкалак.**

•

**Над парасткам,**
**безаабаронна-юным**
**Зноў груганоў таропкія кругі.**
**І цягнуць мерцвякі**
**з сатлелых трунаў**
**Як саваны, чырвоныя сцягі...**

Гімн

# ЯК НАБАТНЫ ЗВОН

Кожны з твораў, што ўдзельнічаў у конкурсе на права стаць Дзяржаўным гімнам Рэспублікі Беларусь, цікавы па-свойму, але найперш за ўсё толькі як тэкст песні ці мелодыя. І што ніводзін з іх не «выцягнуў» на статус Дзяржаўнага гімна, думаю, ёсць у гэтым вялікая праўда. Краіна наша апынулася ў незвычайным становішчы, якога не маглі прадбачыць ні паэты, ні кампазітары тых твораў, што прапануюцца ў якасці гімна. Патрэбныя новыя падыходы з улікам рэалій сённяшняга жыцця.

Каб прырода надзяліла мяне паэтычным талентам, я б у тэксце песні-гімна абавязкова ўжыў словы: Незалежнасць /Суверэнітэт/, Адраджэнне, Мова і Чарнобыль, бо доўга будуць хваляваць нас, вызначаць лёс Беларусі. Трэба помніць заўжды, што нас акаляюць тры вялікія па колькасці славянскія народы з больш высокай ступенню нацыянальна-дзяржаўнай і этнічнай самасвядомасці, са значна лепш захаванай нацыянальнай асновай культуры. Калі на дзяржаўным узроўні не клапаціцца пра Суверэнітэт, Адраджэнне, Мову беларускай нацыі, стыхійныя, неарганізаваныя кантакты з гэтымі блізкароднаснымі ў духоўным плане народамі непазбежна будуць весці да яе культурна-моўнай асіміляцыі, ад якой рукой падаць і да поўнай страты незалежнасці. Таму сваім слоўным зместам Дзяржаўны гімн павінен, як набатны звон, клікаць беларусаў да згуртавання, нацыянальнай кансалідацыі. Толькі ўдумайцеся, як удала выконваў сацыяльны заказ бальшавіцкай партыі наш папярэдні Дзяржаўны гімн, маючы такія гучныя выразы: «Мы — беларусы з братняю Руссю», «Нас аб'яднала Леніна імя. Партыя к Шчасцю вядзе...», «У братнім саюзе... Вечна мы будзем», «Дружба народаў — сіла народаў», «Сцяг камунізма — радасці сцяг». Ці ж не відаць цяпер, якое аграмаднае ідэалагічнае ўздзеянне на людзей удалося зрабіць з дапамогай спецыяльна падабраных слоў аўтару тэкста гімна паэту Міхасю Клімковічу? Няўжо ж цяпер, калі трэба словам клікаць народ да Адраджэння, у нас няма такіх паэтаў, і адзінае выйсце — шукаць вершы пяцідзесяцігадовай і яшчэ большай даўніны?

У музыцы нашага Дзяржаўнага гімна трэба спалучыць мінорныя і мажорныя таны, прычым апошнія пажадана ў прыпеве, а ў цэлым жа і тэкст, і музыка павінны вызначацца аптымізмам, а не песімізмам, хаця ў настроі нашых людзей цяпер больш прыгнечанага, самотнага, чым радаснага. Трэба, каб пасля праслухоўвання гімна ў чалавека ўздымаўся настрой, узрастала мера асабістай адказнасці за лёс свайго народа, нараджалася жаданне і самому штосьці карыснае зрабіць для роднай Бацькаўшчыны.

**Леанід ЛЫЧ**

# СУСТРЭЧА САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

Падчас міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Асноўныя пытанні сацыяльнай палітыкі і гаспадарання ў Беларусі і суседніх краінах» /17—20 лютага/, у арганізацыі якой актыўны ўдзел прымала Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, адбылася сустрэча БСДГ з удзельнічаўшымі ў канферэнцыі сацыял-дэмакратычнымі партыямі Германіі, Латвіі, Літвы, Расіі, Швецыі, Эстоніі.

Вынікам сустрэчы стала сумесная заява, у якой адзначана, што на Беларусі ўскладняецца сітуацыя з захаваннем правоў чалавека. Праследаванне актывістаў страйкавага руху сведчыць аб тым, што ўлады імкнуцца сарваць мірныя акцыі грамадзян.

Сацыял-дэмакраты расцанілі гэтыя дзеянні ўрада як спробу ліквідаваць дэмакратычныя прафсаюзы ў краіне і выказалі занепакоенасць наступам уладаў Беларусі на правы чалавека: дзяржаўнай цэнзурай у сродках масавай інфармацыі, абмежаваннем друку, мірных сходаў і дэманстрацый грамадзян.

Удзельнікі сустрэчы ўсё ж спадзяюцца, што ўрад Рэспублікі Беларусь будзе выконваць узятыя на сябе абавязацельствы ў галіне правоў чалавека.

***ЗАСТАЛОСЯ ЧАТЫРЫ ДНІ!***

15 сакавіка заканчваецца падпіска на беларускія выданні

***Падпішыцеся на «ЛіМ» — ужо сёння!***
***Атрымлівайце «ЛіМ» — кожную пятніцу!***
***Чытайце «ЛіМ» — увесь тыдзень!***

Падпісны кошт на тры месяцы - 650 рублёў. Індэкс 63856.

***БУДЗЬМА РАЗАМ!***

З пошты тыдня

# «НАРОДНЫ РУХ...» ЯКОГА НАРОДА?

***У сучасны момант з прэтэнзіямі на напалеонбанапартаўскае галіфэ рэспубліканскага памеру заявіў наваспечаны «Народны рух Беларусі», які ўжо рыхтуецца ператварыцца ў «Народную партыю Беларусі». Навізна «рухаўцаў» уяўная: пад ягоным «народным» покрывам сабраліся «былыя» ў неданошаных фрэнчах сталінскай мадэлі, у памяці якіх ад кіраўнічай «натугі» на будаўніцтве «бальшавіцкага раю» ўзніклі прагалы накшталт канфабуляцыі ў адносінах да гістарычных падзей: для іх чорнае бальшавіцкае мінулае ўяўляецца «светлым», а будучае, дэмакратычнае — чорным. Відаць, у пэўныя тканкі іх шэрага мазгавога рэчыва глыбока пранік бальшавіцкі дальтанізм.***

У балдахіне «Руху» знайшоў сабе прыстанішча пад сцягам зубатаўшчыны і чарнасоценшчыны «Славянский собор», які ніяк не расстаецца з марай зляпіць з трох славянскіх народаў — беларусаў, украінцаў і рускіх — нейкі штучны гібрыд «россиян» пад эгідай Белакаменнай.

У «рухаўцаў» знайшоўся катух і для «Союза офицеров», пераважна адстаўнікоў генералітэту і афіцэрскай эліты вышэйшых рангаў. Іх надта ўжо мучыць настальгія па «тем славным временам», калі нехлямяжыя беларусы пакорліва лізалі /па прызнанні аднаго капітана/ афіцэрскія боты. Калі казаць шчыра, то рускамоўная армія на Беларусі — гэта дзейсны сродак русіфікацыі беларускай нацыі.

У дамешку «рухаўцаў» ёсць і іншыя высеўкі вялікадзяржаўнага шавінізму і пустазелля нацыянальнага нігілізму. Але ўсіх іх яднае адно: нянавісць да нацыянальнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны, да нашай мовы. Яны кінуліся ў наступ на ўсё нацыянальнае, беларускае, каб вытруціць са свядомасці беларусаў іх нацыянальны код, а з цела вырваць /кіпцюрамі двухгаловага, а мо трохгаловага імперскага арла/ душу — родную мову, чаго да канца не адолелі царскія сатрапы і бальшавіцкія камісары. Памкненні «рухаўцаў» — відавочныя: склеіць зноў «чырвоную імперыю», нацягнуць на яе трывалыя абручы таталітарызму і далей карміць паслухмяны статак нехлямяжых беларусаў вербальна-візуальнай поліўкай саўковай дэмагогіі і абяцанкамі «каралеўства вечнай раскошы». Вядома, «былых» можна зразумець: страчаны персаналкі «за выдающиеся заслуги», розныя прывілеі, месцы каля размеркавальнага карыта. Усё гэта — як салодкі сон. Бо, як пісаў паэт Васіль Жуковіч, «быць панамі не надакучыла панам»...

Што датычыць назвы «Народны рух Беларусі», то гэта яўнае блюзнерства, крывадушша. Дзеля гістарычнай справядлівасці для іх стракатага зборышча падышла б толькі назва «Праімперска-расейскі рух на Беларусі».

«Рухаўцы», як ні дзіўна, знаходзяць падтрымку ва ўрадавых структурах: ім шчодра прадстаўляюць сродкі масавай інфармацыі.

«Рухаўцам» падтакваюць сваімі «заявамі-просьбамі» ў прыпрэжку да імперскай аглоблі і г. зв. «канфедэраты», якія, к сораму беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, называюць сябе «шчырымі беларусамі». Іх «шчырасць» хіба толькі ў рэнегацтве...

У хаўрусе з «рухаўцамі» — і абруселыя нацыяналы. Гэта верныя халопы вялікадзяржаўнікаў, аб чым быў заўважыў у свой час правадыр кастрычніцкага перавароту.

Сярод дэнацыяналаў — і ідэйныя натхняльнікі «панславізму», пярэваратні накшталт акулавых.

Калі думаеш пра лёкаяў-рэнегатаў, міжволі ўспамінаеш някрасаўскае: «Люди холопского звания — сущие псы иногда...»

У скрытым палітычным крэда «рухаўцаў» яўна прасвечваецца лабільнасць высноў і пастулатаў»: калі раней яны выказваліся за роспуск аднachасова і ВС і Саўміна, то цяпер патрабуюць толькі роспуску ВС і перадачы ўсіх паўнамоцтваў Саўміну, які, на іх думку, павінен падрыхтаваць і правесці дачасныя выбары. Ад ранейшай уяўнай «апазіцыі» «рухаўцаў» да ўрада засталася звычайная фронда...

«Народны рух Беларусі» — гэта злаякасная пухліна, больш дакладна, сіндром пухлін, штучна ўманціраваных з дапамогай уладных структур і парламенцкай фракцыі «Беларусь» у жывы нацыянальны арганізм беларусаў з мэтай разбурэння ягоных кволых суверэнных тканак, ягонай аслабленай да знямогі імуннай сістэмы, згладжвання нацыянальнай самасвядомасці, культывацыі нацыянальнага нігілізму і пашырэння праімперскіх ідэй...

Сёння, калі злавесны карычневы цень павіс над Белакаменнай, калі кандыдаты ў будучыя «фюрэры» адкрыта пагражаюць сваімі вар'яцкімі ідэямі вялікадзяржаўнага экспансіянізму, дэмакратычныя сілы павінны знітавацца, каб спыніць разрастанне злавесных метастазаў.

**Васіль СОКАЛ**

# ПАДЗЯЛІЦЕСЯ НАБЫТКАМІ

## НА ПЫТАННІ НАШАГА КАРЭСПАНДЭНТА АДКАЗВАЕ ВУЧОНЫ САКРАТАР ДЗЯРЖАЎНАГА МУЗЕЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ ТЭРЭЗА ГОЛУБ

**— Тэрэза Станіславаўна, музей гісторыі беларускай літаратуры створаны досыць даўно, а пра яго існаванне нават пісьменнікі не ўсе ведаюць.. Недахоп рэкламы?**

— Я так не лічу. Зрэшты, у ролі рэкламы можа выступіць і наша з вамі гутарка.

**— Добра. Тады пачнём з самага пачатку.**

— З пастановы Міністэрства культуры Беларусі вынікае, што дзень нараджэння музея — 6 лістапада 1987 года. Пачынальнікам і першым дырэктарам быў Юрый Варанкоў, адначасова дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў. Зараз нашу ўстанову ўзначальвае Леанід Хадкевіч, чалавек апантаны, адданы музейнай справе. Наша задача — адшукаць, сабраць і захаваць для нашчадкаў літаратурную спадчыну. Храналагічныя рамкі музейнага збору досыць шырокія — ад канца 17 ст. да сучаснасці. Аднак профіль і навуковая канцэпцыя патрабуюць большага — адлюстраваць усе этапы самабытнай і багатай літаратуры беларускага народа, ахапіць усю яе гісторыю.

**— Справа, відаць, няпростая. Як і сама гісторыя...**

— Так. Зараз ідзе актыўны працэс збірання, назапашвання і навуковай апрацоўкі экспанатаў. Фарміруецца асноўная экспазіцыя, і хоць яе адкрыццё — справа будучага, але і сёння музей паспяхова працуе, гасцінна сустракае наведвальнікаў.

Нельга не пагадзіцца з выказваннем галоўнага захавальніка фондаў В. Ціханавецкай, што фонды — гэта сэрца музея, а экспазіцыя — яго твар. Супрацоўнікі неаднаразова выязджалі ў пошукавыя экспедыцыі, наладзілі сувязь з роднымі і блізкімі памерлых пісьменнікаў. На нашы просьбы адгукаюцца і сучасныя творцы. Свой асабісты архіў перадаў музею Васіль Быкаў. Але шмат з таго, што магло б узбагаціць экспазіцыю, згарэла ў час вайны, проста згінула, многае вывезена за мяжу. Практычна немагчыма знайсці старажытных кніг, іх увогуле ў Беларусі нямнога. Усяго ў нашым фондзе каля 18 тыс. экспанатаў. Мастацкае рашэнне асноўнай экспазіцыі стварае вядомы мастак, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Эдуард Агуновіч. Распачата афармленне залаў па літаратуры, сярэднявечча, адраджэння, барока, а таксама міфалогіі і фальклору.

**— Усё гэта — у перспектыве, хай сабе і недалёкай. А што ж сёння прапануецца ўвазе наведвальнікаў?**

— З 1991 г. у нас дзейнічае экспазіцыя «Покліч» /аўтар навуковай канцэпцыі М. Пратасевіч/. Яна адлюстроўвае адзін са складанейшых этапаў гісторыка-літаратурнага развіцця Беларусі — перыяд ад Першай сусветнай вайны, склікання Першага ўсебеларускага з'езда, абвяшчэння незалежнасці Беларусі — да 1939 г. Пры гэтым важна падкрэсліць наступнае: пакуль літаратуразнаўчая навука выпрацоўвае новую цэласную канцэпцыю літаратурнага развіцця, вядзе працу па напісанні новай гісторыі беларускай літаратуры, супрацоўнікамі музея ўжо створана экспазіцыя, якая ў пэўнай ступені вырашае згаданыя вышэй праблемы з дапамогай рэдкіх бібліяграфічных выданняў, асабістых рэчаў пісьменнікаў, архіўных дакументаў і да т. п. Усё разам узятае стварае цэласны малюнак нацыянальна-культурнага і літаратурнага жыцця Беларусі пачатку веку, паказвае згубны ўплыў таталітарнай сістэмы на літаратуру як від мастацтва, на лёс пісьменнікаў і іх твораў.

«Покліч» — назва вельмі аб'ёмная, яна заключае ў сабе глыбокі сэнс. Як мне здаецца, гэта покліч нашых сэрцаў ведаць праўду пра той жорсткі час: час Гулагаў і Курапатаў.

**— Відаць, і тут былі праблемы з экспанатамі?**

— У 20—30-ыя гады многія проста баяліся захоўваць асабістыя рэчы, творы пісьменнікаў, залічаных у ворагі народа. Тым не менш тое-сёе захавалася. Мы маем, напрыклад, альбом Міхася Чарота, з якога следчыя органы павыдзіралі фотаздымкі, скрыпку Міколы Нікановіча, пояс, вытканы для Васіля Каваля яго сястрой, ручнік, вышыты хворай маці Паўлюка Труса і інш. Нізкі паклон усім, хто захаваў і перадаў нам гэтыя бясцэнныя рэліквіі.

Дзеючая экспазіцыя пабудавана на прынцыпе кантрасту. З фотаздымкаў на нас пазіраюць добрыя, поўныя жыцця і надзей вочы, і тут жа, побач — сведкі трагічнага лёсу ўладальнікаў: пашкоджаныя рукапісы, пратаколы вобыскаў, турэмныя, у профіль і анфас, здымкі ўжо зусім інакшых людзей — знясіленых, падаўленых...

Крывёй на сцяне турэмнай камеры паэт напісаў верш, які нікога не пакіне раўнадушным. М. Чарот як бы гаворыць ад імя ўсіх нявінна асуджаных:

**Я не чакаў**
**І не гадаў,**
**Бо жыў з адкрытаю душою,**
**Што стрэне лютая бяда,**
**Падружыць з допытам,**
**З турмою.**
**Прадажных здрайцаў ліхвяры**
**Мяне заціснулі за краты.**
**Я прысягаю вам, сябры,**
**Мае палі,**
**Мае бары,**
**Кажу вам — я не вінаваты.**
**Паверце — я не вінаваты.**

Акрамя таго, «Покліч» адлюстроўвае дзейнасць тагачасных літаб'яднанняў і нацыянальных меншасцей, мае раздзел па літаратуры Заходняй Беларусі.

**— Усё вамі сказанае, Тэрэза Станіславаўна, наводзіць на думку, што ваш музей — адзіная пакуль што даступная крыніца ведаў для настаўнікаў, студэнтаў, вучняў /маюцца на ўвазе да нядаўняга часу закрытыя звесткі/.**

— Я з вамі згодна. Настаўнікі да нас часта звяртаюцца па дапамогу, мы ім не адмаўляем. Але ж і малыя дзеці прыходзяць да нас цэлымі класамі і садаўскімі групамі. Для іх у нас маецца часовая выстава з назвай «Дзіва». Акрамя мастацкіх кніжак для малодшага школьнага ўзросту, там шмат казачных персанажаў, лялек, выяў жывёл, вырабаў народнай творчасці. Мы стараемся разнастаіць формы работы: праводзім прэзентацыі новых кніг, сустрэчы з літаратарамі, «круглыя сталы», канферэнцыі і да т. п.

**— У нейкім сэнсе вам пашанцавала. Амаль усе раней створаныя музеі стаяць перад неабходнасцю карэннага абнаўлення, перагляду сваіх канцэпцый. Вы ж можаце не траціць сіл і сродкаў на пераадоленне догмаў і рухацца наперад шпарчэй. Што перашкаджае?**

— Адзін муляж рарытэта каштуе сёння мільёны, а без муляжоў, на жаль, мы абысціся не можам. Прычым вырабляюць іх у асноўным за межамі рэспублікі — у Маскве, Санкт-Пецярбурзе... Нягледзячы на цяжкасці фінансавання, мы ўсё ж збіраемся адкрываць і новыя філіялы.

**— Мы яшчэ, даруйце, не сказалі пра старыя...**

— Дзейнічаюць музеі Францішка Багушэвіча ў Кушлянах і Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы. Адкрыем у гэтым годзе музей Кузьмы Чорнага ў Цімкавічах. У перспектыве з'явяцца філіялы ў гонар Дуніна-Марцінкевіча, Адама Міцкевіча, Браніслава Тарашкевіча, Ігната Буйніцкага, Кастуся Каліноўскага і інш. На ўсё гэта патрабуюцца сродкі, і не малыя. Гэта што тычыцца матэрыяльнага боку справы. Але ж ёсць і іншыя праблемы, агульныя для ўсіх музеяў. Недастаткова распрацавана методыка і метадалогія нацыянальнага музеязнаўства, мала адпаведнай літаратуры. Спецыялістаў па музейнай справе толькі пачынаюць рыхтаваць нашыя вышэйшыя ўстановы. Інтуіцыяй і стараннем недахопу спецыяльных ведаў не кампенсуеш. Культура ўвогуле не павінна трымацца на энтузіязме. Вось і даводзіцца шукаць, думаць — як, якімі сродкамі ўвасобіць у экспазіцыю новыя погляды і ацэнкі гісторыка-літаратурных падзей, як уплываць на фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў... Пытанні, пытанні...





*Фрагменты з экспазіцыі «Покліч».*



*З выставы для дзяцей «Дзіва».*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

**— Ну, і дзе ж вас шукаць зацікаўленым асобам?**

— Наш адрас: 220029, г. Мінск, Траецкае прадмесце, вул. М. Багдановіча, 15. На заканчэнне я хацела б звярнуцца да ўсіх чытачоў «ЛіМа». Людзі добрыя! Калі ў вас ёсць магчымасць дапамагчы святой справе Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, падзяліцеся, калі ласка, сваімі літаратурнымі набыткамі, рэдкімі музейнымі экспанатамі, аўтографамі пісьменнікаў. Ваш высакародны ўчынак будзе ацэнены, а здадзеная рэч дапаможа найбольш поўна ўвасобіць канцэпцыю і тым самым стане ўкладам у нацыянальнае і культурнае адраджэнне. Умовы перадачы музейных экспанатаў можна высветліць па тэлефоне 34-56-21.

**— Поспехаў музею і новых знаходак!**

**Гутарыла**
**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## ПАДАРУНАК ЖУРНАЛІСТАМ



**Новы сучасны выдавецкі комплекс атрымаў Саюз журналістаў рэспублікі. Яго прадаставіла фірма «Камп'ютэр Лэнд», вядомая ў свеце як буйнейшы пастаўшчык электроннай тэхнікі. У 44-х краінах свету існуюць 100 аддзяленняў фірмы. Яшчэ адно адкрылася нядаўна ў нас у Мінску. І адразу — такі высакародны ўчынак.**

**Новы комплекс будзе ўстаноўлены ў інфармацыйна-выдавецкім цэнтры Саюза журналістаў Беларусі і паможа творчай арганізацыі выжыць у наш няпросты час.**

*На здымку: у час перадачы настольнага выдавецкага комплексу /злева направа/ намеснік старшыні Саюза журналістаў Беларусі В. Б. Ігнатовіч, старшыня Саюза Л. С. Екель, генеральны менеджэр фірмы «Камп'ютэр Лэнд» у Мінску Ю. А. Леусенка і менеджэр В. Б. Шкляр.*

*Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

## ДЗЕ ВЫ, НАВЕДНІКІ?



**Такой выставачнай залай і багаццем работ вядомых беларускіх мастакоў не можа пахваліцца ніводны абласны цэнтр рэспублікі, не кажучы ўжо пра раённыя. А вось жыхары невялікай палескай вёскі Гурыны, што на Мазыршчыне, могуць. Пакуль яшчэ.**

**Больш за дзесяць гадоў назад, калі Гурыноўская сярэдняя школа пераехала ў новы будынак, у ранейшым, яшчэ досыць дабротным, размясцілі філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Цяпер тут каля пяцісот работ, у тым ліку скульптура, жывапіс. Акрамя пасляваеннага беларускага, ёсць раздзел заходнееўрапейскага мастацтва, дзе прадстаўлены высакаякасныя рэпрадукцыі вядомых палотнаў, падораныя мастачкай з Францыі мадам Лежэ, ураджэнкай Беларусі.**

**Да нядаўняга часу наведвалі музей групы экскурсантаў, турыстаў, школьнікаў, проста аматараў мастацтва. Але, на жаль, сённяшнія праблемы дайшлі і да Гурыноў. Дэфіцыт паліва пакінуў філіял практычна без наведвальнікаў, хоць жадаючыя пабываць тут заўсёды знайшліся б. Зачыніць філіял, а работы вярнуць у Мінск — нескладана. Але ж не сакрэт, што ўсё цяжэй робіцца дабрацца жыхарам перыферыі да буйных гарадоў, дзе можна ўбачыць мастацкія каштоўнасці.**

**Дык ці варта паспешліва ставіць крыж на добрай справе? Павінны ж настаць яшчэ добрыя часы і для мастацтва?**

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БЕЛІНФАРМ**

*На здымку: пуста цяпер у выставачнай зале філіяла, самотна і навуковаму супрацоўніку Нэлі Краўчанка*

*Фота аўтара*

## ГАНАРАВАЛІ КАМПАЗІТАРА

**Камерныя творы, тэатральная музыка, мноства песень, якія выконвалі й выконваюць беларускія спевакі розных пакаленняў, — такі, у агульных рысах, кампазітарскі багаж Эдуарда Зарыцкага. Творца ён у літаральным сэнсе папулярны, бо шмат і ахвотна выступае перад рознай аўдыторыяй, сустракаецца са слухачамі. Нядаўна за важкі ўклад у музычную творчасць і актыўную грамадскую дзейнасць кампазітар Эдуард Зарыцкі ганараваны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.**

# МУЗЫКА І ЗГАДКІ

У канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі адбыўся канцэрт-вечарына заслужанага дзеяча культуры Беларусі Анатоля Іосіфавіча Каландзёнка, прысвечаная 50-годдзю яго творчай дзейнасці. Праграма была шырокая і разнастайная: Бах, Глюк, Моцарт, Доплер, Чайкоўскі, Глебаў, Каландзёнак /сімфанічная паэма «Па-над Нараччу»/ у выкананні ансамбля «Харошкі», хору ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, мужчынскай вакальнай групы ветэранаў «Памяць сэрца», духавога аркестра Мінскага музычнага вучылішча і, вядома ж, бліскучай плеяды флейтыстаў класа А. Каландзёнка. Гэта дало магчымасць паказаць шматлікія грані партрэта А. Каландзёнка, зрабіць своеасаблівы экскурс у ягоную біяграфію. У кожным канцэртным нумары або ва ўспамінах удзельнікаў вечарыны бачыўся чалавек-герой у барацьбе з фашызмам, а ў мірны час — з бюракратыяй; цудоўны музыкант-педагог, умелы арганізатар, які нямала зрабіў для развіцця беларускай культуры. Так, напрыклад, па ягонай ініцыятыве ў нашай філармоніі з'явіўся арган, пры ягонай падтрымцы — ансамбль «Харошкі», пра што цёпла і шчыра казала мастацкі кіраўнік гэтага цудоўнага калектыву В. Гаявая; а таксама ансамбль «Песняры». А выступленні ягоных вучняў Я. Аўтушкі, Д. Талмачова, Я. Гелера, У. Бурага яшчэ раз даказалі, што Анатоль Іосіфавіч — сапраўдны музыкант-педагог, выхавацель.

Канцэрт меў вялікі поспех.

**Д. В.**

***Складаныя праблемы, з якімі сутыкнулася сёння беларускае грамадства ў працэсе пабудовы ўласнай дзяржавы, эканомікі, вырашэння задач нацыянальна-культурнага адраджэння, прымушаюць больш пільна прыгледзецца да духоўных асноў нацыянальнага характару і светапогляду беларусаў, выяўленых у так званай філасофіі талерантнасці. Пашукаем найперш тут разгадку нязвыклай, часта парадаксальнай рэакцыі народа на рэальнасці сучаснага свету, узаемадачыненні з уладай, палітычнымі рухамі і г. д.***

# ТАЛЕРАНТНАСЦЬ: ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

Генадзь ПРАНЕВІЧ

Адвеку ў нашым народзе суіснавалі як бы два тыпы, дзве разнавіднасці, ці, дакладней, якасці нацыянальнага характару: цвёрдасць і мяккасць, падатлівасць і маўклівая, зацятая ўпартасць, цярплівасць і адчайны, гераічны радыкалізм. Класічнымі прыкладамі тут могуць быць Пятрок і Сцепаніда з аповесці В. Быкава «Знак бяды», Ганна і Міхал з «Новай зямлі» Коласа, Марыля і яе сын Сымон з «Раскіданага гнязда» Купалы. Розныя, часта змешаныя, пераходныя рысы і тыпы нацыянальнага характару і паводзін увасабляюць Рагнеда і К. Тураўскі, Ф. Скарына і А.Філіповіч, К. Астрожскі і Л. Сапега, М. Сматрыцкі і С. Полацкі, К. Каліноўскі і В. Дунін-Марцінкевіч, Купала і М. Багдановіч.

Пры гэтым, у залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі, паступальны гістарычны прагрэс нацыі адбываўся як праз гераічны радыкалізм, так і праз ахоўны памяркоўны лібералізм і нават кансерватызм. Ствараецца ўражанне, што менавіта суіснаванне і цеснае ўзаемадзеянне гэтых двух тыпаў нацыянальных паводзін якраз і забяспечваюць унутраную жыццёвую ўстойлівасць беларускай нацыі, яе здольнасць выжыць і выжываць на скразняках еўрапейскай і сусветнай гісторыі.

У гэтым жа, безумоўна, мы — народ, гістарычная дзейнасць і палітычная воля якога выяўляюцца на мяжы цярпення, у экстрэмальных сітуацыях, цяжарных класічным «альбо-альбо». Гісторыкі пры жаданні маглі б прыгадаць безліч фактаў, калі мяккая, падатлівая, як гліна, натура беларуса раптоўна выяўляла свой уласны характар, зацвердзявала ў руках самаўпэўненых ганчароў, безнадзейна псуючы найлепшыя задумы і вырабы спакушаных у сваёй справе майстроў.

Так было ў паўстанні 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, на акупіраваных палякамі ў 1921—1939 гг. землях Заходняй Беларусі, у гады Вялікай Айчыннай вайны, калі народ рашуча заяўляў аб сваім праве на волю і незалежнасць. Уважліва прыгледзеўшыся, можна пераканацца, што ў нечым падобная сітуацыя выспявае і зараз.

Дык што ж гэта такое наша славутая, так упадабаная сёння ўрадавымі ідэолагамі беларуская талерантнасць?

Людзі далёкія ад цынічных палітычных гульняў зусім справядліва разумеюць пад ёю традыцыйную міралюбнасць, памяркоўнасць і добразычлівасць беларусаў, іхнюю цярпімасць і павагу да іншага меркавання, рэлігійнага веравызнання, этна-культурнай арыентацыі і нацыянальнай прыналежнасці асобы.

Пісьмовыя крыніцы адзначаюць гэтую надзвычай прывабную рысу беларускага нацыянальнага характару ўжо на самай ранняй стадыі зараджэння беларускай народнасці. Прыгадаем хоць бы славутае «Жыціе Ефрасінні Полацкай», аўтар якога звяртаў увагу якраз на гэтыя рысы характару і паводзін хрысціянскай асветніцы, заўважаючы, што «нікога бо не хацела бачыць варожым, ні князя з князем, ні баярына з баярынам, ні слугі са слугою, але ўсіх хацела бачыць як адну душу».

Прыроджаныя, генетычныя асновы памяркоўнага, ураўнаважанага характару беларусаў карэняцца, відаць, ужо ў пераходным ад поўначы да поўдня характары беларускай прыроды і фаўны, яе мяккім раўнінна-ўзгоркавым рэльефе і лясіста-балоціста-палявым ландшафце, ва ўмераных кліматычных умовах, у якіх адбіліся і выявіліся шматстайнасць і адзінства свету, складаная раўнавага рознахарактарных прыроднагеаграфічных умоў.

Яшчэ ў большай ступені на ўсталяванне талерантнасці як нормы паводзін і этыкі ўзаемаадносін паміж людзьмі і народамі паўплывалі, аднак, умовы і асаблівасці гістарычнага і сацыяльна-палітычнага жыцця беларускай нацыі, сярод якіх важнейшую ролю адыграў якраз геапалітычны фактар — еўрацэнтрычнае месцазнаходжанне Беларусі на перасячэнні шляхоў з Усходу на Захад і з Поўначы на Поўдзень, па так званым былым шляху «з варагаў у грэкі», што абумовіла тут як шчыльнае ўзаемадзеянне і суіснаванне культур рознай рэлігійна-этнічнай і духоўнай арыентацыі — усходняй і заходняй, каталіцка-пратэстанцкай і праваслаўнай, іудзейскай і ісламскай, — так і перманентную ўключанасць краю ў кола стратэгічных ваенна-палітычных і эканамічных інтарэсаў народаў і краін Еўропы і нават Азіі.

Жыццёвая неабходнасць падтрымання складанай раўнавагі, балансу рознахарактарных і рознанакіраваных сіл і ўплываў, у сферы якіх на працягу сваёй тысячагадовай гісторыі нязменна аказваўся беларускі народ, як і ўвогуле кансерватыўна-ахоўны статус цэнтра, на наш погляд, і паслужылі асновай талерантнасці беларусаў як светапогляду і своеасаблівай філасофіі жыцця.

У сваім чыстым, класічным значэнні талерантнасць ёсць, безумоўна, філасофія дэмакратызму. І як усякая філасофія такога роду ў працэсе гістарычнага развіцця беларусаў яна выяўляла як свае моцныя, так і слабыя бакі.

Нялішне нагадаць, што прынцып сацыяльна-палітычнай, этнічна-рэлігійнай талерантнасці адыграў выключную ролю ў працэсе ўтварэння Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, калі станаўленне дзяржавы, далучэнне да яе новых земляў і гарадоў адбывалася не толькі збройнай сілай, але ў значнай ступені шляхам дыпламатыі, абвяшчэннем вялікімі князямі прынцыпу «старыны не рушыць», пацвярджэннем прывілеяў адноснай аўтаномнасці асобным землям і гарадам, што знайшло затым сваё далейшае развіццё і замацаванне ў практыцы надання гарадам у адпаведнасці з Магдэбургскім правам статуса вольных, альбо самакіруемых. Акрамя таго, сам Вітаўт Вялікі, у часы праўлення якога ўсё гэта адбывалася, па словах В. Ластоўскага, «належаў да ліку тых, што патрапяць людзей кожнай нацыі, кожнай веры лічыць роўнымі сабе, калі яны толькі былі добрымі грамадзянамі».

У эпоху Рэнесансу і Рэфармацыі філасофія талерантнасці атрымоўвае магутны імпульс і абгрунтаванне ў гуманістычнай этыцы Францішка Скарыны, ядром якой становіцца сфармуляваны беларускім мысліцелем універсальны закон чалавечага сужыцця. Згодна з ім, кожны чалавек, перш чым што-небудзь здзейсніць, павінен як бы прымераць на сябе стан і адчуванні іншага: «паступай з другім так, як хацеў бы, каб паступалі з табою, і не рабі другому таго, чаго не хацеў бы мець ад іншых».

Вяршыняй развіцця і ўсталявання рэнесансавай талерантнасці стала непасрэднае абгрунтаванне Львом Сапегам у прадмове да Літоўскага Статута 1588 года прынцыпу свабоды чалавечай асобы як вышэйшай каштоўнасці жыцця. Паводле гэтага прынцыпу, «чоловеку почстивому ничого не маеть быти дорожшого над вольность». Пры гэтым паказальна, што паняцце «вольности» у Л. Сапегі, як і раней у Ф. Скарыны і С. Буднага, натуральна ўключае ў сябе паняцці цярпімасці і павагі да іншых, разумеецца як «вольность», абмежаваная законам, правам, каб чалавек «се боячы права от кождого гвалту и збытку погамовал, а над слабшим и худшим не паствилсе и утискати его не мог, бо для того права суть постановлены, абы можному и потужному не все было вольно чынити».

Характэрна, аднак, што ўжо ў тую эпоху пачынае ўсведамляцца адносны характар філасофіі талерантнасці, яе залежнасць ад канкрэтных гістарычных умоў і непасрэдных нацыянальна-дзяржаўных задач, з якімі сутыкалася краіна.

Так, калі ў пачатку XVI стагоддзя М. Гусоўскі яшчэ паэтызаваў міралюбнасць зубра-рыцара /«не чапай — не зачэпіць»/, яўна атаясамліваючы ягоны прыродны нораў з характарам свайго народа, то ўжо ў другой палове XVI—XVII стст. залішняя прыродная мяккасць, рахманасць, падатлівасць ліцвіна ва ўмовах агрэсіўнага наступу Польшчы і Масковіі пачынаюць усведамляцца як недахоп, як адна з прычын дзяржаўна-палітычнага заняпаду Вялікага княства Літоўскага.

Так, Філон Кміта-Чарнобыльскі ў сваіх «Допісах», аналізуючы агрэсіўны характар палітыкі і дзеянняў суседзяў, пісаў: «Давно резать почали литвина. И тот де, с прыроженя натуры на себе сам необачное... просто як овца: где их больш берет волк, там оне дальше за ним идут! Большы будет жычлившый народу польскому, нижели своему! Ова просто есмо як рыба в омуте: слепи, неведоми! Не ведаем, куды в сию есмо диру влезли!»

Граніцу, якая аддзяляе традыцыйную талерантнасць беларусаў ад згодніцтва і здрады, тую мяжу, дзе цудоўная чалавечая і нацыянальная якасць ператвараецца ў сваю процілегласць, выдатна бачыў і невядомы аўтар «Прамовы Івана Мялешкі», калі пісаў пра такіх «талерантаў», што ва ўгоду сваім эгаістычным, карыслівым інтарэсам здрадзілі свайму народу, сталі паслухмянымі паслугачамі каля стала польскага караля: «Наша костка, однак собачим мясом обросла и воняет!» Менавіта таму, на думку аўтара, паляк і немец, «што до нас влезъли противко праву нашому», пачуваюць сябе не проста нароўні з панамі ліцвінамі, але як бы гаспадарамі на Літве: «Ты, пане, за стол, а слуга лях собе за стол. Ты борщик, а слуга лях на покутнику штуку мяса. Ты за фляшу, а он за другую, а коли слабо держиш, то он и з рук вырветь. Только пилнуеть: скоро ты з дому, то он молчком приласкает ся до жонки». Куды больш засмучаюць, аднак, аўтара палітычнага прамфлета палітычныя і дзяржаўныя «ўтраты», тое, што «од их милостей, панов ляхов, гинуть старие наши поклоны смоленские», што «скоро ж короли больш немцев як нас улюбили, почали нами шебунковати, и што старые наши князи собрали, то все немцом роздали нашые господари». Прычыну такога становішча пісьменнік зноў жа бачыць у тым, што «ходим как подъвареные, бо ся их боимо, правды не мовимо, еще с подхлебными языками потакаемо».

На жаль, гэтыя састарэлыя перажыткі нявольніцкай беларускай ментальнасці адгукаюцца і ў сённяшняй Беларусі, што ступіла на шлях будаўніцтва ўласнай, суверэннай дзяржавы.

Як філасофія жыцця, як стыль мыслення і дзяржаўнай палітыкі талерантнасць можа выконваць сваю пазітыўную ролю толькі ва ўмовах нацыянальна развітога, нацыянальна свядомага грамадства і яго дзяржаўна-палітычных інстытутаў, калі яна з'яўляецца не проста сімвалам веры, але вынікам пэўнага разумнага капрамісу, своеасаблівага парытэту, балансу нацыянальных і міждзяржаўных інтарэсаў, правоў асобы і яе абавязкаў перад народам і дзяржаваю, калі яна фарміруецца на аснове прынцыпаў дэмакратызму і роўнага партнёрства.

У іншым выпадку талерантнасць ёсць не што іншае, як філасофія нявольніцтва, біялагічны інстынкт самазахавання альбо спецыфічны від сацыяльна-этнічнай мімікрыі. Магчыма, што дзякуючы апошняму беларусы і захаваліся ў свеце як унікальны этнас, аднак далёка яшчэ не выканалі на сёння сваёй місіі як асноватворная духоўная субстанцыя нацыі, што фарміруе на аснове культуры, мовы, жыццёвай філасофіі карэннага этнасу і нацыянальна-этнічных меншасцей адзіную нацыянальную супольнасць, выпрацоўвае цэласную філасофскую канцэпцыю яе жыцця.

Узрослыя на ўрадавым падкорме палітыканы, накшталт былога загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ І. Антановіча сёння з усіх сіл зарабляюць сабе палітычны капітал якраз на тым, што можна назваць адваротным бокам беларускай талерантнасці, а, дакладней, няшчасцем, бядой беларускага народа — на нацыянальным нігілізме, комплексе нацыянальнай непаўнацэннасці, грамадскай пасіўнасці і безуважнасці, рэцыдывах падсвядомага страху перад рэпрэсіямі, любоўна выпеставаных Сістэмай за савецкі час.

Размова ідзе не толькі аб тым, што ўладнымі структурамі фактычна ігнаруецца катастрафічны стан беларускага народа і пад прыкрыццём талерантнасці ґбарацьбы з «нацыяналістычным экстрэмізмам» па сутнасці праводзіцца ранейшая камуністычная палітыка дэнацыяналізацыі, якая ўжо абярнулася для беларускага грамадства руйнаваннем і вынішчэннем традыцыйных самабытных асноў нацыянальнага жыцця, культуры і мовы народа, глыбокай зрусіфікаванасцю ўсіх слаёў насельніцтва, а апошнім часам рэальнай пагрозай страты суверэнітэту.

Доўгатэрміновым нацыянальным інтарэсам народа сёння адкрыта супрацьстаіць агрэсіўны кланавы эгаізм кіруючых структур, які перарастае ў адкрытую варожасць да ўласнага народа, гатоўнасць у імя аховы сваіх інтарэсаў да ўвядзення палітычнага сыску і рэпрэсій супраць дэмакратычнай апазіцыі, падаўлення збройнай сілай пратэсту абяздоленых і даведзеных да адчаю гэтымі ж уладамі людзей.

Становіцца відавочным, што здольнасць структур урада і Вярхоўнага Савета прымаць аптымальныя самастойныя рашэнні, дзейнічаць у інтарэсах усяго народа, нацыі аказалася цалкам паралізаванай, аб чым сведчаць безагляднае следаванне ў фарватэры расійскай палітыкі, неэквівалентны гандлёва-эканамічны абмен, актыўная дзейнасць ва ўрадзе і парламенце ўплывовага прарасійскага лобі, заканадаўчыя ініцыятывы якога аб калектыўнай бяспецы і ўваходжанні краіны ў рублёвую зону па сутнасці вядуць да ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці.

У тым жа стылі і з тымі ж самымі мэтамі пракамуністычная большасць у беларускім парламенце блакіруе прыняцце новай Канстытуцыі і пакета законаў, накіраваных на ўмацаванне рэальнага суверэнітэту рэспублікі і патрабуе рэвізіі ўжо прынятых, як, напрыклад, Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы, беларускай нацыянальнай сімволіцы і г. д.

Пры гэтым для камуфляжу сваёй дэструктыўнай, антынароднай дзейнасці ў пары з традыцыйнымі лозунгамі аб інтэрнацыянальным брацтве і дружбе з вялікім рускім народам цынічна выкарыстоўваецца тэзіс аб прыярытэце правоў чалавека над правамі нацыі і ўзмоцнена рэкламуюцца і ўхваляюцца як узор талерантнасці падатлівасць і пластычнасць беларускага нацыянальнага характару, што мае на мэце падоўжыць летаргію беларускага нацыянальнага жыцця, закансерваваць здавальняючы правячую эліту стан нацыянальнай самасвядомасці народа, каб захаваць статус-кво, выгадны ёй расклад палітычных сіл і, вядома ж, уладу.

Таму і вядзецца сёння з усіх урадавых сталоў атака на дэмакратычны рух за нацыянальнае адраджэнне, што ўзначальвае БНФ, а таксама робяцца няспынныя спробы стварыць адпаведны блок антынацыянальных, антыбеларускіх сіл і нават выкарыстаць у гэтых мэтах спадарожныя этна-нацыянальныя рухі і грамадскія аб'яднанні палякаў, расейцаў, палешукоў і інш.

«Падзяляй і пануй!» — ці ж не знаёмы нам гэты дэвіз па Нагорным Карабаху і Летуве, Малдове і Прыднястроўі, Грузіі і Абхазіі? І ці трэба казаць, чый гэта крывавы след працягнуўся на прасторы былога СССР?

Праўда, не сказаць, каб гэтая палітыка надта ўдавалася на Беларусі, аднак палітычнай лініі БНФ, БСДГ, нацыянальна-дэмакратычнай партыі і інш., што бяруць курс на забеспячэнне рэальнага суверэнітэту, уздым нацыянальнай эканомікі, адраджэнне беларускай культуры і мовы, сёння выразна супрацьстаіць цэлы спектр палітычных меркаванняў і пазіцый: ад ваяўнічых заклікаў да аднаўлення былога СССР і канцэпцыі трыадзінай Русі /ліберальныя дэмакраты, партыя камуністаў Беларусі, таварыства «Отечество», славянскі сабор «Белая Русь», Саюз афіцэраў/ да ідэй племяннога яцвяжскага сепаратызму і ціхай прапаганды «польскасці» заходняй часткі Беларусі з боку некаторых экстрэмісцкі настроеных членаў Саюза палякаў Беларусі.

Крайнасці змыкаюцца. У выніку гэтыя розныя па сваіх мэтах палітычна-культурныя плыні, рухі і партыі набываюць агульную антыбеларускую, антынацыянальную афарбоўку.

Яшчэ горш, што комплекс нацыянальнай непаўнацэннасці існуе ў самім дэмакратычным асяроддзі. Многія плыні да гэтай пары падзяляюць ілюзіі, што дэмакратычны рух ва ўмовах Беларусі можа быць рухам наднацыянальным, які цалкам можа абмежавацца і задаволіцца сацыяльна-эканамічнымі і гуманістычнымі мэтамі. Ва ўмовах спаду агульнадэмакратычнага руху, што ініцыіраваўся пратэстам супраць таталітарнай сістэмы ў былым СССР, дэмакратычным сілам Беларусі і тым, хто залічае сябе да дэмакратаў, самы час задумацца сёння над тым, што, губляючы нацыянальную акрэсленасць і ўнікаючы прынцыповай пастаноўкі цэлага шэрагу надзённейшых праблем нацыянальнага развіцця, можна незаўважна і лёгка ператварыцца ў эклектычнае згуртаванне дэмакратаў «увогуле», не здольных на сур'ёзныя радыкальныя пераўтварэнні і рэформы. Пара, нарэшце, усвядоміць, што ва ўмовах сучаснай Беларусі дэмакратычны рух не можа быць сапраўды дэмакратычным, калі ён не **нацыянальны.** /Зрэшты, як і наадварот/. Інакш гэта азначала б адмаўленне ад курсу на суверэнітэт, будаўніцтва ўласнай дзяржавы, натуральнага права быць гаспадаром на сваёй зямлі. Нарэшце, гэта азначала б забыццё ахвяр таталітарнага рэжыму, да ліку якіх сёння можна аднесці ўвесь беларускі народ, маючы на ўвазе не толькі ахвяры фізічных рэпрэсій, знішчэнне цвету беларускай інтэлігенцыі, але і гістарычнай памяці, культуры, адлучэнне ад роднай мовы, той жа Чарнобыль...

У гэтым жа працэсе агульнанацыянальнага адраджэння выразна бачацца і перспектывы развіцця культуры разнастайных нацыянальна-этнічных груп — не насуперак беларускаму адраджэнню, а цераз яго, на аснове яго, бо менавіта на падставе цеснага ўзаемадзеяння культур можа быць дасягнута духоўнае адзінства, згоднае, талерантнае развіццё нацыі.

Пры гэтым сапраўдны парытэт, баланс інтарэсаў карэннага этнасу і нацыянальна-этнічных меншасцей могуць быць дасягнуты пры ўмове прызнання апошнімі, прынамсі, двух відавочных пастулатаў: па-першае, што яны з'яўляюцца неад'емным складнікам, часткай беларускай нацыі; па-другое, дзяржаўнага статуса беларускай мовы і культуры як культуры і мовы пераважнай, цэментуючай часткі беларускага грамадства.

У такім падыходзе закладзены не толькі прынцып аднаўлення гістарычнай справядлівасці ў дачыненні да беларусаў, якія на ўласнай зямлі апынуліся ў становішчы дыскрымінуемай «нацыянальнай меншасці», але і прызнанне

*(Працяг на стар. 12)*

## НЕ ЎПЕРШЫНЮ ПА-БЕЛАРУСКУ

наш чытач мае мажлівасць пазнаёміцца са знакамітым пісьменнікам сучаснасці, лаўрэатам Нобелеўскай прэміі Івам Андрычам. Яшчэ ў 1967 годзе ў перакладзе Л. Самасейкі было змешчана ў часопісе «Полымя» апавяданне «Велетаўцы». У 1976 годзе часопіс «Беларусь» апублікаваў апавяданне І. Андрыча «Мост», пераўвасобленае В. Рагойшам. Найбольш для папулярызацыі класіка югаслаўскай літаратуры на Беларусі зрабіў Б. Сачанка. У яго перакладах друкаваліся шмат якія творы пісьменніка /часопіс «Полымя», альманах «Далягляды», зборнік «Югаслаўскія апавяданні/, а пасля яны пабачылі свет ў аднатомніку аповесцяў і апавяданняў «Трывожны год», выпушчаным «Мастацкай літаратурай» у 1978 годзе.

Аднак цяперашняе выданне прозы І. Андрыча свайго роду падарунак аматарам літаратуры. Кніга пабачыла свет у серыі «Скарбы сусветнай літаратуры», якую, як вядома, выпускае «Мастацкая літаратура». У перакладзе І. Чароты змешчаны адзін з самых значных твораў І. Андрыча «Мост на Дрыне», а таксама, пераўвасобленыя Б. Сачанкам, шаснаццаць апавяданняў. Сярод іх — «Пракляты двор», «Мост на Жэпе», «Прытча пра візіравага слана» і іншыя.

Адкрываецца том артыкулам І. Чароты «Вечныя праблемы і пошук універсальных метафар», у якім даследчык прасочвае жыццёвы і творчы шлях І. Андрыча, звяртае ўвагу на адметнасць свету, створанага талентам гэтага сусветна вядомага аўтара.

## БЕЛАРУСКІ «ДЭБЮТ» У ПОЛЬШЧЫ

Як падае двухмоўны беластоцкі «Часопіс», у гайнаўскім агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання абвешчаны Першы агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «Дэбют». Вучняў, якія да канца красавіка прадставяць творы, напісаныя беларускай літаратурнай ці дыялектнай мовай, чакаюць тры грашовыя прэміі: за 1-е месца — паўмільёна злотых, за 2-е месца — 300 тысяч злотых, за 3-е месца — 200 тысяч злотых. У журы конкурсу ўвайшлі вядомыя літаратары Беласточчыны Ян Чыквін і Сакрат Яновіч. Апекаванне «Дэбютам» узяў дырэктар ліцэя ды Клуб беларускіх спраў...

...А варшаўскае Дзяржаўнае навуковае выдавецтва выпусціла польскамоўную кнігу Яўгена Мірановіча «Беларусы ў Польшчы. 1944—1949». На думку Сакрата Яновіча, «чытаецца яна лёгка, быццам сенсацыйная аповесць».

Юрась СЦЯПАНАЎ

## І МЕНСКАЯ ЗЯМЛЯ...

мае багатую гісторыю. У гэтым пераконваешся, калі знаёмішся з чацвёртым за апошні год нумарам штоквартальніка «Беларускі гістарычны часопіс». У папярэдніх нумарах, як вядома, шырока асвятлялася мінуўшчына Полацкай, Навагрудскай і Тураўскай земель. Цяпер увазе чытача прапануюцца артыкулы Ю. Зайца «Менская зямля: этапы фарміравання», М. Яніцкай — «Матэрыяльная і духоўная культура Міншчыны /XII—XVIII стст./, В. Чапко — «Сацыяльна-эканамічнае развіццё Мінскай губерні ў першай палове XIX ст.», Л. Побаля — «Антычныя знаходкі ў Мінскай вобласці», Г. Шэйкіна — «Двухсотгоддзе Мінскай епархіі».

Сярод іншых матэрыялаў нумара — заканчэнне справаздачы «Усебеларускі з'езд 1917 года: сведчанне сучасніка» /падрыхтаваў да друку В. Скалабан/, артыкул Я. Юхо «Беларускія ўрады 1918—1921 гг. і іх паўнамоцтвы», штрыхі да біяграфіі А. Бурбіса «Перад усім — адданасць Беларусі», пададзеныя праз рэдкія дакументы А. Каўкам, агляд З. Лысенкі «Гістарычныя асобы ў тэатральных вобразах», разнастайная інфармацыя, чытацкія лісты.

## У ГІСТОРЫІ ТУПІКОЎ НЯМА...

Яны ёсць толькі ў галовах людзей. Так сказаў вядомы публіцыст Анатоль Стрэляны. Словы гэтыя згадвалі ўдзельнікі «круглага стала» «Беларусь: шляхі абнаўлення і развіцця», праведзенага рэдакцыяй часопіса «Беларуская думка». Справаздача з яго апублікавана ў першым нумары «БД». Змешчаны і іншыя матэрыялы адраджэнскага кірунку — «Каляды, Купалле, Юр'я, Гуканне вясны» І. Гаранец, «Гарачы люты. Буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя: сутнасць і вынікі» І. Ігнаценкі, «Ці быць беларускаму Іерусаліму?» А. Зайцава, інтэрв'ю з першым намеснікам міністра абароны Рэспублікі Беларусь М. Чуркіным «Наша армія — не меч, а шчыт!».

Адкрываецца ж нумар вершам Н. Гілевіча «І ўсё-такі дойдзем». Змешчаны таксама вершы М. Цялічкі, Г. Сакалоўскага, С. Паваляева, «Жартачкі» Ф. Конева.

# «І СЭРЦА РВЕЦЦА З-ПАД РУКІ...»

Хоць малымі тыражамі, але нешта пачало выходзіць з навінак беларускай літаратуры, крынічка бруіцца, прабіваецца сярод завалаў камерцыйнага друкаванага хламу. Вось і зараз перада мною чарговы зборнік паэзіі Анэлі /Нэлі/ Тулупавай «Я чакаю цябе...». У паэтэсы ўжо больш за дзесятак кніжак, і крытыкам ёсць пра што паразважаць, прыкінуць-пагадаць, куды ж рухаецца творца і куды выкіруе, якія тэндэнцыі ў яе творчасці развіваюцца, якія затухаюць, але цепляцца, як жар пад попелам, што гатовы нават пад слабым подыхам Барэя ўспыхнуць яркім полымем, і што гэта за штука жаночая паэзія /я, напрыклад, дык гэтага не ведаю/. Мне ж хочацца тут як чытачу сказаць колькі слоў з нагоды выхаду ў свет новага зборніка паэзіі, парадавацца разам з аўтаркаю.

Лірыка — пазначыла А. Тулупава пад назваю кніжкі. Гэтае азначэнне досыць шырокае, але я не знайшоў у кніжцы «суперграмадзянскай» лірыкі — лабавога водгуку на падзеі нашага ўшчэнт спалітызаванага часу. Грамадзянскія матывы ў паэтэсы арганічна ўплятаюцца ў самую, здавалася б, інтымную лірыку. Учытваешся ў творы і згаджаешся з аўтарам, што «ёсць час, калі мяняецца душа», спектр перажыванняў і пачуццяў, таго, што хвалюе, робіць больш глыбокім і шырокім, мудрым погляд на свет. І жахаецца душа, убачыўшы, што «свае мы нішчым карані», і ўскрыляе душа надзеямі: «Пра нас напішуць цэлыя тамы, уровень з светам станем, беларусы. Мы ўратаваны. Уратаваны мы. Сваім крыжом, пакутамі Ісуса».

Будзем жывы, будзем жыць. А што значыць — жыць? «Зямлю раскружыць і не даць ёй упасці» /навела ў вершах «Каравай»/. Увогуле, гэтая навела ў зборніку — як пункцір, як уздых-сум па нейкай вялікай паэтычнай форме. Навела — як зярнятка, з якога можа ўзрасці добры раман у вершах, насычаны фальклорам, багаты на эпічныя вобразы, такія, як, напрыклад, вечны сейбіт і садавод, праўдалюб дзед Саўка, што пакідае запавет жывым — заруку вечнасці: «Няхай родзіць зямелька, няхай родзяцца дзеці». Сам ён пражыў свой век шчасліва, бо «зямельцы згадзіўся» і ніколі «не грашыў грашыма». У сваім запавеце дзед даводзіць, што нельга пражыць «без праўды і волі», «шчасце і праўда, як месяц і зоры, шчасце і праўда, як сонца і неба».

Час мы перажываем нялёгкі, але ж музы не маўчаць і не павінны маўчаць. Праўда, было, што паэтэса «сябе маўчаннем сцвікавала», хоць словы хацелі «вырвацца на волю». А калі загаворыць чалавек, то «сябе пачуе і сябе спазнае» /«Насмешліва — самой сабе»/. І думаецца мне ўслед за аўтарам: ці не галоўнае гэта сёння, у часіны пераацэнкі каштоўнасцей — пачуць сябе, спазнаць сябе? Калі пачуеш і спазнаеш сябе, то і адказ знойдзецца на пытанне: «А чалавек, які ён, чалавек?»

Так, інтымнай лірыкі ў зборніку многа, і сабрана яна ў раздзелы «Люблю», «А ці сёлета, а ці летась...», і нават пераклады «Радкоў з яшмы» кітайскай паэтэсы Лі Цін-чжао, якая жыла ў II стагоддзі /«самотніцы душы», што поўнілася любоўю да людзей і прыроды/ успрымаюцца ў зборніку арганічна і заканамерна. Каханне і — шырэй — любоў да людзей, да радзімы павінна жыць вечна, пра гэта — у многіх вершах. У інтымнай лірыцы лірычная гераіня паэтэсы прадстае ўжо не як гарэзадзяўчына з палымянай і ў той жа час уражліва-цнатлівай душою, а умудроны гадамі чалавек, які ўсё часцей задумваецца пра сэнс жыцця і небыцця, шукае «сцежку праз гады, яна, як нітка, закруцілася». А ўжо на наступных старонках — чароўныя рамансы «Не абярніся...» і «Калі б наноў сустрэцца нам», па-маладому задзёрыстыя /жарынкі з-пад попелу?/ «Мядовыя дзянькі», «Liebe dich», меладычна-песенныя /кампазітары — ау-у!/ — «Рутвіца», «Выйдзі, харошая...», «Ты любі мяне», «А ці сёлета, а ці летась», і журботны верш «Нарачанскія ўдовы», і ледзь не малітва «Калядны звон» /»сваім авечкам, Божа, памажы»/.

Так, невялікая кніжка «Я чакаю цябе...», а як многа сказана пра тое, чым жыве чалавечая душа!

Зноў і зноў перагортваеш зборнік, а сэрца і замілоўвае, і лагодзіць калядны срэбразвон метафараў-тропаў. Бачыш, як «шпачаняты бярозу гушкалі», «як чаранок дабрыні прывіваецца», як «гуляюць конікі ў пстрычкі», «пераспелымі вершамі страляюць дубоў чубы», «вочы ліхтар заплюшчыў», «лілеі ў чаратах на дыбачках стаяць, як балерыны», як «вушы млын апусціў», як «у сарамлівай галізне стаялі белыя бярозы», «сляза на нітачцы павісла», як сонечна свеціцца «залаты астравок царквы...» І не спатыкаешся на наватворах паэтэсы, яны арганічныя ў тэкстах, падкрэсліваюць не лішні раз, якая пластычная наша мова: **быццамкі, мінулле, цвікаваць, умілаваная, беспачатны, жалейнік, манлівы, грахоўня, вужаваць, вешчыня, бяздонак, рыжаваць, сцішак, воўчыцца, некранухі, сцюжысты, незвараць, разувер'е** і многія іншыя.

І забываюцца аўтарска-рэдактарскія недагляды /рыфмы «павіслі-завіслі», «сказаць-расказаць»/, паўторнасць тропаў — «семдзесят аўтамашын сярдзіта чмыхаюць носам» /стар. 78/, «бач, аўтобус мой носам чмыхае» /стар. 98/. У памяці застаецца адно: прыемнае знаёмства з новаю кніжкаю таленавітай паэтэсы.

*Анэля Тулупава. Я чакаю цябе... Лірыка. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1993 г.*

**Павел МІСЬКО**

# ...САМ ЁН ЗВОНКАЯ ЛЕГЕНДА

## СПОЎНІЛАСЯ 80 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАЛЯНЦІНА ТАЎЛАЯ

У біяграфіі знакамітага паэта ёсць старонкі, што маюць дачыненне да Янкі Купалы. Першае знаёмства В. Таўлая з народным песняром адбылося вясной 1931 года. Перакінуты ў СССР з Заходняй Беларусі малады падпольшчык жыў у Мінску /1930—1932/, вучыўся на літфаку БДУ, працаваў у газеце «Звязда». Па даручэнні рэдакцыі ён наведаў Я. Купалу, папрасіў яго напісаць артыкул-пратэст супраць прыгнёту і ўціску ў Заходняй Беларусі дзеячаў нацыянальна-вызваленчага і рэвалюцыйнага руху. Праз некалькі дзён Іван Дамінікавіч прынёс у «Звязду» свой «Ліст у рэдакцыю».

У 1940 годзе Янка Купала, як вядома, быў абраны ў Вярхоўны Савет БССР ад рабочых Лідскай акругі. Ён прыехаў на сустрэчу са сваімі выбаршчыкамі. В. Таўлай у гэты час працуе ў Лідскай раённай газеце. Купала падараваў яму кнігу «Над ракою Арэсай»: «Таварышу Валянціну Таўлаю на ўспамін аб сустрэчы ў Лідзе. Янка Купала».

Купалава паэзія, яе нацыянальна-вызваленчыя матывы, балючая тэма раз'яднанай Бацькаўшчыны назаўжды сталі кіруючымі ў творчасці В. Таўлая. Верш «Падарожны» ён прысвяціў песняру. Гэта — своеасаблівы творводгук на купалаўскі верш «Па Даўгінаўскім гасцінцы», дзе выразна гучаць матывы горычы і гневу за разарваную на часткі Беларусь.

25 мая 1944 года з'явілася пастанова аб стварэнні Літаратурнага музея Янкі Купалы. Сакратаром па літаратурнай спадчыне песняра была прызначана Уладзіслава Францаўна. Ужо восенню 1945 года музей расчыніў дзверы для наведвальнікаў. Першымі навуковымі супрацоўнікамі яго сталі В. Таўлай і Я. Брыль. В. Таўлай працаваў з 1945 па 1947 год у якасці старшага навуковага супрацоўніка і намесніка дырэктара. Разам з дырэктарам цёцяй Уладзяй ён пачаў нялёгкую справу па зборы, вывучэнні творчай спадчыны Купалы. В. Таўлай рупліва збіраў рукапісы і рэчы Купалы для экспазіцыі музея, пісаў артыкулы пра жыццёвы і творчы шлях, знайшоў рукапісы неўміручых камедыі «Паўлінка» і паэмы «Гарыслава». Даследуючы творы Я. Купалы, В. Таўлай напісаў шэраг літаратуразнаўчых артыкулаў.

Лёс наканаваў В. Таўлаю ўсяго 33 гады жыцця. У лісце да сябра Янкі Купалы, украінскага паэта Т. Масэнкі /28.IV.47 г./, Уладзіслава Францаўна пісала: «Заўтра хаваем цудоўнага чалавека, слаўнага паэта і найлепшага сябра Янкі Валянціна Таўлая. Вельмі цяжка хаваць такіх выдатных, чэсных людзей...»

...У трэцюю гадавіну з дня смерці Янкі Купалы В. Таўлай напісаў шчымліва-пранізлівы верш «Памяці Янкі Купалы»:



*Я. Раманоўская, Г. Таўлай, А. Ліс, Я. Брыль, Л. Давідоўская на вечарыне памяці В. Таўлая.*

*Фота Пятра ЖОЎЦІКАВА.*

**Яго няма...**  
**А песні следам**  
**штогод — усё мацней звіняць,**  
**і сам ён звонкая легенда,**  
**якой і рэху не абняць.**

Гэтыя радкі з поўным правам мы можам аднесці да неардынарнай постаці самога аўтара, які самаахвярна, самаадданa любіў сваю Бацькаўшчыну — Беларусь. Жывуць яго вершы, што сталі здабыткам нашай літаратуры.

Да юбілею В. Таўлая Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы і Дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва стварылі выстаўку унікальных матэрыялаў, куды ўвайшлі рукапісы яго вершаў, напісаныя ў астрогах Вільні, Слоніма, Гродна, фотаздымкі, выданні яго твораў. Сярод іх — рукапіс першага верша паэта «У нашым краі». Дакументы і матэрыялы, што тычацца стварэння і адкрыцця музея Янкі Купалы /планы, справаздачы, нататкі/, як і многае другое, экспануюцца ўпершыню.

У сценах музея адбыўся вечар, у якім бралі ўдзел: дачка паэта, кандыдат мастацтвазнаўства Галіна Таўлай, сябра В. Таўлая, народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, пляменніца Я. Купалы Ядвіга Раманоўская, Арсень Ліс, кампазітар Леанід Шурман, што напісаў цыкл песень «Успаміны» на словы В. Таўлая і цыкл песень на словы Максіма Танка — «Яго напевам выпаў слаўны лёс», прысвечаныя Яўгенам Іванавічам сябру па барацьбе.

На вечарыне выступілі ансамбль народнай песні «Беларусачка» гуманітарна-лінгвістычнага каледжа г. Мінска і дзіцячы фальклорны ансамбль «Калыханка» з Міханавічаў.

**Л. ДАВІДОЎСКАЯ,**  
**старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

* * *

Мігаючае полымя свечак выхоплівала партрэт Валянціна Таўлая ў Доме літаратара, і гэта надавала юбілейнай вечарыне своеасаблівую інтымнасць. Так яно і было, бо выступалі людзі, якія добра ведалі палымянага паэта-рэвалюцыянера: Я. Брыль, М. Танк, А. Вялюгін, доктар фізіка-матэматычных навук Л. Барысаглебскі, А. Траяноўскі, А. Іверс, а таксама госці з Баранавіч, якія паведалі прысутным аб тым, як у іх горадзе ўшаноўваецца памяць паэта.

Вершы В. Таўлая чыталі М. Захарэвіч і В. Манаеў. Беларускія песні прагучалі ў выкананні фальклорнага калектыву «Калыханка».

# СУСЕДЗІ

## ДА 125-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯДВІГІНА Ш.

У 1909 годзе суседзямі Лявіцкіх /сям'і Ядвігіна Ш./ становіцца сям'я Луцэвічаў, якая бярэ ў арэнду недалёкі ад Карпілаўкі фальварак Акопы. Выпадкова гэта адбылося ці сама так гісторыя захацела, але такога на Беларусі яшчэ ніколі не было, каб побач пасяліліся два дзеячы нацыянальнай культуры, два самабытныя майстры беларускага слова.

З Ядвігіным Ш. Янка Купала пазнаёміўся яшчэ да пераезду Луцэвічаў у Акопы — недзе /паводле слоў песняра/ у 1904—1906 гадах. Купалаў біёграф Уладзімір Юрэвіч удакладняе: вясной 1904 года. У Радашкавічах тады быў кірмаш. На яго прыехаў і Я. Купала. Тут ён напаткаў Уладака Самойлу, і той пазнаёміў яго з Ядвігіным Ш. Знаёмства зрабіла на Купалу вялікае ўражанне. Ядвігін Ш. ужо тады быў слынным беларускім пісьменнікам, меў друкаваныя творы /перакладныя/, вучыўся ў Маскве. За свае беларускія ідэі і перакананні сядзеў у Бутырскім астрозе. Купалу цягнула ў Карпілаўку. Прыходзіў найперш браць кнігі. У Ядвігіна Ш. Купала ўпершыню ўбачыў цэлую бібліятэчку з беларускіх выданняў. Сярод іх — кніжкі Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча, якія перавярнулі ўсю Купалаву душу, і ён цалкам пачынае пісаць па-беларуску, а дагэтуль, як вядома, пісаў і па-польску.

Завітаў Купала да свайго суседа і з новымі творамі. Вясной 1912 года ён чытаў у Карпілаўцы толькі што напісаную «Паўлінку». Пра гэта ён паведамляў пятага чэрвеня ў Пецярбург Б. Эпімах-Шыпілу:

«Напісаў у двух актах камедыю, каторую чытаў пану Лявіцкаму, і ён казаў, што напісана дарэчы. Камедыя называецца «Паўлінка», напісана прозай, з шляхоцкага жыцця. Калі мне ўдасца перапісаць на машынцы ў колькіх экземплярах, то дарагому п. прафесару прышлю адзін экземпляр для прагляду».

Купалава «Паўлінка» гэтак легла на сэрца Лявіцкаму, што ён падахвоціўся сыграць пэўную ролю. І такую мажлівасць ён атрымаў. З вялікім задавальненнем сыграў Крыніцкага. Надта яму падабалася постаць гэтага пакладзістага, памяркоўнага, разважнага, а разам з тым пры патрэбе і настойлівага шляхціца.

«Каханенькія-родненькія, як скажу — так і будзе», — з нейкім асаблівым смакам прамаўляў гэтую гулліва-ласкавую з суровінкай прыпавесць. Спектакль ставіўся ў Вільні, на якім быў і Купала. Ядвігін Ш. ведаў, што абразок для Паўлінкі быў узяты з жыцця тутэйшых мясцін, дзе Акопы, Карпілаўка, Харужанцы. Мо гэтым была і дарагая яму «Паўлінка». Папраўдзе, ён зайздросціў творчаму ўзлёту Купалы. Здаецца, толькі-толькі знаёміў Купалу з сакрэтамі літаратурнай творчасці, яе азамі, а ўжо пра яго ўсюды і скрозь загаварылі. Усё, пра што напісана ў ёй, вядома было і Ядвігіну Ш. Але вось не сабраўся, не прыкмеціў, не звёў бытавую з'яву ў мастацкую.

Ядвігін Ш. любіў тэатр. Прыгадалася першая спроба напісаць драму «Злодзей». Было гэта яшчэ на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Напісаць то напісаў, але ні надрукаваць, ні паставіць не ўдалося, не змог, хоць і спрабаваў.

Дачка ж пісьменнікава Ванда Лявіцкая згадвае, нібыта п'еса «Злодзей» была пастаўлена сіламі мясцовай інтэлігенцыі. Было ўсё гэта аж у 1892 годзе, неўзабаве пасля выдання ў Маскве перакладу «Сігналу» У. Гаршына. Відаць, той юнацкі творчы запал, які ўспыхнуў у Бутырскім астрозе, кіраваў ім і ў Карпілаўцы.

Абодва яны — і Ядвігін Ш., і Янка Купала — надавалі тэатру вялікую ролю ў адраджэнні роднага народа. Яны гарнуліся душою да ўсіх праяў тэатральнага руху на Беларусі.

Вось дужа яскравая згадка пра Ядвігіна Ш. унука Францішка Багушэвіча Зыгмунта Абрамовіча: «На адным з кавалкаў нашай дарогі... на некалькі дзён да нас далучыўся таленавіты пісьменнік Ядвігін Ш. — вялікі, шчыры прыхільнік дзядзькі Ігната і ўсёй нашай трупы. Ён і яго дачка — яшчэ дзяўчынка — былі, зразумела, на нашых спектаклях. Аднойчы пасля выступленняў Ядвігін Ш., убачыўшы нашы стомленыя і ў той жа час вельмі задаволеныя твары, сказаў мне прыблізна такое: «Калі б сябра Ігнат стварыў свет і ўсіх істот, якія жывуць у гэтым свеце, ён, напэўна, надзяліў бы ўсіх іх рухам, прасцей кажучы, у Буйніцкага «ўсе і ўсё» мусілі б танцаваць».

У жніўні 1913 года «Паўлінку» паказвалі ў Радашкавічах. Ядвігін Ш. і Янка Купала разам з іншымі нацыянальнымі рупліўцамі не давалі драмаць тутэйшаму краю, асвечвалі яго кнігай і тэатрам, свядомай беларушчынай. Жыхары суседніх вёсак не адзін раз бачылі Купалу і Ядвігіна Ш. разам. Прынамсі, Грыпіна Гаеўская згадвае: «Колькі я яму ў полі жніўных песень наспявала. Бывала, сядзе на камень, услухаецца, як мы спяваем, і ўсё нешта з Антонам Лявіцкім гаворыць і запісвае...»

Купала добра ведаў усю сям'ю Лявіцкіх.. Адпаведна і Ядвігін Ш. добра ведаў усіх Луцэвічаў. Купала нават адной сваячцы Лявіцкага Марыі Шышко прысвяціў прыгожы, велічны верш «Жняя»:

**Як сама царыца**
**Ў залатой кароне,**
**Йдзе яна ў вяночку**
**Паміж спелых гоняў...**

Што згаданы верш прысвячаўся сваячцы Ядвігіна Ш., сведчыла і Уладзіслава Францаўна. Прысвячэнне гэтае значыцца і ў першым выданні «Шляхам жыцця». Нечым жа прывабіла Купалу гэтая сваячка Ядвігіна Ш., натхніла на такі ўзнёслы верш. Дата напісання яго — 21 чэрвеня 1911 года. У Акопах.

Праз некаторы час шляхі-дарогі суседзяў-пісьменнікаў збягуцца ў Вільні. Абодва будуць працаваць у «Нашай Ніве». Затым на колькі гадоў іх сцежкі разыдуцца. І, здаецца, пасля шаснаццатага года, паслабяцца. Купалу лёс закіне напачатку ў Полацк, затым у Смаленск. Ядвігін Ш. будзе ладзіць грамадскае жыццё ў Мінску, зрэдку наведваць Карпілаўку. Змена палітычных варункаў змусіла яго перабрацца ў Вільню. Там ён спатыкае сваю апошнюю хвілю жыцця.

Па-суседску не цураўся Купала сям'і Ядвігіна Ш. пасля смерці гаспадара Карпілаўкі. Ён быў хросным бацькам яго ўнучак — Люцыі і Алесі. Не адзін раз, наведваючы Акопы, заглядаў разам з Уладзіславай Францаўнай пад страху дома Лявіцкіх, прывозіў сваім хрэснікам розныя гасцінцы, дарункі. Па словах Люцыі і Алесі, і яны не адзін раз завітвалі ў Акопы і заўсёды былі жаданыя тут. Так гэта было, пакуль не пачалося бальшавіцкае руйнаванне іх родных гнёздаў, выгнанне з роднага кута і Купалавых сваякоў, і сям'і Ядвігіна Ш.

**Уладзімір СОДАЛЬ**

# ЯГО ЗВАЛІ МІШАМ ЧОРНЫМ

## ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МІХАІЛА ХАНІНАВА



Прадстаўнікі многіх народаў у гады мінулай вайны змагаліся з нямецка-фашысцкімі захопнікамі на тэрыторыі Беларусі. Сярод іх быў і калмыцкі паэт Міхаіл Ханінаў. Вялікую Айчынную ён сустрэў 13 ліпеня 1941 года на пасадзе камандзіра ўзвода Забайкальскага палка. Баі на Смаленшчыне былі цяжкімі, і М. Ханінаў разам з іншымі трапіў у акружэнне, але не разгубіўся, арганізаваў падпольную антыфашысцкую групу, а неўзабаве стварыў партызанскі атрад, які ўвайшоў у Магілёўскае злучэнне.

Міша Чорны — так звалі М. Ханінава, камандзіра асобна дзеючай роты у складзе 15-й партызанскай брыгады, — жыхары Беларусі. Фашысты гэтую роту звалі дзікай... дывізіяй. Вельмі ж «салілі» ім мсціўцы. Прыклады гераізму, мужнасці паказваў нязменна сам камандзір, за галаву якога гітлераўцы абяцалі вялікую суму грошай.

Пасля вайны ў знак прызнання заслуг сына калмыцкага народа ў разгроме ворага беларуская вёска Пагарэлае была перайменавана ў Ханінава. М. Ханінаў стаў ганаровым грамадзянінам горада Беразіно і ганаровым калгаснікам трох вёсак. Ды неўзабаве быламу партызану давялося думаць аб тым, як выжыць. Пачалася арганізаваная Сталіным дэпартацыя калмыцкага народа ў Сібір. М. Ханінаў вымушаны быў працаваць лесарубам у Краснаярскім і Алтайскім краях, выратавальнікам на шахце, прарабам... У родную Калмыкію вярнуўся толькі ў 1957 годзе...

Хоць дэбютаваў яшчэ ў 1935 годзе, першую кнігу паэзіі «Песня радасці» М. Ханінаў выдаў у Элісце толькі ў 1960-м. Працаваў вельмі плённа, наганяючы ўпушчанае. І не толькі выступаў у галіне паэзіі, а і прозы. У прыватнасці, прыхільна былі сустрэты чытачамі і крытыкай аўтабіяграфічныя творы М. Ханінава: аповесць «Міша Чорны — гэта я!» і раман «Помніш, зямля смаленская». Часта друкаваліся вершы М. Ханінава і ў перакладах, у тым ліку на беларускую мову. У 1977 годзе, дзякуючы А. Пысіну, у выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыла свет кніга яго паэзіі «Жураўлі над стэпам». Усяго ж М. Ханінавым было выдадзена больш як 30 кніг.

Не стала Міхаіла Ванькаевіча 22 верасня 1981 года. А кнігі яго жывуць, як жыве і памяць аб ім, «калмыцкім Дзянісе Давыдаве» /М. Матусоўскі/, на беларускай зямлі — таксама.

Пошта

# ЛЕПШ МЕНШ ДЫ ЛЕПШ

Нядаўна да мяне трапіў у рукі вучэбны дапаможнік для вучняў 4-га класа «Беларусь — мая Радзіма» /аўтары У. К. Пляшэвіч, А. П. Жытко, В. Л. Белая, Мн., «Народная асвета», 1993/.

Перш за ўсё здзівіла складанасць выкладаемага матэрыялу. Так, аўтары дапаможніка прапануюць вучням /якія ніколі раней не сустракаліся ні з гістарычнымі, ні з геаграфічнымі дысцыплінамі/ засвоіць наступныя тэрміны: **скандынаўскія сказанні, Паўночны-Захад Еўропы, Паўднёвы-Усход Беларусі, Беларускае Панямонне, крыжакі, рыцарска-манаскі Ордэн, каталіцкая царква, іслам /мусульманства/, мячэць, каран, «кітабы», мецэнаты, уніяцкая царква** і інш. Няўжо складальнікі не ведаюць адзін з галоўных прынцыпаў педагогікі — ісці ў працэсе вывучэння ад простага да больш складанага? Лагічна было б у 4-м класе пазнаёміць вучняў з больш простымі паняццямі, а ў 5-м і 6-м пашырыць іх веды больш складанымі. Напрыклад: **сказанні, паданні, легенды** /4 кл./ — **скандынаўскія сказанні** /6 кл./; **варагі — суседзі славян** /4 кл./ — **варагі — жыхары Скандынаўскага паўвострава** /6 кл./; **нямецкія рыцары** /4 кл./ — **крыжакі, тэўтоны** /6 кл./. Калі пакінуць без змен сучасны выгляд дапаможніка, вучням з сярэднімі здольнасцямі будзе вельмі цяжка разабрацца з масай складаных для іх слоў.

Неадпаведным псіхалагічна-ўзроставым асаблівасцям вучняў чацвёртага класа з'яўляюцца і цяжкія назвы параграфаў і раздзелаў /напрыклад — «З'яўленне новага аб'яднальнага цэнтра беларускіх зямель у 13 ст.»/. Няўжо нельга пісаць проста і паэтычна «Узвышэнне Навагрудка», «Абарона незалежнасці» і г. д.

Пры падрыхтоўцы дапаможніка аўтары сталі на памылковы шлях: замест мастацкага апісання важнейшых падзей і выдатных гістарычных асоб яны паспрабавалі пазнаёміць вучняў з большай колькасцю фактаў і паняццяў. У сувязі з гэтым вынікі аказаліся супрацьлеглымі задуманаму. Так, у дапаможніку даволі падрабязна асветлены розныя этапы ўзнікнення ВКЛ, змяненне адносін літоўскіх князёў з татарамі. У той жа час адсутнічаюць звесткі пра знешні выгляд Францішка Скарыны, пра рысы яго характару. Падобныя недахопы ўласцівы і ў адносінах да іншых дзеячаў нашага мінулага. Хацелася запытаць паважаных аўтараў дапаможніка: дык, можа, трэба прыслухацца да вядомага ўсім выразу «лепш менш, ды лепш»?

**Л. ДЗІКЦЯРОЎ,**
**настаўнік.**

*м. Відзы.*

# АД ЭЛЬДАРАДА ДА ТУНГУСКІ

Дзіцячы пісьменнік... Дзіцячая літаратура... На вялікі жаль, нашы крытыкі часта абыходзяць маўчаннем гэтую дзялянку літаратурнай творчасці. Бытуе думка /яна, праўда, не выказваецца ўслых/, што гэта літаратура другарадная. А другараднае, як вядома, не заслугоўвае ўвагі, яго можна і маўчаннем абысці. Дзякаваць Богу, што ў нас на Беларусі ёсць «Юнацтва», выдавецтва, якое спецыялізуецца на выданні кніг для дзяцей. Чатыры гады назад у серыі «Бібліятэка прыгод і фантастыкі» яно выдала кнігу аповесцей пісьменніка, настаўніка са Слонімшчыны Аляксея Якімовіча. Яна мела загадкавую назву «Эльдарада просіць дапамогі». Па звычцы наша крытыка яе проста не заўважыла, як і першую кніжку А. Якімовіча «Гордзіеў вузел» /1987 г./.

Што здарылася з багатай і казачнай Эльдарада ў аповесці Аляксея Якімовіча, я пераказваць не буду. Скажу толькі, што мне спадабаліся задума, ідэя і сюжэт аповесці.

Прачытаўшы «Эльдарада...», я з нецярпеннем чакаў новай сустрэчы з творамі празаіка. І яна наступіла. Летась у выдавецтве «Юнацтва» накладам у трыццаць тысяч паасобнікаў выйшла з друку новая кніга Аляксея Якімовіча зноў жа з інтрыгуючай назвай «Сакрэт Тунгускага метэарыта». Яе склалі дзве аповесці. Першай — прыгодніцка-фантастычнай, якая дала назву, адкрываецца кніга. Мяне, канешне, адразу зацікавіла: ці адпавядае аповесць гэтаму жанру, ці здольна канкурыраваць яна са шматлікімі творамі, як цяпер прынята казаць, далёкага і блізкага замежжа, ці ўдалося аўтару з правінцыі пабудаваць хітра сплецены, захапляльны сюжэт, ці ёсць тут думкі, якія хвалююць нашых сучаснікаў? Бо, на мой погляд, сапраўдная фантастыка — гэта не проста нейкая бойка альбо страляніна ў космасе ці пад вадой, але і думка, ідэя, якія нясуць у сабе высокія агульначалавечыя паняцці і прынцыпы.

Чытаю першыя раздзелы і з прыемнасцю для сябе адзначаю, што аўтар, калі можна так сказаць, крочыць у нагу з прагрэсам. Тут ёсць усе атрыбуты фантастыкі: гэта і незвычайны касмічны лятальны апарат «Альбатрос», і супер-міні-камп'ютэр «М-1», падобны на гіганцкую мурашку, і інш. Героі аповесці, школьнікі Антон і Васіль, дык і называюць апошні Мурашом.

Мураш, любоўна апісаны пісьменнікам, паказаны як сапраўдная жывая істота. Нездарма Васіля і Антона так цягне да Мураша. Калі яшчэ адзін герой аповесці, вучоны-лесавод Піліп Макаравіч кажа дзецям, што Мураш будзе іх ахоўваць, бегаючы вакол палаткі, то ў Антона, міжволі вырываецца: «А не стоміцца, бегаючы цэлую ноч?». Думаецца, што вобраз Мураша /а ён як сапраўдны сябар не раз дапамагае героям/ — удалая задумка аўтара.

Чым яшчэ прываблівае да сябе твор, дык гэта інтрыгай. Яна распачынаецца з першай жа старонкі, а потым, паступова, нібы пласты раллі на дбайна ўзараным полі, нарастае, вабіць да сябе, не адпускае да апошняй старонкі, аж да самага фіналу.

Аповесць складаецца з трох частак. У першую — «Незвычайныя турысты» — аўтар уводзіць некаторыя навуковыя звесткі. Мы, напрыклад, даведваемся, што рукамі чалавека за апошняе стагоддзе знішчана 15 працэнтаў усёй паверхні сушы, якая абраблялася і давала ўраджай. І падобную знішчаную, калісьці квітнеючую зямлю дзеці бачаць, калі трапляюць на планету Сіз. Страшна ім бачыць голую зямлю, знішчаную валадаром планеты, каб яшчэ больш запрыгоніць сваіх падданых.

Кульмінацыйным месцам аповесці, як мне думаецца, з'яўляюцца тыя старонкі, калі жыхары ў дзень нараджэння Сакса лезуць, аддаючы апошнія грошы, каб паглядзець як на дзіва на звычайную траўку-мураўку, якая на высокай вежы расце ў гаршку. Толькі праз бінокль яе можна ўбачыць. І міжволі думаецца: а ці не станецца і з намі так, калі не будзем сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі?..

Другая аповесць кнігі — «Прыгоды шасцікласніка Максіма» — не адносіцца да твораў фантастычнага жанру. Яна пра сучасных вясковых школьнікаў, якія, аднак, адчуваюць сябе гараджанамі, бо, выхаваныя ў цагляных шматпавярховых будынінах, нават каня не ўмеюць запрэгчы... Ды аўтар не збыткуе з іх, ён ім спачувае. Гэта іхняя не віна, а бяда, звязаная з усім укладам нашага жыцця.

Аповесць напісана Аляксеем Якімовічам не год, не два назад, а намнога раней /ён яе аддаваў на Рэспубліканскі конкурс на лепшы дзіцячы твор, які праводзіўся яшчэ ў 1987 годзе/, але, што радуе, і сёння яна не састарэла.

Праўда, на маю думку, празаік завельмі захапляецца дыялогамі. Амаль усе падзеі яго твораў праходзяць праз дыялог. Гэта трохі надакучае. Дзеці ўсё ж больш любяць зацікаўленае апісанне, аповяд.

Акрамя таго, мне здаецца, што пісьменніку яшчэ не хапае смеласці і шырыні ў апісанні фантастычных з'яў і прыгод. Аўтару не трэба абмяжоўвацца толькі вясковымі ідыліямі і летуценнікамі, а ісці далей у сваіх творчых пошуках.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*г. Слонім*

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# КОНІ



АПАВЯДАННЕ

запаленую сярнічку, бачыць агонь, бы ты ўжо на самым дне затопленага сусвету.

Раптоўна ўспомніцца, што на тых днях, якраз перад бурай, бачыла жанчыну ў чорным. Быццам ішла яна ў поле, да лесу, ад вёскі, не зразумець толькі, ад чыёй хаты, хто. За плячыма высока каса і граблі. Ідзе, крокаў не відаць, а рухаецца, перамяшчаецца хутка, быццам і не на сваіх нагах, а па ветры, зачапіўшыся грабільнам за хмару. Лёгка, краем лесу, зайшла ў кусты, дастала свой грыб, пэўна, зазначаны надоечы. І зноў яе бачыш ужо на гэтым баку пералеску. Ідзе не тое што каб да работы, нетаропка, здалёк дык быццам ходзіць пракосамі: узад-уперад, узад-уперад, граблі высока над галавой — зграбала, ссоўвала да вёскі хмары. І сонца свяціла, і відно, што не старая, а яна выйшла сенаваць у чорным... Назаўтра — бура, разводдзе, бяда.

Нехта каля ракі сказаў і забыўся на тое: загінула народжанае гэтай ноччу жарабя, набрала вады ў вушкі. «Як гэта?!» — перапытвала ў людзей. «А, ведама, калхознае...» — адказвалі абыякава, бы яно нетрывушчае, асуджанае на пагібель, нечага і дзівіць. І Ляльцы з начы пагоршала. Кабыла нервавалася, ускідвала азадкам, ляскала ў паветры капытамі, шугала мачой, як з вядра, ці то баронячыся ад двух жарабцоў, ці то штукуючыся перад імі, тыя, пэўна, недзе адарваліся ноччу, табуніліся каля яе. Лялька ўжо не здужала нават падняцца з зямлі. У храпах стаялі буйныя кроплі расы, цельца як мачонік, а яна нетаропка, па-жабрацку, бы са стала старэчай рукой, падбірала губой крошкі хлеба. Во калі падліло, парвала ўсе зашчапы, забароны вясковыя — трэба самой браць раду, нікога болей не пытаючыся. Гэтая скачаная бурай трава, гэтае мокрае поле не выцягнеш з-пад яе, не перасушыш, як посцілку, не перакінеш, і самому табе не будзе спакою, што б там ні казаў Юзючок, чаго б ні маўчала абыякава вёска, бы і сам ты ўвесь час на ейнай сырой хворай ложы. Ні з кім не радзячыся, фуфайку на сябе — пабегла ў суседнюю вёску па ветурача.

Ішла, злавалася на сябе, выгаворвала некаму як не ўголас. Бурым заносіла паабгрызеныя каровамі пагоркі. «Хапае кабыле травы», — пярэчыў Юзючок. А жаробцы? Чаму ніхто з вёскі не падышоў, не параіў ёй, гараджанцы, даваць яйка з цукрам, яшчэ ж на памяці ў старых людзей, як выходжвалі немцы сваіх знямоглых у дарозе жарабят? А Лялька ўсё радзей падыходзіла да вымя. «Калхознае...» — як яны кажуць. Сама вінавата, не звярнула ўвагі, думалася, што сп’яна выгаворваў ёй сусед Паўла: «Каб гэта сваё, а так і спасіба ніхто не скажа. Я во быў узяў з фермы ў кішэню, можна сказаць, смецця, прадсядацель мяне пасля — адну ж бяду маюць, пайшла ў хату. Падсвядома жадаючы ўдзячнасці ад старых, сама ўзяла з сабой гасцінец, панесла. Настася сустрэла на панадворку, несла поўнае вядро сырадою. О, якім знакам, якой дарагой узнагародай быў бы ёй кубак малака! Яна, як чараўніца, напаіла б ім усіх зняверaных у сялянскай добразычлівасці, высакароднасці, акрыяла б сама, амаль пакутуючы каля хворай Лялькі. Але Настася, як заўсёды, спяшалася. Вярнуўшыся да сябе ў пакой, стаяла тады перад Адзігітрыяй у разгорнутым альбоме на кніжнай паліцы, не ведаючы пацераў, прасіла дапамогі, звярталася чамусьці да ейнага дзіцяці, пэўна, не адважваючыся трывожыць засмучоную чалавечым лёсам багародзіцу. А можа, яно, маленькае, народжанае ў хляве, каля жывёлы, само распытвала ў жанчыны пра жаробку? Чужыя ў гэтай вёсцы і калгасныя коні, і яна, гараджанка, каму ж яшчэ да іх справа...

Там-сям у лесе падымаліся з нізін, спяшаючыся, надзявалі аберуч шапкі на самыя вочы, беглі на пагорак апенькі, зарана, праўда, але ж такая сёлета сырызна. Зусім побач храснула, павалілася надламанае бурай ўначы дрэва. Мядзведзем роў, выдавалася, у самыя вушы дзед Ляксей, ведучы кабылу да работы, а заўсёды ж быццам такі прыветны чалавек. «Няхай ро-о-біць, нагуля-я-лася, халера яе не возьме...» Помсліва тузаў за аброць, спаганяў за тое, што жарабя прыняла, што гуляе, а ў вёсцы такая пільніца — якраз жа салому калгас дзяліў. Пакуль усе навазілі... Доўгая была жаробцы тая дарога, тады і закульгала...

— Ну, што, цётка, маеш? Чаго прыйшла? — запытаўся ветурач, калі дайшла да яе чарга.

Ганна тлумачыла, збівалася, зноў гаварыла, а самой аж у твары стала горача. «Цётка»... Думаў, што нейкая калгасніца... Ён жа не такі ўжо і малады, гэты «пляменнік»... Можа, і аднагодак...» Пэўна ж, у фуфайцы, боты гумовыя ў гразі па халяву, твар збедаваны. Адным словам, бясполая істота перад мужчынам — «цётка»... Не ўмее яна сябе паставіць у вёсцы. Трэба было з’явіцца амаль афіцыйна, патрабаваць, а не прасіць хуткай дапамогі, ведаючы ад людзей, што ветурач аніякі ў калгасе, што маладняк гіне на ферме, ён жа і сам быў павінен даўно наведацца і сачыць за здароўем малой... Грэбліва абмінаючы лужы, ішла з фермы, як на тое, жанчына... у лакірках на босую нагу. Во, пэўна ж з вясковай інтэлігенцыі, не іначай. А яна — цётка, аніякая не настаўніца... Каго дакараць, вінаваціць? І сама адступілася, хіба не разумела, што меў на ўвазе Юзючок, калі казаў: «Што будзе, тое будзе, а бульбу то ўжо выкапаем...» Марудзіў клікаць на дапамогу, бо прыедзе ветурач, мусіць

шум, плёскат, гойданне дрэў укалыхвалі да ванітаў. Страх заснуць, бы ты яшчэ можаш сваім розумам даць якую раду, упільнавацца, каб цябе не сарвала з месца, не аднесла далёка ад людзей. Назаўтра, ступіўшы на зямлю з таго начнога каўчэга, ледзь пазнаеш наваколле: мокрая, шэрая, як мыш, птушка на клёне; суседка на ганку ў хустцы нанайніцу, ступае асцярожна, каб не паваліцца, ідзе ў сад да вывараченых яблынь, да затопленай бульбы. Рукі вісяць уздоўж цела, ужо яна, выдавалася, доўга не змусіць нічога імі рабіць, наглытаўшыся гэтай цёмнай вады — бяды. Рака затапіла хлявы, лазню, ідзе перакатамі, шуміць дажджом, бы кожная кропля ў ёй яшчэ жыве асобна, гамоніць сваім голасам. Праехала па вуліцы пустая падвода, а падалося, што зноў варочаецца навальніца. Галасы ў вёсцы над вадой чыстыя, званчэйшыя, далёка чуваць. Клічуць да сябе дзяцей, пабыўшы, зноў клічуць — надта блізка бяда, нават паспускалі з ланцугоў сабак. Скрышаныя зёлкі, кветкі, водарасцямі матляецца лісце дрэў, чыстая зямля пад нагой, ані следу, бы і не было дагэтуль жыцця твайго, працы. І самае нязвыклае пасля — мыць ганак, ставіць чайнік, трымаць гэтага на кожным сабранні спавядае. Дык я пасля буду ягонае жарабя падымаць?!» Але ж гэта не мёртвы калгасны інвентар, не кола, каб ісці і перажаргаць. Гэта ж не старшынёва, а жывая, боская істота, як душа трывае? Вось няхай, маўляў, бог і пільнуецца, і ратуе жаробку? І ты пяклуйся, калі бабе трэба... Ці не спазнілася яна? Ці не позна пайшла насуперак вёскі? Насуперак старога гаспадара Юзючка, ухваленага дзедам Ляксеем: «Во, Юзюк! Ён хадзяін. У яго, каб ты паглядзела, якія сві-і-нні». Чаму ж не, свінні ж свае, не калгасныя. Цяпер, ідучы па слізкай дарозе, разумела, чаму не хінуліся да яе Юзючок з Настасяй, як бы і не заўважалі ейнай дапамогі, быццам чакалі, калі нацешыцца гараджанка, надакучыць ёй забаўляцца з коньмі. Паздароўкаецца каторы і прэч, не пастаіць, не загаворыць. «Можа, проста некалі ім, старыя ж людзі, а бульба яшчэ на полі, а свая скаціна ў хляве, восень, — разважала раней. — Як у злосці ўсё роўна ходзім...» Тады, успомнілася, дашчэнту збедаваўшыся, востра адчула, як намацала тую гадзіну, калі трэба нарэшце сустрэцца са старымі, пара надышла пабедаваць разам, як парадніцца на момант, забраць кабылу з жаробкай лячыць на канюшню, нечым будзе разагнаць барозны. Мокрая сёлетняя восень. Бачыла, зайшоўшы: ляжыць баба Стэпка ў халоднай хаце, укруціўшыся ў коўдру: «Ай, гэтак да дажджу спяшалася ўхапіць бульбу. Ухапіла... Але ж во печ яшчэ не цеплілася, сагрэцца не здужаю, усё цела ахлудзела...» «Задаўленне», як яна кажа, паднялося ад такой работы... Лятуць навыперадкі да Юзючка, просяць каня, — ратуюць бульбу. Той потым толькі сядзіць узапечку, счапіўшы галаву рукамі, маленькі, вушы тырчаць, сіні ад гарэлкі, як кажан. Частуюць яго за кабылу, — дармавізна. Хіба зарачэшся, хоць яна яму надта шкодзіць... Зямля цяжкая, прыводзілі ўвечары кабылу мокрую да спадніцы, віўкае, злуецца на Ляльку, калі тая прагна, балюча ўлепіцца за пустое вымя. «Паспрабуй ты не даць катораму каня! Ого! А як налета яму даручаць кабылу даглядаць, то ўжо не дапросішся, не-не», — апраўдваўся Юзючок.

Цяпер, калі ветурач, наведаўшыся, сказаў, што позна, жаробка загіне, Ганна адчувала сябе ў гэтай вясковай суполцы раўнёй, амаль сужыцелькай падвозчыка Бабра, як тая Глаша. Толькі што не каля ейнай брамы начуе ягоны жарабец з калясьмі, скінуўшы пад ногі палюбоўніцы п’янага гаспадара. Не, яна не вытрывае болей, кіне, з’едзе адсюль — і не ўспомніць... Як ніводзін год раскашавалі гусі, вады хапала, вёска якраз на зломе ракі плыла птушыным востравам, засланым белым пер’ем. Раз-пораз гусі залятаілі праз плот у сад па яблыкі. Днём змрочна, як увечары на шэрай гадзіне, сонца не відаць, але ледзь улоўна ружавелі белыя крылы. Невідушча, аберуч гарнула яно іх да сваіх румяных шчок, лашчыла, клікала ў далёкі вырай, як на вячэру. Нізка над хатай лятуць дзікія гусі, чамусьці выходзіш за веснічкі, каб праводзіць, бы яны адлятаюць з твайго дому, з твайго саду. Дзень удзень хадзіла да жаробкі, яе, нарэшце, Юзючок пусціў у хлеў, натурыста цягала кашамі траву, карміла з рук усім, чым магла. Слабая была ўжо і тая трава, і ў садзе пуста, дзе-нідзе па яблыку, як на сірочы новы год. Ветурач больш не прыходзіў, сама старалася лекаў, сама змазвала рану /пухір, нарэшце, прарвала/, доўга, каб хто бачыў, як варажбітка, глядзела на балючае месца, бы дапамагаючы яму выбалець. Млечны шлях якраз над галавой выдаваўся пустым гасцінцам, глухі асенні гром — цяжкім тупатам позніх коней. Занадта блізка гарызонт над лясістым пагоркам, зоркі скрозь дрэвы блукаюць воўчымі вачамі, і кабыла ноччу так храпла, некага чуючы, што хоць ты бяры бляху ў рукі і бі ў яе, баронячы хворую жаробку. Ізноў дождж, раніцай на момант пераціхне, збяжыць з мокрай страхі ў вадасцёкавую трубу тонкі струмень, і зноў аслабне. Дождж і дождж, халодны, ужо асенні, а то выдаецца і цёплы дзень, аж яшчэ з раніцы, лежачы ў ложку, чуеш яго — дыхае хата. Выскачыць суседскі ўнук у адной кашульцы, стане на высокіх сходках і цымбурыць уніз, не азіраецца, ці хто бачыць, не стыдаецца, стаіць нерухома, цнотна, рыхтык фантан у гарадскім садзе — дождж. Адзін раз расхінулася надвечар неба, якраз напроці ейных вокан. Ружовы з пазалочаным праём, вузкі, высокі, бы адчыніліся дзверы. І нехта, пэўна, выйшаў нябачна, бо якраз у гэтым месцы з’явай узнік стромкі пагорак — Ганна яго раней і не заўважала — ён бы трап падагнаны ці сходкі пад чыесьці ступні, каб сысці на зямлю. Плечы, душу агарнула, сціснула тая доўгая хвіліна, калі ўтрапёна спыняешся перад абразом, раптам адчуваючы, што і сам стаіш на святым месцы. Усё навокал: вёска, людзі — падалося адзіным кутком на ўсёй зямлі, ціхім, благаслаўлёным, як покуць у хаце, ахінуты блакітным ручніком ракі. Тут займаюцца праведнай працай, усё рукамі, навобмацкі: якое сена сырое, якое сухое. Нясе каторая баба ўзаплечкі з вечара дровы ў печ, перацятыя мужавай дзягай, сагнецца, як пад крыжам нясканчоных марных клопатаў. Тут апоўдні гавораць, дзівячыся, пра тое, якая цяперака раніцай халодная зямля, басанож не ступіш, забываючы, што гэта проста падцiскае холадам старасць. Тут п’яны конюх з суседняга калгаса, ідучы праз поле ў вёску па самагонку, раптам рэкнуў, шчыра зажалеўшы жаробку: «Такое дзіцятка...», а потым спекульнуў гэтым самым: «Прадай бутэльку, то я прывязу свайго ветурача, той мёртвага падымае...» Гарэлкі не было, і веры таксама, але словы ягоныя на нейкі момант быццам аб’ядналі Ганну з калгаснікамі, якія так глыбока, што падыме са дна толькі сівы хмель, так доўга носяць жалобу па калісьці ўласных конях. Тут чарнеюць з кожным асеннім днём у лясным храме лікі дрэў, толькі адна бярозка парафіянкай у светлым. Амаль без сцябла, бы донцам стаіць на зямлі, царкоўнымі чашамі цвіце ў ейным садзе сіні пазнацвет... Ганна доўга пасля не магла аслабаніцца, пазбавіцца ад пачуцця, што перад ёй у гэтым зацішку ўвесь час расчынены малітоўнік, а ёй некалі пацеры мовіць — трэба бегчы да коней.

Каля хлявоў яе пераняла Настася. «Ты ж капусты не маеш...» — і кладзе ў ейнае вядро белыя качаны. «Колькі я вам за іх павінна?» — «Бронь божа! Мы ж з табой дружым», — бароніцца Настася і ўсміхаецца, слабка так, бы толькі што замарозка адышла. «Дружым?!» — ледзь не ўсхліпнула расчуленая Ганна. Значыць, нарэшце-такі прыняла Настася і ейную дапамогу калгаснай жаробцы, як сваёй уласнай, прыняла і яе, гараджанку, і ейныя нязвыклыя адносіны да чужых на гэтай зямлі коней. «А куды, баба Стэпка, маркоўнік?» — пытаецца праз плот, спадзеючыся выпрасіць, бо трава ўжо слабая. «Жаробцы», — адказвае старая і сама панесла. Нехта скінуў каля хлявоў посцілку бурачніку. Настася хлеба булку раскроіла, морквы накрышыла. «Хай сабе, я жаробцы чужая, дык жа, жарт, ніхто са сваякоў, з калхознага начальства не прыйдзе, не папытаецца, не выпіша мукі!» — сварылася яна, паварочваючы твар убок цэнтральнай сядзібы. Вёска, нарэшце, быццам субожылася, вяскоўцы, як дзеці, забываліся на сваю віну, няпамятліва шукалі адзін перад адным прычыну, быццам толькі зараз, гледзячы, як выжыльваецца гараджанка, усвядомілі тое, што здарылася. Лёгка вінавацілі адзін аднаго. І салома была звезена, і бульба выкапана, і сена ўжо хопіць, можна пачынаць зімаваць. Другая пара на дварэ, другі клопат. Дажджамі змыла той летні саланаваты пот, аж памяць адбірала, калі выпадала каня ўхапіць... Адзін п’яны Бабёр цвяроза прыпамінаў кожнаму, каго сустракаў на вуліцы, пільнуючы свайго маладога жарабца: «Людзі! Ого, людзі! Абы, дай каня на дзень, то ўжо і канец! Даў Алёшку лес на лазню вывезці, дык праз дзень капыты паляцелі. Ён жа ішоў — я любаваўся! А цяпер, як дзевачка, толькі тэп-тэп-тэп. Я ж за ім гляджу: важу буракі — і яму даю бурак, бульбу — яму бульбу, зерне — дык зерне. А ў людзей дзень галодны... Жарабец ай які харошы: ехаў нядаўна, зваліўся ў лесе, ён мяне не кінуў, стаяў, пакуль я не працверазіўся...»

Мала прыслухоўваліся да яго, маўляў, ён, Бабёр, болей за ўсіх вінаваты, быццам ён першым парушыў запавет сялянскі, калі пільнаваў жарэбную кабылу, каб забіць ейнае дзіця, ён, маўляў, увёў у грэх. Скачаны, збіты на горкі яблык Бабёр не бараніўся, больш выдаючы на пакутніка, чым на злодзея. Піў, гуляў і не было весялосці ў ягоных гулях. Ніколі не зманіў, ні з чым не схаваўся, пэўна, ведаў, што ходзіць увесь час на боскіх вачах...

Раніцай, ледзь развіднелася, прыбегла Настася, каб наказаць: Ляльку выпраўляюць на канюшню, а потым, вядомая справа ў такіх выпадках, і не вымавіць, куды павязуць... Трымцела ў голасе. Выхадзіць жаробку то выхадзілі, жывой галавы, як той казаў, не згубілі, але ж гэта не чалавек. Жыць будзе, толькі які з яе рабочы конь. На нагу Лялька так і не стала, адным словам, пакаёўка, даўно не давала надзеі на лепшае... Ганна як не сваімі рукамі схапіла пакет, сабрала увесь хлеб, які быў на той час. І Настася потым дабавіць акраец, і стары Ляксей вынясе з хаты кавалак, укіне. Хто яе астатнія дні там на канюшні будзе песціць... А яна во са сваім хлебам, як з роднага дому. Са сваёй торбай у цяжкую дарогу. У дарогу на бойню, па якой каровы дык тыя ўпіраюцца, равуць, свінні пішчом пішчаць, адзін аднаго з ног валяць, кідаюцца ўбакі. Коні ж ідуць памаленьку, моўчкі...

«Не кажыце пры мне пра коней...» — папросіць Ганна сяброў аднойчы ў бяседзе так, бы размова ішла пра кагосьці ёй вельмі блізкага, па кім яна носіць жалобу.

Музыка

# «ПАЎНОЧНЫЯ КВЕТКІ» ДЛЯ АЛЯКСЕЯ ШУТА

## ПЕРАД КАНЦЭРТАМ

Ітрэба ж было надарыцца такой сустрэчы! У Смаленску /!/ на канцэрце ў зале Дваранскага сходу я пачуў **іх** — Мінскі абласны камерны хор з Маладзечна. Наша прэса — прынамсі, «ЛіМ» — ужо знаёміла з гэтым калектывам, ды й калегі-кампазітары разважалі наконт нечаканага прачытання новым хорам добра вядомых твораў. Так што масток быў пракладзены, заставалася галоўнае — самому пайсці насустрач і пераканацца ў пачутым. І гэта адбылося.

Як і кожны калектыў, абласны камерны хор — увасабленне свайго кіраўніка. Знаёмы я з ім даўно, а вось які гэта музыкант і на што здольны, адчуў на тым калядным студзеньскім канцэрце. Тут і адбылося маё сапраўднае знаёмства з мастацкім кіраўніком і дырыжорам хору Аляксеем Аляксандравічам Шутам — яркім і незвычайным музыкантам, улюбёным у сваю справу.

Да камерных хораў я заўсёды ставіўся з недаверам. Спяваюць **ахайненька, чысценька** — і толькі. Мне не ставала прыгажосці тэмбраў, фарбы здаваліся нежывымі, гук — слабым. З такім настроем я сядаў ва ўтульнае крэсла цудоўнай залы мінулага стагоддзя. Вакол мяне былі знаёмыя твары: колішнія мае настаўнікі са Смаленскага музычнага вучылішча, сябры, калегі, дасведчаныя ў харавой музыцы. Апошнія хвіліны чакання...

## НА КАНЦЭРЦЕ

І вось зазвінелі галасы ў «Торжествуйте днесь» А. Туранкова. Я свядома ўжываю слова «зазвінелі», таму што склад хору /як потым высветліў/ так і падабраны, каб «звінець» — а гэта з'ява даволі рэдкая ў нашы дні. Музыка гучала, авалодваючы маёй душой і свядомасцю. Адчуў, што калектыў пачынае мне падабацца. Даспадобы і дырыжор — Аляксей Шут.

Што ж уражвае? Склад хору. Ах, якія прыгажуны тэнары... «Звіняць» чысценька, з душою анёла. Такія я чуў толькі ў хоры В. Роўды — носьбіту найвысокай пеўчай культуры. А цяпер і ў хоры А. Шута ёсць. Тэнары ў хоры — мая слабасць. Ёсць тэнары — ёсць і хор, няма тэнараў або падабраны нядбала — не прагучыць у такім хоры музыка. Ад іх залежаць і гучнасць, і яркасць, і тэмбральнасць, а значыць і якасць, і каларыт, і характар гучання.

Цікавасць да канцэрта ўзрастала. «Ойча наш» П. Чайкоўскага змусіў у думках пажагнацца. І што дзіўна: камерны хор спяваў **не камерна**. У спяванні былі і магутнасць, і бляск, і яркая эмацыянальнасць. Выкананне вылучалася асэнсаванасцю кожнага слова, фразы, тонкай, і нават вельмі тонкай нюансіроўкай у радку «пра каварнага», прымушаючы пагадзіцца з тым, што там, дзе прыклаў руку геній, дасканалае ўсё — ад музыкі да аранжыроўкі.



Цяпер усе спяваюць духоўныя вершы, як некалі спявалі пра партыю, Леніна. Гэта былі харавыя песні і гімны, выкананне якіх не вымагае нейкай асаблівай «працы душы». Іншае — Духоўны верш! Ён можа быць праспяваны толькі тады, калі ўнутраны стан выканаўцаў адпавядае Высокаму Духу і прагнуць імкненнем да яго, і толькі тады, калі дазваляе ўзровень пеўчай культуры калектыву. Такія вартасці я і знайшоў у Мінскім абласным камерным хоры, які выканаў ледзь не забытыя творы са зборау праваслаўнай музыкі: Часнакова, Дзегцярова, Стацэнкі, Бартнянскага.

Я слухаў і радаваўся, нібыта свайму адкрыццю! Як цудоўна спалучаны сапрана з альтамі. У Аляксея Шута няма раз'яднанасці, як гэта часта бывае: альты самі па сабе, сапрана — таксама. У гэтым калектыве ўсё суладна і ўсё добра праслухоўваецца. Альты спяваюць і «соль», і «фа» малой актавы, так што іх ніяк не назавеш «сапсаванымі» другімі сапрана, як гэта прынята ва ўедлівых музыкантаў. І яшчэ вельмі каштоўнае адчуванне так званай ступеньчатасці, характэрнае для хору: нізкае сапрана — высокае сапрана, нізкія басы — высокія басы /тэнары/. Ступеньчатасць здымае «важкасць» гучання, забяспечваючы рухомасць і лёгкасць гукавядзення і падкрэсліваючы значнасць харавой масы.

Руская праваслаўная музыка цудоўная не толькі чыста харавой прыгажосцю, але і разнастайнасцю фактуры, аранжыроўкай і г. д. Аднак А. Шуту ўдалося прыўзняць заслону яшчэ перад адной таямніцай гэтага мастацтва — логікай мыслення, якая прынесла ў выкананне асаблівую ўзвышанасць і адухоўленасць. Гэта вызначыла ўсю духоўную атмасферу канцэрта і, на маю думку, у зале не было абыякавых.

Колькі слоў пра сучасную беларускую харавую музыку, што прагучала ў зале Дваранскага сходу. Калі меркаваць па апладысментах, яна спадабалася смалянам /дый потым, на канцэрце ў г. Вязьма, з залы былі воклічы «Брава, беларусы!»/. І падумалася: а якія ж яшчэ нашы прафесійныя калектывы, акрамя Акадэмічнага народнага аркестра імя І. Жыновіча, так шырока прапагандуюць **сучасную** беларускую музыку? Кудысьці «выпарылася» з музычнага жыцця рэспублікі капэла імя Р. Шырмы; хор Дзяржтэлерадыё мы, відома, чуем у асноўным праз эфір... Беларуская музыка была выканана

## АГЛЕДЗЕЦЦА Й ПАРАЗУМЕЦЦА



**Сабрацца разам, паразумецца творча, а мо і зрабіць агледзіны сталаму пакаленню сцэнічных майстроў Беларусі, — ці ж можна хоць спадзявацца? «Маладзечанская сакавіца-94» — фестываль спектакляў, дзе заняты самыя прызнаныя, самыя ўлюбёныя і папулярныя артысты беларускіх тэатраў, збольшага гэтую задачу — сабрацца, паразумецца, агледзецца, — і выканае... з 18 па 20 сакавіка на сцэне Маладзечанскага драматычнага тэатра. Ініцыятары ды спонсары фестывалю — Беларускі нацыянальны цэнтр Міжнароднага інстытута тэатра, Саюз тэатральных дзеячаў Беларусі, Міністэрства культуры Беларусі ды абласное ўпраўленне культуры, а найперш — мэр Маладзечна Генадзь Карпенка, які, дакляраваўшы дапамагчы мастацтву, так бы мовіць, у гарадскіх межах, замахнуўся на сапраўдны рэспубліканскі фестываль.**



**Дастаткова паведаміць, якія тэатры і спектаклі возьмуць удзел у «Сакавіцы», каб пераканацца ў аб'ёмнасці ды сур'ёзнасці мастацкіх запатрабаванняў імпрэзы: Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа прадставіць гледачам «Вечар» А. Дударава, Нацыянальны акадэмічны імя Янкі Купалы — «Гульню ў джын» Д. Коўберна, «Гаральда і Мод» К. Хігінса і Ж.-К. Кар'ера, «Дзе пісталет, мама?» М. Норман, Рускі тэатр Беларусі прывязе спектакль «На Залатым возеры» Э. Томпсана, Маладзечанскі тэатр пакажа «Камедыю...» У. Рудава паводле К. Марашэўскага і Ф. Аляхновіча.**

*На здымках: Зінаіда Браварская і Віктар Лебедзеў у спектаклі «Гульня ў джын» Д. Коўберна; Аляксандра Клімава і Расціслаў Янкоўскі ў спектаклі «На Залатым возеры» Э. Томпсана.*

## ДЛЯ СЯБРОЎ, ДЛЯ БАЦЬКОЎ, ДЛЯ СЯБЕ...

**Навучэнцы Барысаўскай музычнай школы захоплена гралі на фартэпіяна ў чатыры рукі. Гэта быў вечар ансамбля. Гучала класіка, джазавыя кампазіцыі. Канцэрты такога кшталту даюць магчымасць вучням паказаць свае дасягненні й далучыць да музыкі сяброў, бацькоў, што вельмі актуальна ў наш час, калі між людзьмі расце адасабленне. Супольнае музіцыраванне абуджае ў юных артыстаў патрэбу дзяліцца сваім разуменнем мастацтва са слухачамі, стымулюе іх творчы рост. Адметна, што ўдзельнікі хору «Чароўнасць» /кіраўнік Л. Мальцэвіч/ былі адзначаны дыпломам І Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі «Магутны Божа», што праходзіў летась у Магілёве. Ім ёсць што ўдасканальваць у выканаўчым плане, але тая захопленасць, з якой яны спяваюць, не пакідае нікога абыякавым. Камерны аркестр школы, ансамблі — скрыпачоў ды фалькларны — ужо ўздельнічалі ў дабрачынным канцэрце, выступалі ў гарадской бібліятэцы, дзіцячых садах. Падлеткі, якія граюць і пяюць, маюць светлыя, добрыя пачуцці да свету, да людзей.**

М. ПІШЧАНКА,
выкладчыца Барысаўскай ДМШ

# СЛЕД У СЛЕД

## СТУДЫЙНЫ ДОСВЕД ПРАЧЫТАННЯ «НЯСКОНЧАНАЙ ДРАМЫ» Ф. АЛЯХНОВІЧА

Драма Францішка Аляхновіча зазнала сцэну тэатра-студыі «Абзац» след у след за Купалавым творам. Спектакль, пастаўлены паводле «Раскіданага гнязда», уразіў празрыстасцю пераасэнсавання ў «Сумную аповесць» і скаланаў жорсткаю рацыяй рэжысёрскага фіналу: два дужыя дзецюкі, усё адно як падмінаючы пад сябе і герояў, і абставіны трагедыі іх чалавечай немаентнасці, літаральна навялі, навязалі свой фінальны парадак, а потым сілком адарвалі ад падлогі роспачную Зоську і... разам рушылі да публікі — на паклон.

Выпрабаваным чынам рэжысёр Уладзімір Савіцкі ўнікае напэўнасці «магчымых прачытанняў» і Аляхновічавай «Нясконачанай драмы, або Трох дзён з яго жыцця»: яго — героя Васіля, які піша драму і перажывае драму. Націскі, акцэнкі, усемагутныя кропкі над «і» ў абедзвюх драмах расстаўляе не папяровае жыццё, выяўляючы складаную залежнасць добрых намераў ды пякельных пуцявінаў.

... Трое з «Сумнай аповесці» былі ўжо рушылі ў самую публіку — на паклон, ды сімвалічна прыпыніліся, прытармазілі ля брамы падмосткаў. Персанажы «Трох дзён...» след у след падымаюцца на іх, пасядзеўшы сярод публікі і літаральна вызваляючы месцы тым, хто спазніўся, або пасаромеўся адразу папрасіць сваё купленае крэсла... Такое няўгучнае, адпрацаванае рэжысёрскае баруканне з банальнасцю /уводу гледача ў дзеянне/ мусіць залу і насцярожыць, і настрыць відавочным прачытаннем думкі: «У мастацтве большасць людзей вабіць магчымасць атаясамлення». А я сядзела да іранізавала, пасмейваючыся і з сябе, і з Аляхновіча, упарцілася рэжысёравай празрыстай доказнасці, маўляў, за такія прасталінейна-літаратурныя істоты я б на сцэне ніколі не заступілася, а ўжо мераць іх па сабе... Я прагледзела іхнія аб'ёмы ўвё ёмістасці: пасля рэжысёра Уладзіміра Савіцкага іх, узбуйненых сцэнаю, ужо не праміну. І тое, што спектакль адбыўся адзін-адзіны раз, і невядома ці прычакаем мы разу наступнага, спрыяе тэатральнай легендарнасці, накшталт таго, як жыццёвая драма ў спектаклі сілкуе драму ўяўную, пісаную.

Акалічнасці пэўнае часіны /дваццатыя гады нашага стагоддзя/ ды месца дзеяння /Вільня/ не гвалтоўна ўплываюць на герояў. Яны могуць вырашаць, учыняць, дзейнічаць, **выбіраючы** /падобна, рэжысёр і сам дае герою веры/. Выбар, які ўтрымлівае тэкст п'есы, здаецца перабольшана літаратурным, — выбар, патлумачаны тэатрам, гукае класічны матыў паяднанасці дабра і зла і — раздзяляе іх. Раздзяляе пераканаўча. Здаецца, увесь сэнс баўлення сцэнічнага часу Васілём, героем Барыса Галубкова, — у пісанні драмы і перажыванні драмы. У ягоным распараджэнні — макет будучай пастаноўкі, ён прагаворвае рэплікі сваіх персанажаў, час-почас перасоўвае іх уяўныя фігуркі-шахматы. І вось у нейкі здрадлівы момант у лік герояў пісаных незаўважна для пісьменніка трапляюць і героі ягонага ўласнага жыцця, героі нявыдуманыя /увявіце сабе шырму-выгарадку па дыяганалі сцэны, з-за якой тыя з'яўляюцца ўслед... за сваімі ценямі /вобразамі?/, спрацыраванымі на тканіну шырмы з дапамогаю ліхтара/. З рэальнага Васілёвага жыццёвага вымярэння — у ягонае пісьменніцкае ўяўленне... Зрэшты, як сапраўдныя героі годнага аўтара, насельнікі сцэны /блытаючы яго, цяснучы на гонар, на сумленне і да т.п./ не падпарадкоўваюцца ягонай аўтарскай волі, выломваюцца са сваіх ролевых абмежаванняў! А на мяжы, мовім так, творчага недагляду Васіля паўстане чалавек ад тэатра /Алег Грысевіч/ з флейтаю ў руках, зноў і зноў нагадваючы класіка: на чалавеку грацы таксама небяспечна, як і на капрызлівай флейце...

Жонка Ядзя /Анастасія Гавядзінава/, якая прадстаўлена на самым магутным пераломе свайго жыцця: не выгадамі, не выбрыкамі, не светлым будучым вымярае яна кожны свой і не свой учынак, а нованароджаным дзіцем. Сябра і кватарант Васіля Костусь /Андрэй Дудараў/ , удаліца, весялун, даставала, як высветліца, закаханы ў Ядзю, на працягу сцэнічнай гадзіны дасць рады сямейным скрутам. Сяброўка Ядзі Паўліна /Наталля Клімчык/ з'явіцца для невялікага дабрадзейства /аддасць сяброўцы старое паліто, бо ў той ніякага няма/ і вялікага сумніву /якія творчыя ды грамадскія ідэі могуць пераважыць сямейны дабрабыт і забяспечваюць будучыню дзіцяці?/. Палітык Багдзевіч /Уладзімір Міщанчук/ эпізадычна мільгане са слушнымі высновамі /кшталту несвоечасовасці з'яўлення дзіцяці/ і важнымі весткамі /абвешчана беларуская рэспубліка/. Усе разам нібы без дай прычыны ўзварэдзіцца на

маладзечанцамі з не меншай адказнасцю і аддачай, чым класіка карыфеяў харавой музыкі.

У мяне ж узніклі сякія-такія меркаванні. Твор А. Дзмітрыева «Dies irae» /у яго аснове знаёмы матыў, які паступова «разбіраецца» варыянтнымі пераўтварэннямі/ мае свае вартасці і недахопы. Да вартасцяў аднясу спробу кампазітара спалучыць дзве галіны адной рэлігіі: каталіцкую і праваслаўную. Тады, аднак, узнікаюць дысанантныя ідэі, што рвуць гэтае спалучэнне і выяўляюць несумяшчальнасць паняццяў. На жаль, гэта толькі слоўнае вытлумачэнне, якое не атрымала адэкватнага мастацкага вырашэння ў самім опусе: спакваля хор цьмянее з-за аднатоннасці, партытура робіцца фартэпіяннай па тэмбрах... Я не супраць любога эксперыменту, вітаю абнаўленне музычнай мовы. Але кожнае пачынанне вымагае дасканаласці будовы кампазіцыі. Я за праўдзівае ў мастацтве — тое, без чаго ніяк не абысціся. Ці ж не таму і гледачы падоўгу прастойваюць ля «Аўтапартрэта» Рэмбранта, атрымліваючы ісціну непераходную больш, чым ад кубізму або імпрэсіянізму ў жывапісе...

Канцэрт закончыўся бліскуча: Бартнянскі, «Многая лета».

## ПАСЛЯ КАНЦЭРТА

А цяпер надышоў час аддаць належнае мастацкаму кіраўніку новага хору, чыя дзейнасць стымулюе творчае натхненне. Агаваруся: я асоба незацікаўленая, бо мае хоры не выконваліся.

Сціплы і ў нечым нават аскетычны, на сцэне А. Шут — чыстая і яркая Эмоцыя. Фанатычна аддадзены харавому мастацтву, шмат чаго дасягнуў і як прафесійны дырыжор, і як арганізатар. І дзе б ён ні працаваў — яму спадарожнічалі слава і поспех... Навапалацк, Барысаў, цяпер Маладзечна. У яго выканаўчай манеры ёсць адметнасць. І гэта адразу відаць. На XI з'ездзе кампазітараў Беларусі ён бліскуча, у іншай, чым вядомыя майстры /Акадэмічны хор Дзяржтэлерадыё/, манеры выканаў цыкл хораў М. Літвіна, раскрыўшы новыя грані твора. Як музыкант, які валодае сакрэтамі харавога выканальніцтва, ён не ўмее дрэнна трактаваць, як і не ўмее трымацца чужой схемы. Ён не гаворыць пра «харавое майстэрства», а стварае яго, і стварае па-сапраўднаму. Нарэшце, ён клапатлівы «бацька» сваіх «дзяцей» — артыстаў хору. Глядзіш — і напраўду дзеці. Такое адчуванне, што «бацьку» свайго яны любяць: «выкладваюцца» і на рэпетыцыях, і на канцэртах...

А ўрэшце, я зрабіўся асобай не зусім незацікаўленай: Мінскі абласны камерны хор настолькі мяне «заразіў» сваімі спевамі, што натхніў на стварэнне сімфоніі «Паўночныя кветкі» — для хору Аляксея Шута і сімфанічнага аркестра.

**Андрэй МДЗІВАНІ**

*Фота А. ВАЙНШТЭЙНА*

Тэлебачанне

# «КРАЙ» МУСІЦЬ ПАШЫРЫЦЬ МЕЖЫ

У вядомых нам п'есах вобраз Барбары Радзівіл толькі-толькі накрэслены, пазначаны, абмаляваны; у ідэале, вядома, такой ролі зацікаўленай актрысе можна чакаць усё жыццё і — прачакацца? У ідэале, вядома, зацікаўленаму рэжысёру можна катурхаць і няволіць драматурга, але... Але 20 лютага ў вядомай перадачы /грамадска-публіцыстычнай, падкрэслю/ «Край», якая называлася «Каханне і карона», Барбару Радзівіл выпала прадставіць тэлевізійным гледачам актрысе Рускага тэатра Беларусі Ганне Маланкінай: драматургічны ход, які прапанаваў аўтар сцэнарыя і мастацкі кіраўнік праграм Ігар Александровіч, вымагаў ад актрысы прафесійнай абазнанасці ды, мовім так, веры ў вялікія неверагоднасці свету; самае Барбарына жыццё, здаецца, перанасычана імі. Малады мастак /Андрэй Душачкін/ спаткаў у нясвіжскім санаторыі /які месціцца ў гістарычных замкавых мурах/ маладую медычную сястру і, захоплены тутэйшымі паданнямі ды расповядамі, атаясаміў яе, Барбару сучасную, з Барбараю тою, — дзеля якой меліся ахвяраваць каронаю... Заўважу, што тэлеідэі Ігара Александровіча заўжды вылучаюцца нестандартнасцю, адметнасцю — прыцягнуты матэрыял, а ягонае акцёрскае ўвасабленне — дыхтоўнасцю. Адмысловы расповяд пра нясвіжскае паданне /пра Чорную даму/, закадравы тэкст пра віленскае жыццё ды кракаўскае небыткаванне Барбары, а таксама адметна тэатралізаваная інтрыга злучыліся на экране ў падабенства відэафільма /беднаватасць візуальнага шэрагу не дазволіць назваць яго так пэўна/. Абсалютна сучасны тэмпа-рытм задаў падзеям сваім закадравым каментарыем Андрэй Душачкін, каторым разам ужо выявіўшыся сталым вядучым «Краю». Між іншым, на працягу леташняга года героямі «Краю» зрабіліся Леў Сапега, Казімір Семяновіч, Саламея Пільштынова, Іосіф Гашкевіч, — а гэты «падзейны шэраг» яўна вымагае працягу, і значна большага, як, скажам, відэафільм па гісторыі Беларусі. Напрацаванае даўно ўжо перасягнула рамкі перадачы, так бы мовіць, краёвыя межы, сціслыя да памераў так званай агульнай папулярызацыі, абмежаваныя ды асталяваныя не столькі эфірным часам, колькі зададзенасцю і аднастайнасцю патрабаванняў да падобнага роду перадач. «Край», дарэчы, даўно прэтэндуе зрабіцца каналам. Адзіная загана, бадай, выпраўляецца цяжка: рэжысура, пры ўсіх сваіх стараннях, пакуль што не самым лепшым чынам адпавядае ўзроўню, заяўленаму сцэнарыстамі-драматургамі ды акцёрамі.

**Ж. Л.**



*Ганна Маланкіна і Андрэй Душачкін у перадачы «Каханне і карона».*

*Фота Галіны МАСКАЛЁВАЙ.*

# ЦЕПЛЫНЯ Ў ЛЮТАЎСКІ ВЕЧАР

Моцныя лютаўскія маразы не перашкодзілі аматарам вакалу сабрацца ў зале на Залатой Горцы, дзе ладзіўся канцэрт салісткі ДАВТа Інэсы Адзінцовай. Яе партнёрам быў піяніст Мікалай Сярдобаў. У той самы вечар у Вялікай зале філармоніі праходзіў вечар, прысвечаны сотым угодкам з дня нараджэння Яўгена Цікоцкага. Гэтую падзею адзначыла і І. Адзінцова: сваю праграму яна распачала арыяй Марысі з оперы Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны», а таксама выканала два рамансы кампазітара. Спявачка ўключыла ў канцэрт і творы А. Багатырова: рамансы ды арыю Аўгінні з оперы «У пушчах Палесся». Сапраўднай кульмінацыяй 1-га аддзялення вакальнага вечара сталася выкананне І. Адзінцовай вакальнага трыпціха Д. Смольскага на вершы А. Пашкевіч /скрыпічную партыю выканаў Леў Гарэлік/.

У 2-м аддзяленні гучалі арыі з опер і рамансы М. Рымскага-Корсакава і П. Чайкоўскага. Побач з вядомымі творамі спявачка прадставіла й такія, што выконваюцца рэдка. Саліст ДАВТа Міхаіл Жылюк, які ўдзельнічаў у канцэрце, апроч беларускага рэпертуару, уключыў у праграму раманс «Актава» і арыёза Мізгіра з оперы «Снягурачка» М. Рымскага-Корсакава. Дакладна прадуманая, драматургічна скампанаваная праграма вечара бліскуча завяршылася заключнай сцэнай Таццяны і Анегіна — неўміручай музыкай Чайкоўскага ў бліскучым, эмацыянальным выкананні І. Адзінцовай ды М. Жылюка.




**І. Г.**

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

# «МЫ ПАЙШЛІ ЎГЛЫБ?»

Па ініцыятыве Цэнтра тэатральнай крытыкі пры СТД «Авансцэна» адбылося 14 лютага пашыранае пасяджэнне Тэатральнай рады Міністэрства культуры Беларусі ў Доме мастацтваў: Мелася на мэце абмеркаваць ды ацаніць спектаклі апошняга сезона, пастаўленыя ў тэатрах рэспублікі па так званым дзяржаўным заказе. Паводле А. Сабалеўскага, з часу Гомельскага фестывалю, дзе вяла рэй беларуская драматургія, падыход да яе якасна змяніўся: «Мы пайшлі ўглыб. Калі два гады таму пераважалі «Паўлінкі», «Збянтэжаныя Саўкі» ды «Мікітавы лапці», дык сёлета на іхнім фоне выгодна вылучаюцца па-рэжысёрску пераасэнсаваная «Ідылія» /«Сялянка»/ ды «Няскончаная драма, або Тры дні з яго жыцця». Дунін-Марцінкевіч, аўтар першай з п'ес — самая трагічная фігура нацыянальнай літаратуры мінулага стагоддзя; Францішак Аляхновіч, аўтар другой п'есы — самая трагічная постаць стагоддзя нашага. Аляхновічава спадчына вяртаецца пакрысе...» А. Сабалеўскі мяркуе, што час Аляхновіча ў беларускім тэатры толькі-толькі пачынаецца, і менавіта работа рэжысёра У. Савіцкага на сцэне тэатра-студыі «Абзац» над «Няскончанай драмай...» і сведчыць пра гэта /самому тэатру-студыі «Абзац» і памянёнаму спектаклю было прысвечана выступленне Ж. Лашкевіч/. Т. Гаробчанка збольшага пазнаёміла прысутных з пастаноўкамі маладзечанскага драматычнага тэатра і разам з А. Савіцкай /да іх далучыўся Р. Смольскі/ абмеркавала «Песню пра зубра» паводле М. Гусоўскага /п'еса А. Дударава/ у Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. В. Грыбайла разважаў на тэму тэорыі і практыкі вывучэння глядацкай аўдыторыі і ўспрымання ёю спектакляў. Т. Арлова разважала пра Рускі тэатр Беларусі, Я. Росцікаў — пра шмат што. Р. Смольскі выказаўся недвухсэнсоўна: добра, што ў дзяржавы знаходзяцца сродкі падтрымліваць і заахвочваць сцэнічнае ўвасабленне беларускіх п'ес, але даваць грошы пад усё запар — неабачліва. Амаль усе крытыкі паміналі апошнюю прэм'еру купалаўцаў «Ідылія» В. Дуніна-Марцінкевіча і давалі ёй высокія ацэнкі, вылучаючы сцэнічнае аўтарства Мікалая Пінігіна і дадаючы, што ніяк няможна лічыць класікаю драматургіі тое, што на самай справе такою не з'яўляецца. Аднак Р. Смольскі, падрахоўваючы выступоўцаў, сцвердзіў, што спектакля-падзеі, хоць сабе і фінансаванага дзяржаваю, не спраўдзілася. У якасці вызначэння /эталону?/ падзеі, поспеху, папулярнасці ён прапанаваў спектакль «Радавыя» А. Дударава /рэжысёр В. Раеўскі/.

Васіля і кожны на свой капыл зладзіць яму выпрабаванні /нават немаўля, ні разу не заплакаўшы, памрэ ў прытулку: бацька-творца не змог зарабіць яму на жыццё.../; Васілю ж патрэбна хіба душэўная раўнавага ды адносны спакой, каб рабіць самае каштоўнае з наканаванага: займацца творчасцю. Вызначальна для творцы падаецца ў спектаклі цытаванне вершаў Аляхновіча пра сэрца, якое пасля пахавання мусіць быць прабіта асінавым калом: так рабілі з ведзьмакамі, з чараўнікамі /а творчасць — не чарадзейства?/, каб не паўсталі з магілы ніколі, — ці не таму, што надта жорсткія рахункі выстаўляе часам творчая азоранасць, вымагаючы неабдымных маральных ахвяр? Каштоўнасць спектакля ў — дзёрзкім дакляраванні: мастак і воля вольная, насуперак узнёслым уяўленням, аб'ектыўна адмаўляюць адно аднаго, творца і ягоная залежнасць ад чаго б там ні было існуюць поруч, хаўрусуюцца, пачуваюцца паплечнікамі! Сам творца, паводле спектакля, не напрасткі, не заўсёды залежыць ад уціску звонку, хоць абставіны і назаляюць, а вось страта ўнутранай раўнавагі набліжае ягонае банкруцтва. Дакладная акалічнасць /Аляхновіч яе накрэсліў, Савіцкі замацаваў/: глыбінныя канфлікты персанажаў мацнейшыя за побытавыя непаразуменні, — таму спектакль, паступова падымаючыся над побытам, над прывязанасцю да пэўнага часу і месца дзеяння, набывае магнэсавую прыцягальнасць тэатральнай перамогі літаратурных банальнасцяў...

... З-за шырмы, адкуль узнікалі героі Васілёвых драм, з'явіцца ў фінале персанаж непрадугледжаны — сам рэжысёр спектакля. Усміхнецца, развядзе рукамі, моўчкі апраўдваючы адсутнасць фінальнае падзеі ды ўдарнае кропкі-ацэнкі негераічных учынкаў героя: след у след за сваімі стварэннямі...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

## У СЭРЦЫ — БЕЛАРУСЬ



**... На парозе дома — старая. І, адыходзячы, пяць яе сыноў: да сустрэчы, мама! Але сустрэчы ўжо не будзе. Усе пяцёра не вернуцца з вайны...**

**Гэта мемарыяльны ансамбль, прысвечаны А. Ф. Купрыянавай, якая страціла ў суровыя саракавыя ўсіх сваіх сыноў, устаноўлены ў Жодзіне. Сімвал, які захаваў сваю прывабнасць і значнасць. Адзін са стваральнікаў ансамбля — скульптар Андрэй Заспіцкі. Не так даўно яму споўнілася 70 гадоў.**

**Тэма вайны — асноўная ў яго творчасці. Створаныя ім вобразы герояў Вялікай Айчыннай Т. Бумажкова, Р. Шаршнёвай, М. Шмырова, скульптурныя кампазіцыі «Партызан-узрыўнік», «Паранены сцяганосец», «Партызанскія сцежкі» і іншыя сталі як прыступкамі ў станаўленні мастака, так і вехамі ў развіцці беларускага пасляваеннага мемарыяльнага мастацтва.**

**Напярэдадні 50-годдзя вызвалення рэспублікі ад фашысцкіх захопнікаў мастак абдумвае новыя праекты. Цяпер ён працуе над мемарыялам пад Стоўбцамі, дзе ў гады вайны былі расстраляны мясцовыя жыхары.**

*На здымку: скульптар Андрэй Заспіцкі ў майстэрні.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛІНФАРМ*

## АМАЛЬ АДНАЧАСОВА



**Гродзенскі абласны драматычны тэатр паражыў два прэм'ерныя паказы — спектакля «Нора» паводле знанага нарвежскага драматурга Генрыка Ібсена і камедыі Б. Рацэра і В. Канстанцінава «Ход канём».**

**«Нора» — першая і своеасаблівая спроба тэатра свежа прачытаць замежную драматургію па-беларуску. Ажыццявіў яе мінскі рэжысёр В. Баркоўскі. У спектаклі занятыя В. Смірноў, С. Курыленка, Т. Харламава, Ю. Іваноў, В. Курыленка. У ролі Норы — Л. Волкава. Пра пошукі вышэйшай гармоніі спрабуе гаварыць тэатр з гледачом...**



**Пацяшальны спектакль «Ход канём» пастаўлены ў жанры вадэвіля. Рэжысёр — з. а. Расіі Л. Рудой. У спектаклі заняты: А. Марцынюк, М. Емяльянаў, В. Смачнеў, А. Шаўкаплясаў, А. Красікава, С. Завадская, Т. Трашкеева.**

**Святлана КАРМАЗІНА**

*На здымках: Л. Волкава /Нора/ і С. Курыленка /Хельмер/ у спектаклі «Нора» Г. Ібсена; А. Марцынюк /Шурык/ і М. Емяльянаў /Валянцін Сяргеевіч/ у спектаклі «Ход канём» Б. Рацэра і В. Канстанцінава.*

*Фота А. КАСАРСКАГА*

Меркаванне

# КРЫК АДЧАЮ І БОЛЮ

***У набыўшым вялікі грамадскі рэзананс артыкуле З. Пазняка «О русском империализме и его опасности» /«Народная газета» ад 17.1.1994 г./, на мой погляд, прагучаў крык адчаю і болю за будучае Беларусі, яе культуру і мову ды і наогул самой нацыі. Вось чаму мяне глыбока абурыў зняважальны артыкул В. Акулава «Слушается дело: Зенон Позняк против России» /«Советская Белоруссия» ад 1.02.94 г./, дзе ён абвінавачвае лідэра БНФ у тым, што яго выступленне «это стиль оракула», што ён вельмі дрэнна ведае гісторыю, як сусветную, так і айчынную /відаць, прафесар Акулаў экзаменаваў Пазняка/, «громоздит один вздор на другой», «преподносит читателям дилетантски-претенциозный вздор с самым невозмутимым видом». Апроч таго, «не лучше у него обстоят дела со знанием политологии, права, экономики, категориями которых он так ухарски оперирует».***

***Але хопіць. Адным словам, В. Акулаў бачыць у знявазе свайго апанента, відаць, самы дзейсны спосаб даказаць сваю праваты.***

Паглядзім жа, хто не ведае гісторыі. Так, Акулаў і Пазняк стаяць на процілеглых пазіцыях. Першы з'яўляецца працiўнікам суверэнітэту Беларусі, другі — за правы беларусаў не толькі людзьмі звацца, але і быць імі, ён разумее, што калі Беларусь страціць зараз сваю дзяржаўную самастойнасць, дык яна ўжо ніколі не зможа ўзняцца. Дык, пэўна ж, лепш ведае гісторыю Бацькаўшчыны беларус З. Пазняк, а не рускі В. Акулаў. І ў сувязі з гэтым хочацца задаць пытанне: ці знойдзеце вы ў Маскве беларуса, які б, добра ўладкаваўшыся там /як Акулаў тут/, павучаў усю рускую нацыю, як ёй паводзіць сябе?

Вядома, слова «імперыя» кожны можа інтэрпрэтаваць як хоча. В. Акулаву, напрыклад, падабаецца пад гэтым словам разумець «... школу воспитания человеческих чувств, так слабо представленных человеческой истории... отсутствие границ, таможен, перегородок, провинциализма, феодальных войн и феодальной психологии». У якасці доказу ён спасылаецца на «чистокровного белоруса... мыслителя европейского уровня Ивана Солоневича», які быццам бы выступаў супраць самастойнасці Беларусі. Але трэба паглядзець, хто яшчэ быў той Саланевіч? Вось што піша пра яго Аляксандр Цвікевіч /1888—1937/, расстраляны бальшавікамі, сапраўдны ахвярнік за будучыню Беларусі: «Тэарэтыкі і практыкі «западно-руссизма» пачатку XX стагоддзя Саланевіч, Караневіч, Кавалюк сталі змагацца з беларускім адраджэннем... не грэбуючы элементарным палітычным даносам на «Нашу Ніву», беларускіх адраджэнскіх дзеячаў». Гэта наконт Саланевіча. Што тычыцца тлумачэння В. Акулавым слова «імперыя», дык яно паходзіць з лацінскага «imperium», што азначае «ўлада». Ва ўсім свеце пад такім паняццем разумеюць дзяржаву, якая пашыралася за кошт захопу чужых тэрыторый, прыгнятала іншыя народы. І зусім неабавязкова, каб імперыя была манархіяй. Яна магла мець прыкметы нават рэспублікі /Рымская, пэўны час — Французская і інш./.

З. Пазняк, піша далей Акулаў, «несет чушь... не зная истории, не понимая одной чрезвычайно важной особенности русского национального сознания... а именно: русский человек никогда не ощущал себя завоевателем на землях, которые он присоединил к империи».

Каб даказаць негрунтоўнасць такіх сцвярджэнняў, прывядзём некалькі вытрымак з «Кароткай гісторыі Беларусі», якая выдадзена ў Вільні яшчэ ў 1910 годзе В. Ластоўскім — тым самым, які потым у званні акадэміка быў расстраляны бальшавікамі.

«Калі за Іоанна III Масква пачувалася на сілах, яна заявіла свае правы на беларускія землі, быццам яны з даўніх часоў належалі да Масквы, былі вотчынай маскоўскіх цароў. Вайна гэта была цяжкая і доўгая: яна большую часць Беларусі абярнула... ў пустыню. Мірныя сяляне, грабленыя і паленыя, пакідалі свае загоны і кут родны і беглі ў паўдзённыя стэпы. Палі зарасталі лесам, культура падала... Беларусь у часы маскоўскіх войн дайшла да такой самай руіны, як усходняя і паўдзённая Русь у часе татарскага панавання». Штосьці нічога блізкага тут не відаць ад «школы чувств» В. Акулава.

Можа, гэта выпадковыя радкі? Каб упэўніцца ў адваротным, працытуем наступнае: «Адзін з аддзелаў маскоўскага войска, увайшоўшы ў Беларускія землі, узяў Рагачоў. Горад разграбілі, спалілі, а жыцялёў узялі ў няволю і адаслалі ў Маскву». Можа, гэта «русский человек никогда не ощущал себя завоевателем?» Можа, аб гэтым «многократно просили» беларускія сяляне? Мо па іх «многократной» просьбе Масковія распачала з 1500 года бязлітасную вайну супроць Беларусі і вяла яе да поўнага знішчэння?

Усе гэтыя фактычныя падзеі раскрываюць сапраўдную «дабрыню» тагачаснай Расійскай імперыі ў адносінах да беларускага народа. Нехта скажа: гэта было «за царом». Паглядзім, што змянілася ў Расійскай імперыі пасля прыходу да ўлады бальшавікоў. Атрымаўшы ідэйны падмурак пралетарска-рэвалюцыйнага зместу, расійскі імперыялізм, умела выкарыстаны Леніным і Сталіным, пачаў пашырацца да памераў, аб якіх ні Іван Грозны, ні Пётр І не маглі і марыць. Краіны ўсяго свету жылі пад страхам быць апалоненымі бальшавізмам. І хіба ж можна той крывавы разбой разглядаць у якасці «одной чрезвычайно важной особенности русского национального сознания», як гэта робіцца таварышам В. Акулавым?

Можна сказаць, што ва ўсіх гэтых захопніцкіх дзеях народ ні пры чым. Але ж не турэцкія палкі ішлі заваёўваць Беларусь...

Далей. Наколькі адпавядаюць сапраўднасці сцвярджэнні В. Акулава, што «на базе Империи Российской никто из русских не заработал ничего. Ни копейки. Даже и русское дворянство, в значительной степени игравшее роль организаторов империи, не получило ничего: ни в Сибири, ни на Кавказе, ни в Финляндии, ни в Польше. Для русского мужика не было отнято ни одного клочка земли: ни от финнов, ни от поляков, ни от грузин». Упэўненасць у сваёй праваце ён падмацоўвае зноў спасылкамі на таго ж Саланевіча. Але ва ўсе часы імперыялістычныя дзяржавы вялі захопніцкія войны не дзеля ж забаўкі, а каб мець ад гэтага сабе карысць, дзеля ўласнага абагачэння, дзеля павелічэння сваёй магутнасці за кошт абрабавання іншых народаў. Усё гэта можна казаць і пра Расію. Так што, сцвярджаючы, што «никто из русских нигде не получил ничего... ни копейки... ни одного клочка земли», аўтар разлічвае на наіўнага, недасведчанага чытача. Бо не проста кавалачкі, а велізарнейшыя прасторы Сібіры, Поўначы і Поўдня, Захаду і Усходу, розных «вокнаў» у Еўропу, Азію і Амерыку, у сотні разоў большыя за плошчу самой Расіі, былі аб'яўлены яе ўласнасцю. І эксплуатаваліся, высмокталіся дарэшты.

Не стала выключэннем і Беларусь, захопленая рускімі. У той жа ўзгаданай раней «Кароткай гісторыі Беларусі» пішацца: «Дастаўшы пад сваю ўласць беларускія землі, Расіяй... выдаваліся цыркуляры аб патрэбе абрусення гэтага народа... Каб умацаваць расейцаў у Беларусі, правіцельства раздавала канфіскаваныя і каралеўскія маёнткі расейскім людзям, назначала расейскіх чыноўнікаў».

«Кацярына II ужо ў 70-я гг. пачала тут шырокую раздачу зямель з прыгоннымі сялянамі рускім памешчыкам, найперш з ліку сваіх фаварытаў, военачальнікаў і буйных чыноўнікаў. Граф Завадоўскі атрымаў велізарную Магілёўскую эканомію /25860 сялян/, Пацёмкін — Крычаўскае староства /14250 сялян/, Зорыч — мястэчка Шклоў з ваколіцамі /11800 сялян/, Румянцаў-Задунайскі — Гомельскае староства /больш за 11100 сялян/, Чарнышоў — Чачэрскае староства /5100 сялян/ і г. д. Толькі за тры гады /1777—1780/ у Полацкай і Магілёўскай губернях з'явілася каля 200 рускіх памешчыкаў. У рукі новых уладальнікаў толькі ва Усходняй Беларусі за кароткі час перайшло 142 тысячы сялян мужчынскага полу з агульнай колькасцю ў 740 тысяч».

Усё гэта праводзілася ў краіне, дзе людзі жылі па законах Статута Вялікага княства Літоўскага.

Можна, вядома, сцвярджаць, што ўсё гэта было пры царызме, які быў звергнуты ў 1917 годзе, і што бальшавіцкая імперыя не мае нічога агульнага з тым мінулым. Але як тады зразумець высяленне цэлых народаў з іх уласнай зямлі і перадачы яе рускаму насельніцтву, захоп Курыльскіх астравоў, якія ніколі Расіі не належалі, засяленне іх зноў жа рускімі і г. д.?

Калі глыбока прааналізаваць гэтыя пытанні, то можна зразумець, чаму ўзнікла хваля рускіх бежанцаў з былых рэспублік СССР на карэнную радзіму, чаму адносіны да рускіх там сталі не заўжды добрымі. Магчыма, уся гэтая недабрыня накапілася за многія-многія ранейшыя гады панавання Расіі і СССР і абрынулася зараз на галовы ні ў чым не вінаватых людзей.

І ў той жа час нельга не заўважаць і таго, што пэўная частка некарэннай нацыянальнасці — рускіх на той жа Беларусі робіць спробу навязаць ёй сваю волю, сваё, скажам прама, негатыўнае стаўленне да яе суверэнітэту.

Для разгляду іншых пытанняў сучаснасці, узнятых Пазняком у ягоным артыкуле і ў многім заблытаных В. Акулавым, патрэбна асобная размова. Адзначым толькі, што З. Пазняк нідзе не заве да вайны, за вяртанне Беларусі яе зямель, адабраных Масквой. ён толькі называе праблему, якая існуе гістарычна. Бо сапраўды, граніца беларускага этнасу падыходзіць аж да Вялікіх Лук, Вязьмы, Чарнігава, агінае на захадзе Вільню і інш. У гэтым няцяжка пераканацца, калі паглядзець зусім нядаўна забароненую карту «Беларускага племя». Выдадзена яна яшчэ ў царскай Расіі — першы раз у 1903 годзе, другі, пасля ўдакладненняў — у 1917. Стваралася карта па даручэнні этнаграфічнай камісіі Расійскай АН на аснове ўстанаўлення межаў жыцця беларускага племя /еднасці з адпаведнымі родава-расавымі прыкметамі/.

Прыведзеныя факты ні ў якім разе не скіраваны супраць рускіх за тое, што яны рускія, а тым больш супраць рускага народа ў цэлым. Я заўжды ўспрымаў, успрымаю і буду ўспрымаць любога чалавека не па нацыянальнасці, а па яго агульначалавечым змесце. І, на шчасце, мне па большай частцы шанцавала на сустрэчы з рускімі, якія пакінулі добры след у маім жыцці. Але любы народ, у тым ліку, вядома, і беларускі, павінен ведаць сваю гісторыю, сваё мінулае. Каб ведаць, хто ён такі, і планаваць будучыню з улікам свайго менталітэту.

**А. САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар**

# ТАЛЕРАНТНАСЦЬ: ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

*(Пачатак на стар. 5)*

асаблівай, стабілізуючай і кансалідуючай ролі карэннага этнасу, таго аб'ектыўнага факту, што каля 80 працэнтаў насельніцтва складаюць менавіта беларусы, што зямля, на якой яны жывуць, з'яўляецца іх спрадвечнай гістарычнай радзімай, што менавіта беларусы з'явіліся духоўна-этнічным ядром беларускай нацыі, унеслі найбольшы ўклад у стварэнне беларускай дзяржавы, яе эканомікі, культуры, літаратуры і мастацтва, як і панеслі найбольшыя ахвяры ў барацьбе за яе існаванне і незалежнасць.

Вызначаючы такім чынам інтэграцыйную ролю карэннага этнасу і развітой нацыянальнай самасвядомасці, патрэбна ўлічваць, што з нацыянальнай самасвядомасцю звычайна памылкова атаясамліваюць самасвядомасць выключна карэннай, тутэйшай нацыянальнасці. На самай жа справе нацыянальная самасвядомасць — гэта не толькі самасвядомасць беларусаў, але складаны духоўны субстрат, вынік сумеснай жыццядзейнасці людзей усіх нацыянальнасцей і этнічных груп, што складаюць беларускую нацыю, у якім рэалізуецца сума ўсіх фактараў, што забяспечваюць адзінства, цэласнасць і ўнутраную стабільнасць дадзенай папуляцыі, сярод якіх важнейшым з'яўляецца фактар прыналежнасці, далучанасці індывідыума да беларускай культуры і засваенне ім такім чынам пэўнай ментальнасці і пэўнай філасофіі жыцця.

З гэтага вынікае, што, не дбаючы пра развіццё нацыянальнай самасвядомасці, сістэмы нацыянальнай адукацыі і культуры, сёння цяжка разлічваць на дасягненне мэт свабоднага дэмакратычнага развіцця, захаванне суверэнітэту і цэласнасці краіны, нарэшце, на прыстойны ўзровень жыцця, элементарны грамадзянскі мір і згоду ў дзяржаве. Бо народ, пазбаўлены развітой нацыянальнай самасвядомасці, непазбежна губляе разуменне сваіх жыццёвых інтарэсаў, сваіх эканамічных і палітычных мэт, траціць жыццёвую энергію і арыентацыю, становіцца зручным аб'ектам для палітычных маніпуляцый і дамаганняў з боку суседзяў, часта правакуючы іх сваёй падатлівасцю і слабасцю на прамую агрэсію.

Акрамя таго, фактар разарванасці, незавершанасці працэсу нацыянальнага самавызначэння, кансалідацыі нацыі /у той час, як працэсы гэтыя дасягнулі свайго апагея ў суседніх дзяржавах/ стварае глебу для палітычнага сепаратызму, міжнацыянальных і міжэтнічных канфліктаў, што можа прывесці ў перспектыве да нацыянальна-этнічнай дэцэнтралізацыі і разбурэння дзяржавы пад ўздзеяннем як унутраных, так і знешніх фактараў, з усімі здаўна вядомымі нашаму народу наступствамі.

Ад талерантнасці абяздоленага нявольніцтвам насельніцтва да талерантнасці свабоднай, дужай і годнай нацыі — такі шлях мусіць адолець дэмакратычная Беларусь!

Спадчына

# КАРСКІ — ДЗЯДЗЬКА КАРСКАГА

НАРЫС

Іван Ануфрыевіч Карскі — родны дзядзька Аўхіма Фёдаравіча Карскага. Будучы выдатны фальклярыст і этнограф нарадзіўся ў 1837 г. у вёсцы Лаша былой Лашанскай воласці ў сям'і дзячка мясцовай Свята-Мікалаеўскай царквы Ануфрыя Вікенцьевіча Карскага, выхадца з дробнапамесных дваран. Упершыню прозвішча Карскі з'явілася ў Лашанскім царкоўным прыходзе ў 1805 г. з прыбыццём у Лашу Вікенція Карскага, які стаў служыць дзячком у старой царкве са званіцай на чатырох драўляных слупах. Адкуль ён прыбыў, ніхто не ведае. Адным словам, ён у Лашы даў пачатак слаўнаму роду Карскіх.

У Вікенція Карскага было тры сыны: Ігнацій, 1800 г. н., Ануфрый, 1802 г. н. і Сцяпан, 1805 г. н. /У старэйшага сына Ігнація быў сын Сяргей Ігнацьевіч Карскі, які закончыў духоўную семінарыю, але па сваёй спецыяльнасці не працаваў, а стаў акцызным чыноўнікам у Шаўлях /Шаўляй/. Ён вядомы беларускі фалькларыст і этнограф. Даследаваў побыт беларусаў, пераважна Ашмянскага павета. У газеце «Виленский вестник» апублікаваў працы: «Эканамічны быт беларусаў Віленскай губерні», «Знешні быт беларусаў у Віленскай губерні», «Сямейны быт беларусаў Віленскай губерні», «Вялікдзень у беларусаў Віленскай губерні» і іншыя, у якіх падрабязна разглядаў вытворчую дзейнасць, рамёствы, жыллё, адзенне, святы, абрады і песні беларусаў/.

У серадольшага сына Ануфрыя Вікенцьевіча, як вышэй было сказана, быў сын Іван Ануфрыевіч Карскі і дачка Марыя Ануфрыеўна Карская, якая выйшла замуж за сельскага настаўніка Фёдара Навіцкага. У іх і нарадзіўся сын, будучы славуты вучоны Яўхім Фёдаравіч, які пазней прыняў прозвішча не па бацьку — Навіцкі, а па матцы — Карскі.

Вось адкуль пайшоў у Лашы род Карскіх, які даў Беларусі выдатных сыноў, вучоных, што праславілі вёску Лашу.

Апрача Яўхіма Фёдаравіча Карскага — заснавальніка беларускага мовазнаўства і беларускай філалогіі, Сяргея Ігнацьевіча Карскага — фалькларыста і этнографа, у Прынёманскім краі павінна б быць вядомым і імя царкоўнага дзячка Івана Ануфрыевіча Карскага, таксама фалькларыста, этнографа, карэспандэнта П. Ф. Шэйна. Сабраныя і запісаныя ім фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы, апроч навуковага, мелі вялікае значэнне для фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў і іх прызнання як нацыі з боку іншых народаў. На аснове сабранага матэрыялу І. Карскі паказаў, што беларускі народ мае сваю старажытную культуру, бытавыя традыцыі і невычэрпную крыніцу вусна-паэтычнай народнай творчасці.

Ранняе дзяцінства яго прайшло ў Лашы. У дзяцінстве, разам са сваімі бацькамі, яму давялося перажыць страшныя часы, калі ў 1848, 1855 і ў 1856 гг. у Лашанскім прыходзе лютавала эпідэмія халеры. Назіраў, як паміралі ад гэтай лютай хваробы людзі. Бачыў, як абворвалі вёску Лашу паркай, чорным і белым, валоў, каб утаймаваць хваробу. Як абходзілі з крыжовым ходам вакол вёскі, але нічога не памагала. Людзей у тыя часы памірала больш, чым нараджалася дзяцей. Некаторыя даказвалі, што страшную эпідэмію халеры на людзей насылаюць злыя людзі, ведзьмары, вядзьмаркі, ваўкалакі. Іван Ануфрыевіч Карскі ў сваіх фальклорных матэрыялах паказвае адзін выпадак, які ён назіраў у часы эпідэміі халеры ў вёсцы Сухая Даліна. Кравец, яўрэй з м. Індуры, быў западозраны ў распаўсюджванні халеры. Селянін гэтай вёскі Антось Сярко закрычаў, што бачыў, як жыд кінуў у студню чары, ваду атруціў.

На яго крык збегліся ўсе жыхары вёскі. Пачалі біць яўрэя, затым звязалі рукі і на вяроўцы павялі да рэчкі таліць, прыгаворваючы: «Во табе, гіцлю, недавярку, як труціць людзей. Гэта ж не жарты! У вёсцы ўжэ больш як трыццаць душ памярло! Забіць яго, гіцля!» І забілі б, каб не наехаў пан Баржэнскі, які ўгаварыў людзей, што яўрэй-кравец не павінен: ён, абараняючыся ад сабак, кінуў камень, які ўпаў каля студні...

Пачатковую адукацыю І. Карскі атрымаў дома. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе, затым паступіў у Жыровіцкае духоўнае вучылішча, якое закончыў у 1853 г. Быў пераведзены ў духоўную семінарыю, у якой яму доўга не давялося вучыцца. У 1855 г. з духоўнай семінарыі быў выключаны па прычыне слабага стану здароўя. Вымушаны быў уладкавацца на работу. Некаторы час працаваў настаўнікам у мястэчку Валожын, дзячком у розных цэрквах. Умела кіраваў царкоўнымі хорамі /бо яшчэ ў школьныя гады прывучаўся да царкоўнай службы/. Калі вучыўся ў семінарыі, у 1854 і 1855 гадах, прыязджаў у Лашу на канікулы, замяняў свайго хворага бацьку-дзячка, суправаджаў нябожчыкаў на могілкі. У 1857 годзе быў сведкам страшных здзекаў памешчыка над сваімі парабкамі ў маёнтку Аўгустоўка пад Гародняй, калі са святаром прыязджаў спавядаць сялян. З 1855 па 1861 год служыў дзячком у вёсцы Капцёўка, што за 10 вёрст ад Лашы, затым у мястэчку Шаўлі Ковенскай губерні. У 1880 г. — у мястэчку Расіены. З 1886-га па 1898 год — у мястэчку Цітаўляны Расіенскага павета Ковенскай губерні, у 1898 г. — у сяле Сабакінцы Шчучынскага павета. З 1899 г. служыў дзячком у царкве Вялікай Берастовіцы — прыблізна па 1908 год. Усяго праслужыў дзячком у розных цэрквах каля 47-мі год.

У кожным населеным пункце Іван Ануфрыевіч збіраў фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы, усё сваё жыццё, куды яго лёс не кідаў, імкнуўся да сваёй роднай Лашы, да мясцін, дзе прайшло яго дзяцінства, дзе жылі бацькі, родныя, блізкія, знаёмыя. Ён ахвотна ўнікаў у побыт беларускіх сялян і дасканала ведаў іх жыццё. Быў адным з найбольш плённых карэспандэнтаў вядомага фалькларыста і этнографа П. В. Шэйна, у якога найбольш шырока прадстаўлены беларускія матэрыялы ў кнізе «Матэрыялы для вывучэння побыту і мовы беларускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» /у 3-х тамах/. У двух тамах амаль адна трэцяя частка матэрыялаў даслана П. Шэйну Іванам Карскім: апісанне каляндарных і сямейных абрадаў беларусаў, іх жылля, адзення, страў, заняткаў, песні, казкі, легенды, паданні і інш.

Мяркуючы па лістах І. Карскага да П. Шэйна, ён быў чалавекам сумленным і працавітым. Абцяжараны шматлікай сям'ёю, ён вечна знаходзіўся ў нястачы. Можа, з гэтай прычыны ён з ахвотай браўся за любую работу...

Для П. Шэйна ён быў проста каштоўнай знаходкай, вучоны актыўна выкарыстоўваў яго працу па зборы неабходных яму фальклорных і этнаграфічных матэрыялаў.

Напружаныя адносіны І. Карскага з мясцовымі святарамі і яго прыхільнасць да уніятаў былі асноўнымі прычынамі, з-за якіх духоўнае начальства трымала яго ў «чорным целе», часта без прычыны пераводзіла з аднаго месца на іншае.

Апазіцыйнасць І. Карскага да мясцовага духавенства рэзка выступала і ў лістах, якія ён дасылаў П. Шэйну. Не было ніводнага ліста, у якім бы ён не закранаў тых ці іншых непрыстойных учынкаў духавенства, не наракаў на сваю службу пад наглядам таго ці іншага святара-»ліхадзея».

Па зборы фальклорных матэрыялаў І. Карскі працаваў строга па інструкцыі П. Шэйна, рыхтаваў толькі той матэрыял, у якім той меў патрэбу. Заданні выконваў своечасова, акуратна. П. Шэйн, улічваючы цяжкае матэрыяльнае становішча І. Карскага, час ад часу аказваў яму матэрыяльную дапамогу, пасылаў пасылкі і падарункі. За гэта І. Карскі дасылаў яму шматлікія фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы па мове, побыце, вуснай народнай творчасці з розных населеных беларусамі пунктаў. Запісы ў большасці рабіў па памяці, па сваіх асабістых назіраннях, уражаннях ад шматгадовай сувязі яго з беларускім насельніцтвам. Каб удакладніць запісы, наведваў сёлы, вёскі, закінутыя глухія куточкі, дзе жылі людзі. Звяраў іх з фальклорнымі творамі, якія бытавалі ў вуснай народнай традыцыі. Усе яго запісы вызначаліся дакладнасцю, праўдзівасцю. Ён аб'ехаў і прайшоў амаль увесь былы Лашанскі царкоўны прыход, як кажуць, удоўж і ўпоперак. Апісаў побыт людзей, культуру. Паводле яго, вёска Лаша ў той час мела вельмі несамавіты выгляд. Да 1861 г. амаль ва ўсіх прыгонных сялян хаты былі курныя: з 90 хат толькі сем мелі комін. Ва ўсім Лашанскім прыходзе коміны мелі ўсяго 40 хат...

Іван Карскі зазначае, што сяляне, далучаныя да праваслаўнай царквы ў 1839 г. датуль былі уніятамі. «Да 1855 года амаль уся царкоўная служба праводзілася на уніяцкі лад. Калі святар прапанаваў спяваць «Госпадзі, памілуй», некаторыя сяляне адказвалі: «Мы не маскалі, каб спяваць «Госпадзі, памілуй!» З 5 тысяч душ Лашанскага прыходу, можа, чалавек пяць зналі пацеры /малітвы/ па-руску. Пацеры складалі самі. На 4-м, 5-м годзе маткі навучалі сваіх дзяцей хрысціцца і гаварыць раніцай пацеры наступнага зместу: «Нейца Сына, Духа свентэга, амен. Дзякуй табе, пане Божа, што захаваў ночаньку і прыждаў дня святога». Вечарам — такога зместу: «Дзякуй табе, Пане Божа, што дзянёк пражыў і ночанькі святой даждаўся». У 8-9 гадоў маці вучыла іх больш доўгім пацерам, якія сама ведала, складала. Так было аж да 1868 года».

І. Карскі ў сваіх матэрыялах зазначыў, што уніяцкія святары досыць жорстка абыходзіліся са сваімі прыхаджанамі. Напрыклад, у 1847 г. у Лашы адна дзеўка /Ганна Хацекова/ нарадзіла пазашлюбнае дзіця, байструка. Калі аб гэтым даведаўся святар айцец Фавет Гаворскі, ён у царкве на галаву гэтай дзеўкі надзеў з гарохавай саломы вянок з доўгім хвастом, загадаў абвесці яе тры разы вакол царквы, а затым прывязаць каля царквы да дрэва на тры гадзіны... Яшчэ стражэй паступалі уніяцкія святары з асобамі, якія выпівалі. У 1844 г. святар Ф. Гаворскі ў царкве заўважыў, што селянін Мікалай Савіцкі быў падвыпіўшы. Ён загадаў яго вывесці з царквы і зачыніць у хляве на 2 гадзіны...



Паводле І. Карскага, лашанцы ў тыя часы не называлі сябе ні рускімі, ні беларусамі, а ў большасці тутэйшымі, або «ліцвінамі». Але калі хто сказаў: «Ліцвін — божы сын», то атрымліваў адказ: «Ты сам ліцвін». А калі хто казаў, «Ліцвін — чортаў сын», то атрымліваў адказ: «Хоць чортаў, але не твой»...

Апрача царквы, у Лашы было дзве карчмы, заснаваныя панамі Бухавецкімі. У Лашанскім прыходзе ў кожнай, нават самай малой вёсцы была карчма, а ў большых нават па дзве. У корчмах адбываліся вяселлі, хрысціны, запоіны, памінкі. Карчма для сялян была своеасаблівай канторай, біржай, клубам. У корчмах сустракаліся сваякі, блізкія, знаёмыя. Часта корчмы наведваў і Іван Карскі, каб сабраць і запісаць прыказкі, трапныя прымаўкі, казкі, легенды, песні...

Ніякай медыцынскай дапамогі сялянам у тыя часы ніхто не аказваў. Яны лячыліся рознымі зёлкамі, альбо замовамі. Вось якую замову /»каб не балелі зубы»/ запісаў І. Карскі: «О, вы зубы, зубы! Чаму ж вы не белы, а руды? Хіба вы што кепска жавалі, што хваробы дасталі? Перастаньце вы хварэці, будзеце, як велькі пан ў гарэці. А коль не перастанеце балеці, то мы будземо вас жалезам цягнуці. Ідзі жа ты, хвароба, ў шырока поле, у сухія лясы ды ў мокрыя балоты, а хваробы нам жаднай не трэба, бо яна прыйшла ад чорта, а не з неба»...

І. Карскі паказвае, што сяляне Лашанскага прыходу верылі, што калі каму з іх добра жывецца, ды яшчэ і грошы ў яго водзяцца, ёсць у запас, то гэта значыць, што чорт іх яму прыносіць. Яны на гэты конт прыдумваюць усялякія небыліцы. Пра чорта казалі, што ён паказваецца заўжды не іначай, як у чорным плашчы і ў капелюшы, на цялячых або казлячых нагах, а часам і на конскіх.

І. Карскі сабраў шмат фальклорных матэрыялаў, у тым ліку: «Хітрая навука», «Песня аб грэшнай дзеве», «Песня аб Бамболі», «Аб смерці і страшным судзе», «Аб смерці Спасіцеля», «Аб мэнках і смерці пана Езуса» і інш. Калі ён служыў дзячком у сяле Капцёўка /з 1855 па 1861 год/, то адзначыў, што сяляне не вельмі наведвалі царкву. Большая частка сялян вёскі была уніятамі. Далей зазначае, што сяляне Капцёўскага прыходу жаніліся часта без любові. Прыводзіць факт, сведкам якога ён сам быў. У 1857 г. два селяніна Капцёўскага прыходу, адзін з сяла Каўпакі — Ходзька, другі з сяла Капцёўкі — Навакольскі ў адну нядзелю прыехалі са сваімі нявестамі вянчацца ў царкву. І вось Навакольскі Ходзьку кажа: «Чуеш, мая жонка для мяне замалая, а твая росту гэткага, як ты сам, то пакуль нас святар яшчэ не абвянчаў, то ты, братка, калі хочаш, памяняемся дзеўкамі». Пачасаў патыліцу Ходзька і кажа: «Яно то можна было б, калі ты дасі мне дзесяць рублёў за пераменку». «Што ты! Ашалеў, ці што!?. 10 рублёў табе даць!.. Дай руку, бяры тры рублі, так». Доўга яны дагаворваліся, а пасля згадзіліся на пяць рублёў, воз жытняй саломы, два рублі святару і 40 капеек дзячку...

І. Карскі часта бываў у вёсцы Кунцаўшчына, наконт якое зрабіў такі запіс: «Сяляне ў Кунцаўшчыне ў той час жылі вялікімі сем'ямі, абшчынамі. Кіраваў гаспадаркай у асноўным старэйшы з роду. Яго аўтарытэт быў непарушны. На выпадак смерці ён перадаваў усю гаспадарку старэйшаму сыну, усё гэта рабілася вусна, без ніякіх пісьмовых завяшчанняў». Далей апісвае, як яму давялося быць сведкам такога завяшчання ў вёсцы Кунцаўшчына ў селяніна Сцяпана Краўцэвіча: «Перад смерцю, — піша І. Карскі, — ён прызваў сваіх чатырох сыноў /пяты ў той час быў у салдатах/ і сказаў ім: «Дзеткі мае раднюсенькія! Вы бачыце, што я зусім цяпер хворы і здаецца, што ўжо не выйду з гэтай хваробы, то ты, Ясю, застанешся гаспадаром, а вы, дзеткі, слухайце яго, як старэйшага брата, бо ён варт, каб яго слухаць, бо ён не распуснік, ужэ жанаты... Ды не забывайце, дзеткі, і брата свайго Казімера, што ў маскалях». Пасля ён звярнуўся да нявесткі: «І ты, Багуська, не крыўдзь нікога, але ўсе шануйце адно другога, то вас людзі будуць і бог любіці...»

Па вывучэнні беларускай мовы і яе гаворак акадэмікам Я. Карскім зроблена ў свой час вельмі многа, можа больш, чым па вывучэнні сучасных гаворак рускай мовы. Кожны беларус павінен з пашанай і вялікай удзячнасцю адносіцца да гэтага нашага земляка.З удзячнасцю мы павінны былі б паставіцца і да Івана Ануфрыевіча Карскага. Але яго імя амаль зусім забыта, яно не значыцца ні ў Беларускай Савецкай энцыклапедыі, ні ў Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі. Вельмі скупыя звесткі аб ім і ў матэрыялах фалькларыста і этнографа П. Шэйна, дакладна не ўказаны ні год яго нараджэння, ні дата смерці. Толькі дзякуючы ўнучцы Я. Ф. Карскага, Таццяне Сяргееўне Карскай удалося адшукаць фатаграфію І. Карскага. Яе яна адшукала ў архіве П. Шэйна.

Імя Івана Ануфрыевіча Карскага павінна быць увекавечана так, як і імя яго пляменніка, заснавальніка беларускага мовазнаўства і філалогіі Яўхіма Фёдаравіча Карскага. Яго заслугі перад беларускай фалькларыстыкай і этнаграфіяй не меншыя, як і іншых вучоных, фалькларыстаў, этнографаў — карэспандэнтаў П. Шэйна: А. Я. Багдановіча /бацькі Максіма Багдановіча/, М. Я. Нікіфароўскага, Ч. М. Дабравольскага, М. В. Доўнар-Запольскага і інш...

На Лашанскіх могілках у 1880 годзе І. Карскі паставіў сваім родзічам помнік, які захаваўся да нашых дзён. Помнік у выглядзе чыгуннага крыжа уніяцкай формы. На ім значацца імёны: «Онуфрія, Фёклы, Игнатія, Стефана, Маріи, Онтоніны и всех сроднiков». Сооружен июля 12 д. 1880 г. тщанием скорбящего сына И. О. Карского». Побач з гэтым помнікам захаваўся да нашых дзён і помнік Івану Ануфрыевічу Карскаму ў выглядзе чыгуннага крыжа. На помніку засталіся толькі сляды ад медальёна з надпісам: што на ім было напісана, ніхто не ведае.

Магілы на старых Лашанскіх могілках сёння закінутыя, асабліва магілы Карскіх, ніхто іх не даглядае. Помнікі Карскіх патрабуюць тэрміновай рэстаўрацыі, абнаўлення, іначай яны зусім рассыплюцца, бо ім больш за сто гадоў... Не думаў заснавальнік беларускага мовазнаўства і філалогіі Яўхім Карскі, ні яго дзядзька Іван Карскі, што іх родная Лаша трапіць у лік неперспектыўных «деревень», што яна абязлюдзее, знямее. Закрыта школа, што насіла імя акадэміка Я. Ф. Карскага, ліквідаваны мемарыяльны музей. У былой школе, з мемарыяльнымі дошкамі на сценах, жывуць нейкія людзі. Не звініць школа, як раней, дзіцячымі галасамі. Усё знямела, прыціхла... Адна рэчка Лашанка, як і раней, цурчыць каля старых могілак, на якіх спяць вечным сном Карскія і былыя сяляне з навакольных вёсак Лашанскага прыходу, вядзе з імі аб днях мінулых гамонку...

**Апанас ЦЫХУН,**
заслужаны настаўнік Беларусі, член Рады Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі

## «ДАПАМАГАЕ АДОЛЕЦЬ НЯПРАЎДУ...»



**У горадзе Скідзелі і вёсках калгаса «Скідзельскі» ўсе добра ведаюць скрыпача-самавука Аляксандра Вікенцьевіча Скоміна. Ён часта выступае ў канцэртах калгаснай мастацкай самадзейнасці.**

**— Мне ўжо 75-ы год пайшоў, — гаворыць Аляксандр Вікенцьевіч, — а іграць на скрыпцы пачаў яшчэ падлеткам. Разам з пугай браў і скрыпку, ідучы пасвіць каровы вяскоўцаў. Бацька вырашыў вучыць мяне музыцы, але пры панскай Польшчы зрабіць гэта было не так проста /жылі мы ў вёсцы Грабяні на Беласточчыне/.**

**У 40-м годзе А. Скомін стаў курсантам Арджанікідзеўскага вайсковага вучылішча, у снежні 41-га трапіў на фронт, а ў ліпені наступнага года з фронту знялі, як усіх тых, хто быў з Заходняй Беларусі. Прычына — недавер. Паслалі ў будаўнічы батальён. Калі вораг прарваў фронт, апынуўся ў акружэнні і трапіў у палон, дзе знаходзіўся да красавіка 45-га. Затым зноў служба ў Чырвонай Арміі. Вярнуўшыся дамоў, стаў працаваць у калгасе...**

**— Пераадольваць хваробу і няпраўду мне дапамагае скрыпка, — кажа Аляксандр Вікенцьевіч. — Калі яна трапляла ў мае рукі падчас вайны, як бы скрашвала цяжкасці жыцця, сум па доме і родных. Можа, гэта і дапамагло выжыць.**

**І. БАРЫСАЎ**

*На здымку: А. Скомін з унучкай Наташай.*

*Фота аўтара*

## СЦЭНА — «НОВАЯ». «КРЭСЛЫ» — ТЫЯ САМЫЯ



**... Іх роўна 40. 40 крэслаў у доме Старой і Старога — герояў аднайменнай п'есы знакамітага драматурга Эжэна Іянэскі. І прыходзяць крэслы-госці да іх, як успаміны. Аб юнацтве, аб дзецях, аб высокім і нікчэмным жыцці, аб светлых марах і разбітых надзеях...**

**Работа ў прапанаваных рэжысёрам Сяргеем Палешчанкавым умовах з'явілася пэўнай нечаканасцю для артыстаў. Тым не менш, паўтары гадзіны напружана жывуць на сцэне вядучая актрыса Брэсцкага тэатра лялек Тамара Тэвасян і акцёр абласнога драматычнага тэатра Міхась Перапечка, не губляючы шчыльнага сцэнічнага дзеяння ні на хвіліну. Удала пераймае яго ў фінале і Іван Герасевіч /Аратар/.**

**«Новая сцэна тэатра лялек: эксперымент» — так было пазначана на афішах напярэдадні прэм'еры, якая адбылася 26 лютага. «Крэслы» Э. Іянэскі — першая пастаноўка на так званай «Новай сцэне». Ці напраўду зрушаць традыцыйныя ўяўленні аб тэатры яе стваральнікі, меркаваць гледачу. Прынамсі малое прадпрыемства «Апрель», якое ўзяло на сябе ўсе выдаткі па стварэнні спектакля, відаць, таксама пралічыла рызыку, адважыўшыся на падобныя дачыненні з Брэсцкім тэатрам лялек.**

**І. Х.**

*На здымку: сцэна са спектакля «Крэслы».*

*Тамара ТЭВАСЯН /Старая/ і Міхась ПЕРАПЕЧКА /Стары/.*

*Фота Уладзіміра ДОЛЬКІНА*

Пошукі і знаходкі

***Хоць артыкул М. Абабуркі і не прэтэндуе на тое, каб давесці пераканаўчы адказ на пытанне, вынесенае ў загаловак, — рэдакцыя вырашыла надрукаваць гэты матэрыял у якасці дыскусійнага, каб нагадаць літаратурнай грамадскасці, што пытанне падобнае ўжо ўздымалася, што яно па-ранейшаму існуе, і што пошукі адказу на яго ўяўляюць адну з вартых увагі задач мова- і літаратуразнаўчай думкі.***

# ЦІ БЫЎ КІРЫЛА ТУРАЎСКІ АЎТАРАМ «СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ»

У 1990 г. часопіс «Роднае слова» /«Беларуская мова і літаратура ў школе», 1990, N 6/ надрукаваў артыкул Б. Зотава «Хто ён — аўтар «Слова пра паход Ігаравы»?», дзе паказвалася і даказвалася, што самым верагодным аўтарам «Слова...» з'яўляецца наш слынны зямляк, епіскап старажытнага Турава — Кірыла... У прыватнасці, артыкул завяршаецца прапановай-заклікам: «Вывучэнне жыцця і творчасці Кірылы Тураўскага, як верагоднага аўтара «Слова...», неабходна працягваць. Варта ўсур'ёз падумаць пра камп'ютэрна-матэматычную апрацоўку яго твораў...». Але, на вялікі жаль, не чуваць чагосьці не толькі сенсацыйнага, але і ўдакладняльнага... ну, напрыклад, калі памёр «Златоуст, паче всех воссиявший нам на Руси»: ці каля 1182 г., як адзначаюць усе свяцілы, з'явы прыроды, звяры і птушкі, дрэвы і расліны, поры года і інш./, зачынаў і канцовак, звароткаў і лірычных адступленняў, аўтарскай і «чужой» мовы, высокага /кніжнага/ і зніжанага /гутарковага/ маўлення...

*Уражваюць супадзенні не толькі ў лексічным складзе, але і ў фразеалагічным, марфалагічным, сінтаксічным. Асабліва вялікую пераканаўчую здольнасць, на наш погляд, маюць аднолькавыя ці блізкія і сваёй структурай, і сваім зместам тыя ці іншыя выказванні ці часткі тэксту, сказы ці іх структурныя кампаненты. Напрыклад: «по былинамь сего времени, а не по замышлению Бояню» /«Слова пра паход Ігаравы»/ і «сказавшю не от умышленья, но от святых книг» /«Прытча пра чалавечую душу і цела»/,* к апостолом на Елеоньстей речена быша: мужи бо, реша, галилейстии, что стоите зряще на небо? Тъй пакы придеть в славе своего божества судит всему миру, и въздасть комуждо по делом его. Святыя же пророкы и преподобныя праведникы с собою на небеса в святый въводит град, их же влаз от богодъхновеньных скажем книг. Мы бо славу несм творци, нъ пророчьскых и апостольскых въследующе глагол, иже послушьствоваша о бозе живи, им же дух святый въписати тако повелеле: «верующим на спасение, а неверующим на погыбель».*

У прыведзеных фрагментах яскрава відаць, па-першае, ігнараванне прытчы як жанру, а, па-другое, усебакова ўсхваляецца і прапагандуецца адзінабожжа і адзінаўладдзе, што, зразумела, пранізвае ад пачатку і да канца ўсё «Слова пра паход Ігаравы». Ці ж не сугучныя выказаныя думкі і з наступнымі: «Почнемъ же, братіе, повесть сію отъ стараго Владимера до нынешняго Игоря; иже истягну умь крепостію своею, и поостри сердца своего мужествомъ, наплънився ратнаго духа, наведе своя храбрыя плъкы на землю Половецкую за землю Руськую»? Ці не імкнецца аўтар «Слова пра паход Ігаравы» ўваскрэсіць памерклую славу Ігара, што, як і Ісус Хрыстос, «въпълчися на вся бесовьскыя силы», «верующим на спасение, а неверующим на погыбель»?!.

беларускамоўныя энцыклапедыі ды хрэстаматыі па старажытнай беларускай літаратуры, ці каля 1188 г, як адзначыў у сваёй «Истории русской словесности» П. Палявой у 1900 г.?..

Што нам зараз не дае права сцвярджаць, што менавіта Кірыла Тураўскі з'яўляецца аўтарам «Слова пра паход Ігаравы» /хоць ён і стварыў больш за сорак разнастайных «Словаў» — казанняў, прыпавесцяў, споведзяў, малітваў/? Найперш — гэта час ягонай смерці, бо Ігараў паход і поўнае зацямненне сонца /«Солнце... тьмою путь заступаше»/ адбыліся ў маі-траўні 1185 г. Калі будзе даказана, што К. Тураўскі памёр не раней за зварот з палону князя Ігара, то ўсё астатняе куды лягчэй даказаць. Здымаецца пытанне і пра тэрмін напісання іншых твораў нашай старажытнай славутасцю. Напрыклад, у кнізе «Златоструй: Древняя Русь X—XIII веков» /М., 1990/ пра «Аповесць пра беларызца-чалавека і манаства» К. Тураўскага робіцца наступная выснова: «У позніх спісах «Аповесць» адрасавана Васілю, ігумену Пячэрскаму. Аднак Васіль стаў ігуменам толькі ў 1182 г., калі Кірылы, як лічаць, ужо не было ў жывых». І далей: «Верагодна, «Аповесць» была напісаная Кірылам яшчэ перад тым /«до того»/, як ён стаў тураўскім епіскапам» /тамсама/.

Па-другое, патрэбныя яшчэ грунтоўныя доказы таго, што такі прапаведнік /прапагандыст/ хрысціянства, менавіта праваслаўя, як Кірыла Тураўскі, не мог прапагандаваць ніякай вайны — ні сумеснай, як сказана ў творы, «отъ старого Владимера до нынешняго Игоря», ні індывідуальнай, якой праславіўся «Святъславь грозный великый киевскый», бо, як вядома, адным з асноўных біблейскіх запаветаў з'яўляецца «не забі!». Праўда, адзін з хрысціянскіх пастулатаў «Як трэба /пажадана/ Госпаду, так і будзе» сам жа К. Тураўскі тлумачыць у згаданай вышэй «Аповесці» так: «Гасподзь жывіць і мярцвіць, багаціць і бедніць, змірае /прыніжае/ і ўзвышае, і ад хваробы збаўляе /выратоўвае/ нямоглага». Ды і сябе вельмі часта ў сваіх розных паводле жанру творах называе «чалавекам грэшным». А выказванне «То не воюйте, братье, на мою грубость, нелеп образ писания поставляющи ми. Яко же бо и по ногу вязаші птице нест мощно на аиерьскую възлетети высоту, тако и мне в телесных вязящу похотех, невозможно о духовных беседовати: не сольнуть бо ся грешнича словеса, не имуща благодати святого духа», узятае з ягонай «Прытчы пра чалавечую душу...», паказвае, што мог К. Тураўскі ўзяць на сваю душу яшчэ адзін грэх — напісаць свецкую аповесць /паэму/, накіраваную супраць міжусобіц. Тым больш што ўзоры такіх аповесцяў-паэмаў ужо існавалі як у вусным, так і кніжным маўленні /маюцца на ўвазе найперш быліны, гамераўскія «Іліяда» і «Адысея», байкі Эзопа/.

Сувязь «Слова пра паход Ігаравы» з самымі старажытнымі былінамі добра паказана ў кнізе «Былины» /М., 1986/, пра блізкасць «Слова...» да «Іліяды» пераканаўча гавораць назіранні Б. Зотава ў згаданым артыкуле, а Эзопаву мову твора расшыфроўваюць усе каментарыі «Слова пра паход Ігаравы» і шасцітомны слоўнік-даведнік творы, выдадзены ў 1965—1984 гг. Застаецца толькі знайсці тыя асаблівасці і ў творах самога Кірылы Тураўскага. Але гэта нялёгкая справа, бо ягоныя творы далёка не ўсе сабраныя ў адно месца, а ў Беларусі выдадзеныя ўвогуле толькі ў хрэстаматыях-дапаможніках каля паўдзесятка «Словаў» і «Прытчаў». Аднак нават тое, што ёсць у кніжніцах такіх абласных цэнтраў, як Магілёў, дае права гаварыць пра супадзенне сімволікі /нябесныя

*«летая умомъ подъ облакы» /тамсама/ — «пойдемъ... на гору Елеоньскую умомь» /«Слово на възнесение господне...»/, «ищучи себе чти, а князю славе» /тс/ — «чьстьную славу и поклонение и» /«Слово о сънятии тела Христова с креста...»/, «и тому славу, чьсть и покланяние въсылаемъ» /«Слово на възнесение господне...»/, «овем в чьсть и славу, овем в студ и муку» /«Притча о человечстей души...»/; «подъ трубами повити» /тс/ — «в трубе божии сниде с небеси» /«Прытча...»/; «и жалость ему знамение заступи» /тс/ — «и украсить смерть вашу знамениемъ» /«Аповесць пра беларызца і манаства»/; «Солнце ему тьмою путь заступаше», «тьмою ся поволокоста» /тс/ — «Солнце помрачи и землю потрясе» /«Слово о сънятии тела...»/; «чърныя тучя съ моря идуть, хотять прикрыти 4 солнца, а въ нихъ трепещуть синии молнии. Быти грому великому, итти дождю стрелами» /тс/ — «на Синайскую бо сьшьд, вся устрашаше, зане гора вся горяще огньмь, молния же и громи приступающая к горе умьрщвяху» /«Слова на възнесение...»/; «Не мыслию ти прелетети издалеча» /тс/ — «и на небеса ко владычним обещанием мысль приводить» /«Прытча...»/; «нельзе бе пригвоздити къ горамъ» /тс/ — «тело пригвождено к древу» /«Слово о сънятии тела...»/; «Солнце светится на небесе, — Игорь князь въ Руской земли» /тс/ — «Свьтить бо ся Елеон яко солнце, святыхъ чины с Христосьмь на собе имея» /«Слово на възнесение господне...»/ і шмат інш. Пераклікаюцца плачы жаночых вобразаў паэмы-аповесці «Слова пра паход Ігаравы» з плачам Марыі — маці Ісуса Хрыста /«горце рыдающи матери»/ — перад целам Хрыстовым, распятым на крыжы, у творы «Святого Кюрила мниха слово о сънятии тела Христова с креста, и о мюроносицах, от сказания евангельскаго, и похвала Иосифу, в неделю 3-ю по Пасце». А выказванне-заклік Маткі Боскай з толькі што названага «Слова» К. Тураўскага «Слышите, небеса и море с землею, внушайте моих слез рыдание: се бо творец вашь от священик страсть приемлеть, един праведьн за грешникы и безаконьникы убиен бысть» можна ставіць эпіграфам да ўсяго «Слова пра паход Ігаравы».*

На наш погляд, бліжэй за ўсё і формай, і паэтыкай, і нават асноўным зместам стаіць да «Слова пра паход Ігаравы» твор Кірылы Тураўскага «Слово на възнесение господне, в четвьрток 7-й недели по Пасце, от пророчьскых указаний и о въскрешении всеродьна Адама из ада». Вось ягоны пачатак: *«Приди ныня духомь священный пророче Захарие, начаток слову дая нам от своих прорицаний о възнесении на небеса господа бога и спаса нашего Исуса Христа. Не бо притчею, но яве показал еси нам, глаголя: «се бог нашь грядеть в славе, от брани опълчения своего, и вси святии его с нимь, и станета нозе его на горе Елеоньстей, прямо Иерусалиму на въсток». Хощем бо и прочее от тебе уведати; а о брани бывъший на обьщаго врага диявола, от Исаия Серафимьскаго видьца разумеем. Сам бо господь наш Исус Христос един въпълчися на вся бесовьскыя силы, и власти тьмныя испроверже...». І далей: «По всех бо в телеси падьших прельстию змия, тою же плътию Исус пострада, а по делом комуждо в последний день въздасть, егда придеть судить всему миру. Си же от ангел*

Яшчэ больш паэтычнае /і, вядома, сімвалічнае/ наступнае выказванне, узятае са «Слова на ўзнясенне господняе...» *«Нъ си оставльше, о възнесении Христове побеседуим, и яже быша на горе Елеоньстей. Тамо бо ангельскыя силы и архангельская воиньства: ови облакы крилы ветрьними приносять на възятие от земли Христа бога нашего, друзии же престол херовимьскый готовять; бог отець ждеть, его же преже име в ядрех с собою, дух же святый велить всем ангелом его: «възмете врата небесная, да вънидеть царь славы». Небеса веселяться, своя украшающе светила, да благословяться от своего творца, с плътию сквозе тех врата на облацех възносима; земля радуеться, видящи на себе бога явьствьно ходяща, и вся тварь красуеться, от Елеоньскыя горы просвещаема, яко на той ангели с святыми апостолы, по велению бога отца съвъкупишася, ожидающе сыновьня пришествия». Ці не выпісаны потым па аналогіі «великый киевскый» князь, што сядзеў «въ Киеве на горахъ» са сваёю світаю і з нецярплівасцю чакаў «нашчадка»?*

Што да фалькларызацыі і дыялектызацыі мовы «Слова пра паход Ігаравы», то гэта не стылізацыя, а заканамернасць мастацкага стылю, бо і сёння любы значны твор не абыходзіцца без укропліванння элементаў фальклору ды народна-дыялектнай мовы. А калі браць пад увагу прамоўніцкае майстэрства, дзе заканамерна суіснавала і суіснуе высокае з нізкім як кніжнае з гутарковым, дык тут і гаварыць няма чаго, бо ў кожным творы К. Тураўскага іх безліч. Ды і сам пісьменнік і прамоўца ў «Аповесці пра беларызца-чалавека і манаства» прызнаўся: «Бо грэшны я чалавек, і апаганеная мая мова. Як быццам бы і ўглыбіню Божых кніг унік /пранік/, але паводле грубасці розуму свайго /майго/ простай мовай гавару /кажу/».

І яшчэ адно, на нашу думку, вельмі важнае звяно ва ўсім ланцугу «Кірыла Тураўскі і «Слова пра паход Ігаравы» — гэта той факт, што «Святъславь грозный великый киевскый» пэўны час быў князем у Тураве і Пінску, Ноўгарадзе Северскім і Чарнігаве, а з 1180 г. княжыў у Кіеве. Магчыма, К. Тураўскі быў добра знаёмы з ім, і ўсе сімпатыі да яго перанесліся і на ягоных стрыечных братоў — Ігара і Усевалада, на іх родных і блізкіх, нават на іх землі.

Яшчэ ў 1952 г. самы аўтарытэтны з даследчыкаў «Слова пра паход Ігаравы» Д. С. Ліхачоў зазначыў наступнае: «Аўтар «Слова» мог быць прыбліжаным Ігара Святаславіча: ён яму спачувае. Ён мог быць і прыбліжаным Святаслава Кіеўскага: ён спачувае і яму. Ён мог быць чарнігаўцам і кіяўлянінам. Ён мог быць дружыннікам: дружыннымі паняццямі ён карыстаецца пастаянна. Ён, несумненна, быў кніжна адукаваным чалавекам і паводле свайго сацыяльнага становішча наўрад ці належаў да эксплуататарскага класа. Аднак у сваіх палітычных перакананнях ён не быў ні «прыдворным», ні дружыннікам, ні абаронцам мясцовых інтарэсаў, ні ідэолагам князёў, баяраў або духавенства. Дзе б ні было створана «Слова» — у Кіеве, у Чарнігаве, у Галічы, у Полацку ці ў Ноўгарадзе Северскім, — яно не ўвабрала ў сябе ніякіх абласных рысаў. І гэта адбылося, у першую чаргу, таму, што аўтар «Слова» займаў сваю, незалежную ад кіруючай вярхушкі феадальнага грамадства патрыятычную пазіцыю. Яму былі чужыя мясцовыя інтарэсы феадальных вярхоў і былі блізкія інтарэсы шырокіх

пластоў рускага працоўнага насельніцтва, якое паўсюдна імкнулася да адзінства Русі». Зразумела, што апошняя заўвага ў працытаваным зроблена пад уплывам сталінізму, але ў цэлым усё схоплена як мае быць. Праўда, у 1968 г. даследчык нібы пераглядае сваю пазіцыю наконт аўтарства «Слова», гаворачы: «Аўтар «Слова» не адчувае сябе чалавекам залежным, паднявольным, што выконвае чыйсьці заказ. Гэта не прыдворны ліслівец і не дагодлівы тварэц славы свайму князю. Гэта і не складальнік сумнай элегіі, у якой аплакваецца паражэнне рускіх. Аўтар мужна і прама выкрывае крамолу князёў — сваіх сучаснікаў і іх продкаў». І далей як быццам бы схіляецца да думкі, што аўтар «Слова» — удзельнік паходу Ігара супраць полаўцаў ці проста воін-дружыннік: «Толькі бывалы ў паходах мог з такою дакладнасцю перадаць душэўныя перажыванні воінаў, што ідуць за межы сваёй зямлі і развітваюцца з радзімай», «Аўтар «Слова» як бы чуе здалёку шум бітвы, але ў моцным хваляванні душы не хоча і не можа ўсвядоміць раптоўна насунутага паражэння, нягледзячы на яго відавочнасць», «Назіраючы за Рускай зямлёю з такой вышыні, з якой ён можа ахапіць усю яе прастору, аўтар тым не меней бачыць і чуе яе ва ўсіх дэталях. Разнастайная назіральнасць аўтара «Слова» ахоплівае падрабязнасці паходнага жыцця, стэпавых пераходаў, прыёмы абароны і нападу, дэталі ўзбраення, паводзіны птушак і звяроў». Што да ўдакладненняў Д. С. Ліхачова, то, думаецца, яны пераканаўча абвергнутыя Г. Зотавым: «Некаторыя прыкметы, што разглядаюцца ў шэрагу прац як істотныя, не вытрымліваюць крытыкі і іх давядзецца адсеяць. Напрыклад, сцвярджаюць, што аўтар «Слова...» — удзельнік паходу 1185 г., бо дасканала ведае яго падрабязнасці. Але ж не менш бліскуча ён апісвае падзеі стогадовай даўнасці, актыўным удзельнікам якіх наўрад ці ён быў, а таксама Святаславаў сон і Яраслаўнін плач. Не мог жа ўдзельнік паходу быць усюды адначасова: у Палавецкім стэпе з Ігарам, у Кіеве — з Святаславам, і ў Пуціўлі — на гарадской сцяне? Усёведаючым і ўсюдыісным мог быць толькі геніяльны паэт. Хіба не апісалі А. С. Пушкін Палтаўскую, а М. Ю. Лермантаў Барадзінскую бітвы ярчэй і лепш, чым непасрэдныя ўдзельнікі?» /гл. памянёны артыкул на стар. 66/.

Пра блізкасць «Слова пра паход Ігаравы» да казанняў К. Тураўскага гаворыць і сам Д. С. Ліхачоў у 1968 і 1985 гг., а ў 1990 г. развівае думкі І. П. Яроміна наконт мноства прыёмаў прамоўніцкага мастацтва ў творы: «Праз прамоўніцкія зносіны і прамоўніцкія заклікі перадаваліся аўтарскія адносіны да падзеяў, якія адлюстроўваліся ў апавяданні. Перад намі ў «Слове», як і ў многіх іншых творах Старажытнай Русі, расказ, у якім аўтар часцей адчувае сябе тым, хто гаворыць, чым тым, хто піша, сваіх чытачоў — слухачамі, а не чытачамі, сваю тэму — тэмай павуча/э/ння» /Слово о полку Игореве. Л., 1990/.

Адзін з першых даследчыкаў «Слова пра паход Ігаравы» К. Калайдовіч у 1818 г. прыйшоў да высновы, што твор напісаны «чыстай славянскай» мовай, а ў большасці словы яго можна знайсці ў свяшчэнным пісанні, летапісах, граматах. У. Сыракомля выказаўся ў 1860 г. пра беларускае паходжанне «Слова». Прафесар МДУ імя М. В. Ламаносава С. К. Шамбінага ў 1934 г. убачыў, што «прыёмы Кірылавага пераказу вельмі блізкія да «Слова...». У 1968 г. Мікола Прашковіч зазначыў: «Шырокае выкарыстанне беларусізмаў гаворыць, што аўтар, магчыма, з'яўляўся выхадцам з якогасьці месца сучаснай беларускай тэрыторыі, дзякуючы чаму яе дыялект знайшоў у гэтым творы сваё адлюстраванне» /гл.: Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1. Мн., 1968. С. 97/. Нават ужо гэтыя факты прымушаюць сур'ёзна ўзяцца за аўтарства «Слова».

Яшчэ адзін цікавы факт. Калі знайшлі «Слова пра паход Ігаравы», то аказалася, што яно захоўвалася ў рызніцы Спаса-Яраслаўскага манастыра ў адным скрутку са «Словамі» Кірылы Тураўскага...

Варта асобна сказаць пра 3 кнігі Б. А. Рыбакова: «Слово о полку Игореве» и его современники» /М., 1971/, «Русские летописцы и автор «Слова о полку Игореве» /М., 1972/ і «Петр Бориславич: Поиск автора «Слова о полку Игореве» /М., 1991/. У першых дзвюх упамінаецца К. Тураўскі як сучаснік аўтара «Слова» і пісьменнік другой паловы XII ст., які «поўнасцю ўраўноўваў красамоўцаў-песнятворцаў з гісторыкамі-летапісцамі», але як царкоўнік ніякага дачынення да «Слова пра паход Ігаравы» не мае, бо, на думку Б. А. Рыбакова, аўтарам «Слова» мог быць толькі такі свецкі чалавек, як Пётр Барыславіч. Д. С. Ліхачоў ухваліў даследаванні Б. А. Рыбакова, але выказаўся публічна, што ўсё ж такі варта лічыць аўтарам «Слова», прыбліжанага ці да Ігара Святаславіча, ці да Святаслава Кіеўскага, бо менавіта толькі так адначасова і ўслаўляючы і асуджаючы мог быць апеты паход Ігараў. Сказанае яшчэ раз пацвярджае, што К. Тураўскі быў асабіста знаёмы з абодвума князямі.

Як бы там не было, але зараз можна паўнапраўна канстатаваць, што мова і стыль паэмы «Слова пра паход Ігаравы» значна далей стаяць ад летапісаў хай сабе і таго ж Пятра Барыславіча, чым ад «Словаў» і «Прытчаў» другога Златавуста на ўсёй Старажытнай Русі, які дбаў пра яе ўз'яднанне, а не раз'яднанне. Таму меў усе падставы назваць К. Тураўскага сімвалам еднасці ўсходнеславянскіх народаў і іх культур пры адкрыцці помніка нашай старажытнай славутасці Ніл Гілевіч у сённяшнім Тураве, які не мае нават статуса раённага цэнтра.

Пошта

# ХТО АДКАЖА?

У апошні час сродкамі масавай інфармацыі неаднойчы абмяркоўвайся стан інфармацыйнага забеспячэння навукі, культуры, стварэння і функцыянавання дзяржаўнай інфармацыйнай прасторы. Элементы крызісу ў інфармацыйным забеспячэнні навукі і культуры тлумачацца аб'ектыўнымі прычынамі.

Аднак не абыходзіцца тут і без суб'ектыўных фактараў, якія нясуць навуцы і культуры нашай дзяржавы непапраўныя страты.

У другой палове мінулага года была аб'яўлена падпіска на беларускія газеты і часопісы і на перыядычныя выданні некаторых краін СНД, у першую чаргу на перыёдыку Расіі на 1994 год. Бібліятэкі ўсіх ведамстваў Беларусі, у тым ліку і навуковыя, афармілі падпісныя дакументы і здалі іх у аддзяленні «Саюздруку» ці дзяржаўнага прадпрыемства «Мінская пошта» і ў кастрычніку і лістападзе 1993 года пералічылі грошы /і за расійскія перыядычныя выданні таксама/, як патрабавала Міністэрства сувязі і інфарматыкі, у беларускіх рублях па курсу ў адносінах да расійскага рубля два да аднаго.

І вось амаль праз паўгода, у лютым 1994-га, Міністэрства сувязі і інфарматыкі разам з «Мінскай поштай» давялі да ведама бібліятэк, што шэраг расійскіх часопісаў бібліятэкі не будуць атрымліваць у першым паўгоддзі 1994 года, а на астатнія трэба нанава афармляць падпіску на другі квартал 1994 года.

У выніку Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі ў першым паўгоддзі 1994 года не атрымае больш за 150 часопісаў, Нацыянальная бібліятэка Беларусі — каля 400. Зразумела, што і галіновыя рэспубліканскія бібліятэкі: урадавая, навукова-тэхнічная, сельскагаспадарчая, медыцынская, педагагічная, бібліятэкі нашых універсітэтаў і іншых вышэйшых навучальных устаноў таксама пазбаўлены магчымасці мець у сваіх фондах вядучыя навуковыя часопісы Расіі.

З распаўсюджвання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь выключаны 8 серый «Известий Российской академии наук», 10 серый «Вестника Московского университета», 7 серый «Вестника С.-Петербургского университета», 4 серыі «Известий высших учебных заведений» і шэраг галіновых навуковых часопісаў Расійскай акадэміі навук. Практычна не будуць паступаць у нашу дзяржаву расійскія акадэмічныя часопісы па біялогіі, мікрабіялогіі, медыцыне, некаторыя часопісы па хіміі, фізіцы, геахіміі, тэхніцы.

Асноўная колькасць гэтых выданняў выходзіць у выдавецтве «Навука». Яшчэ зусім нядаўна гэта былі і нашы часопісы, і ўсесаюзныя. Бяда ў тым, што іх рэдакцыі, як і большасць навуковага патэнцыялу СССР, засталіся на тэрыторыі Расіі.

Па прапанове Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі 15 лютага адбылася сустрэча бібліятэчнай грамадскасці Мінска з намеснікам міністра сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь спадаром В. Валашчуком і адказнымі супрацоўнікамі дзяржаўнага прадпрыемства «Мінская пошта». Але сустрэча не вырашыла праблему. Супрацоўнікі «Мінскай пошты» спасылаюцца на тое, што з часу атрымання ад падпісчыкаў /гэта значыць, ад бібліятэк/ грошай курс беларускага рубля панізіўся ўдвая. На сустрэчы высветлілася, што абмежаванні ў распаўсюджванні расійскіх часопісаў на тэрыторыі Беларусі зроблены з дазволу і згоды самых высокіх асоб Савета Міністраў Беларусі.

Для параўнання паведамім, як нам стала вядома ад нашых калег з Літвы, што адпаведнае Літоўскае ведамства змагло выпісаць для бібліятэк Літвы неабходныя расійскія часопісы. А Літва пры гэтым не з'яўляецца членам СНД.

Па нашым разуменні, каб такое здарылася ў адной з цывілізаваных краін, вінаватыя мусілі б адказваць.

А ў нас? Хто адкажа?

**Анатоль ФУРС,**
**загадчык аддзела камплектавання Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Я. Коласа Акадэміі навук Беларусі**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Яго хавалі «пад Леніным», з удзелам усёй парафіі, а быў, аказваецца, Арцыменя канкурэнтам мафіі. Выключэнне, якое не пляміць наменклатуры? А што як узор структуры? І марна ў тым крымінале чакаць якогась фіналу?

●

Атрымаў рускі мат міжнародны сертыфікат і запанаваў, магутны, усім пакутным родны брат. Хто ж гэта хоча пры цяперашнім рознагалоссі пазбавіць нас сродку інтэрнацыянальных зносін?

●

Наш уклад у цывілізацыю не запалка да агню — суцэльная камп'ютэрызацыя... ад слова «п'ю».

●

— Не цярплю ўказальны палец, — паказаў нейкі змаганец, — хіба што калі паманіць...

●

Ці ёсць між пісьменнікаў генералы? Ёсць, але не паэты.

●

«Зноў навальніцы, узмацненне ветру»... Прагнозы ўсе скіраваны ў «рэтра». Што будзе заўтра, скажуць паслязаўтра ў малітвах без веры, у песнях без аўтара.

●

«Ясь» на «Славянскім базары»: «Косил Ясь луговину и смотрел на Янину. А Янина жито жала, парню взглядом отвечала. Так вот в летние дни сговорились они» /пераклад Л. Дзербянёва/. От, скажыце вы мне, ці то «Ясь», ці то не?

●

Вярблюды ходзяць, як манекеншчыцы, амаль не згінаючы ног, адвечнай іх велічнасці пазайздросціў бы бог. Ды няма вярблюдаў чагосьці на конкурсах прыгажосці. Кажуць, гарбы непрыгожыя, а ці непрыгожае гожае?

●

Плакат асцерагаў майстроў пісьменства краснага: «Каб галава была светлаю, яна павінна быць яснаю». Тут надышоў Хама, паэт, пяюн і п'яніца: «А што я гавару, як піць дык толькі з раніцы. Асушыш келіх — два, адразу пасвятлее, і вось яна, пайшла, гатова «Адысея».

●

«Пяе, як Эдзіт» пахвала ці ўцеха: бо была Піяф, а ёсць П'еха.

●

— Тыдзень, як няма гарачай вады, — скардзіўся ліфцёру паэт, апявальнік радасці вясковага жыцця.

●

З Кнігі рэкордаў Гінеса: савецкая мініяцюрная кніга — найбуйнейшая ў свеце.

●

Калі перамаглі і перапісалі першых, аказалася, не было ні другіх, ні іншых.

●

Смяецца і конь, плача і кракадзіл, але толькі чалавек, насмяяўшыся ці наплакаўшыся, можа з палёгкай высмаркацца, каб на душы нічога не ляжала.


Аб'ява

Беларуская акадэмія музыкі

АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС

на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага саставу
/для тых, хто мае мінскую прапіску/

— кафедра опернай падрыхтоўкі
дацэнт — 1
— кафедра спеваў
прафесар — 1
дацэнт — 0,5
ст. выкладчык — 0,25
— кафедра медных духавых і ўдарных інструментаў
прафесар — 1
— кафедра агульнага фартэпіяна
ст. выкладчык — 2
— кафедра філасофіі
дацэнт — 1
— кафедра інструментоўкі, аранжыроўкі і чытання партытур
дацэнт — 1
Даведкі па тэл. 27-49-42, 26-06-70.



ЛіМ

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Выходзіць з 1932 года

Газету рэдагавалі
Х.Дунец (1932–35)
І.Гурскі (1935–41)
А.Куляшоў (1945–46)
М.Горцаў (1947–49)
П.Кавалёў (1949–50)
В.Вітка (1951–57)
М.Ткачоў (1957–59)
Я.Шарахоўскі (1959–61)
Н.Пашкевіч (1961–69)
Л.Прокша (1969–72)
Х.Жычка (1972–76)
А.Асіпенка (1976–80)
А.Жук (1980–86)
А.Вярцінскі (1986–90)

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара),
Юрась ЗАЛОСКА,
Міхась ЗАМСКІ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара),
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі 332–461
намеснікі галоўнага рэдактара 332–525, 331–985
аддзелы:
публіцыстыкі 332–525
пісьмаў і грамадскай думкі 331–985
літаратурнага жыцця 332–462
крытыкі і бібліяграфіі 332–204
паэзіі і прозы 332–204
музыкі 332–153
тэатра, кіно і тэлебачання 332–153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў 332–462
навін 332–462
мастацкага афармлення 332–204
фотакарэспандэнт 332–462
бухгалтэрыя 268–640

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Пазіцыя рэдыкцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом дру .у"

Індэкс 63856. Наклад 19.000.
Нумар падпісаны 10.03.1994 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

